ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!



# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ТЭАРЭТЫЧНЫ І ПАЛІТЫЧНЫ
ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XIII

№ 6
Чэрвень 1939 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, вул. Карла Маркса,
Памяшканне Парткурсаў пры ЦК КП(б)Б,
пакой 13.
Тэлефоны рэдакцыі: нам. рэдактара—камутатар
20-000, даб. 271; агульны—24-887.



## ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ АБ ЧАРГОВЫМ ПЛЕНУМЕ ЦК ВКП(б)

Гэтымі днямі адбыўся чарговы Пленум ЦК ВКП(б).

Пленум абмеркаваў пытанні:

а) Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання;

б) Аб падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю і загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў;

в) Аб сфарміраванні Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК ВКП(б);

г) Аб правядзенні выбараў у мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных, і прыняў адпаведныя рашэнні.

Пленум адобрыў праекты пастаноў ЦК ВКП(б) і СНК СССР:

а) Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання і

б) Аб падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю і загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў.

## ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ

Гэтымі днямі адбыўся чарговы Пленум ЦК КП(б) Беларусі з удзелам сакратароў абкомаў, гаркомаў і райкомаў партыі.

Пленум абмеркаваў пытанні:

а) Аб мерапрыемствах па выкананню пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 27 мая 1939 г. «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання».

б) Аб ссяленні двароў калгаснікаў, пражываючых на былых участках хутарскога землекарыстання, у калгасныя сяленні.

в) Аб падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю і загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў у 1939 годзе.

г) Аб нарушэнні некаторымі пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі і райкомамі КП(б)Беларусі ленінска-сталінскага прынцыпа індывідуальнага адбору ў партыю.

Па ўсіх гэтых пытаннях Пленум прыняў адпаведныя рашэнні.

Пленум выбраў сакратаром ЦК КП(б)Беларусі па кадрах тав. Жыляніна Якіма Александравіча і сакратаром ЦК КП(б) Беларусі па прапагандзе і агітацыі тав. Маліна Владзіміра Нікіфаравіча.

# Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання.

*Пастанова Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) і Совета Народных Камісараў Саюза ССР.*

ЦК ВКП(б) і СНК СССР устанаўляюць наяўнасць сур'ёзных скажэнняў палітыкі партыі ў галіне калгаснага землекарыстання. Гэтыя скажэнні выражаюцца ў нарушэннях пункта другога статута сельскагаспадарчай арцелі аб нормах прысядзібнай зямлі, якая знаходзіцца ў асабістым карыстанні калгаснага двара, у бок іх незаконнага расшырэння шляхам разбазарвання і раскрадання грамадскіх зямель калгаса ў карысць асабістай гаспадаркі калгасніка.

Разбазарванне і раскрадванне грамадскіх зямель калгасаў у карысць асабістых гаспадарак калгаснікаў ідзе па лініі ўсякага роду незаконных прырэзак прысядзібных участкаў звыш прадугледжаных статутам норм у парадку мнімых раздзелаў сем'яў, калі калгасны двор атрымлівае абманным шляхам на долю нібыта выдзяляючыхся членаў сям'і дадатковы ўчастак прысядзібнай зямлі, або ў парадку прамога надзялення калгаснікаў прысядзібнымі ўчасткамі за лік палявых грамадскіх зямель калгаса.

У рэзультаце гэтай процікалгаснай і проціздзяржаўнай практыкі інтарэсы грамадскай гаспадаркі калгаса, асновай якой з'яўляецца грамадская калгасная зямля, прыносяцца ва ўгоду прыватна-ўласніцкім і рвацкім элементам, скарыстоўваючым калгас у мэтах спекуляцыі і асабістай нажывы.

У радзе калгасаў устанавілася такая практыка, калі прысядзібны ўчастак калгасніка ператвараецца на справе ў прыватную ўласнасць калгаснага двара, якой распараджаецца не калгас, а калгаснік па свайму погляду: здае яго ў арэнду, захоўвае прысядзібны ўчастак у сваім карыстанні, не гледзячы на тое, што не працуе ў калгасе.

Разбазарванню і раскрадванню калгасных грамадскіх зямель спрыяюць неразбярыха і беспарадак у зямельнай гаспадарцы калгасаў, калі прысядзібныя ўчасткі і грамадскія землі калгасаў перамешаны паміж сабою такім чынам, што прысядзібныя ўчасткі размешчаны не каля двароў, а нарэзаны ў палявых землях калгаса, прысядзібныя землі не адмежаваны ад палявых зямель, адсутнічае ўчот палявых і прысядзібных зямель.

Усе гэтыя і таму падобныя факты нарушэння статута сельгасарцелі і раздування асабістай гаспадаркі калгаснікаў прыводзяць к таму, што прысядзібная гаспадарка траціць характар падсобнай гаспадаркі і ператвараецца часам у асноўную крыніцу дахода калгасніка.

У выніку гэтага ў калгасах ёсць даволі значная частка мнімых калгаснікаў, якія або зусім не працуюць у калгасах, або працуюць толькі для віду, аддаючы большую частку часу сваёй асабістай гаспадарцы.

Такое становішча, калі адна частка калгаснікаў не ўдзельнічае ў грамадскай працы калгаса і ў той-жа час карыстаецца ўсімі благамі калгаснага жыцця, спекуліруючы сваім становішчам калгасніка і скарыстоўваючы выгоды прабывання ў калгасе ў мэтах асабістай нажывы, — немінуча тармозіць рост прадукцыйнасці грамадскай працы ў калгасах, падрывае працоўную дысцыпліну ў іх, дэзарганізуе чэсных калгаснікаў і тым самым перашкаджае далейшаму росту даходнасці і заможнасці калгасаў.

Становішча, калі ў калгасах частка калгаснікаў ухіляецца ад удзелу ў грамадскай працы,—вядзе да ўтварэння штучнага недахвату рабочай сілы ў калгасах, між тым як на справе ў калгасах большасці раёнаў СССР ёсць вялікая колькасць залішніх рабочых рук, скарыстанне якіх для работы ў калгасах не толькі магло-б ліквідаваць мнімы недахват рабочай сілы ў калгасах, але і выслабаніла-б значную частку рабочай сілы для прамысловасці і для перасялення ў многазямельныя раёны СССР, дзе сапраўды ёсць недахват рабочых рук (Паваложжа, Омская вобласць, Чэлябінская вобласць, Новасібірская вобласць, Чкалаўская вобласць, Алтайскі край, Далёкі Усход, Казахстан).

Усе гэтыя скажэнні асноў палітыкі партыі ў галіне калгаснага будаўніцтва стварыліся на аснове няправільнага, небальшэвіцкага кіраўніцтва калгасамі з боку мясцовых раённых і абласных партыйных і савецкіх арганізацый. Замест таго, каб стаяць на варце грамадскай гаспадаркі калгаса і агражадаць асноўную крыніцу сілы і моцнасці калгаснага ладу—грамадскую зямлю калгаса—ад пасяганняў прыватна-ўласніцкіх элементаў, мясцовыя партыйныя і савецкія кіраўнікі прадаставілі вырашэнне важнейшых пытанняў калгаснага жыцця самацёку і нярэдка, ідучы на паваду рвацкіх элементаў з калгаснікаў, самі бралі на сябе ініцыятыву нарушэння статута сельгасарцелі.

Многія нашы партыйныя і савецкія кіраўнікі, відаць, забылі, што ў калгасах, побач з велізарнай большасцю чэсных працаўнікоў, ёсць пэўная частка калгаснікаў, якая прабуе ўрваць сабе пабольш, а калгасу даць паменш, якая скарыстоўвае ўсякую магчымасць для таго, каб, лічачыся калгаснікамі, карыстаючыся нароўні з чэснымі добрасумленнымі калгаснікамі калгаснай зямлёй, рабочай жывёлай, выпасамі, кармамі і т. д., ухіляцца ад работы ў калгасах і пагарджаць грамадскаю працай, займаючыся раздуваннем сваёй асабістай гаспадаркі.

Указаныя вышэй і ім падобныя грубейшыя скажэнні статута сельскагаспадарчай арцелі атрымалі шырокае распаўсюджанне толькі таму, што партыйныя і савецкія кіраўнікі, замест штодзённага выхавання калгасаў і калгаснікаў у духу строгага захавання калгаснага статута, самі спрыяюць сваёй апартуністычнай практыкай нарушэнню статута і злачынна-благадушна адносяцца да пранікнення ў калгасы варожых калгаснаму ладу прыватна-ўласніцкіх, буржуазных тэндэнцый, занасімых астаткамі разбітага кулацтва.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР, лічачы падобную практыку чуждай большэвізму, у корані апартуністычнай практыкай, патрабуюць ад

усіх мясцовых, партыйных і савецкіх арганізацый неадкладнай ліквідацыі разбазарвання і раскрадвання калгасных грамадскіх зямель, прывядзення размераў прысядзібных участкаў да статутных норм, устанаўлення найстражэйшага кантролю за недатыкальнасцю грамадскіх зямель калгаса, рашучага абуздання рвацкіх і спекулянцкіх элементаў у калгасах.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР пастанаўляюць:

1. Асудзіць як антыпартыйную і антыдзяржаўную практыку раённых і абласных партыйных і савецкіх арганізацый, праўленняў калгасаў і зямельных органаў, дапускаючых нарушэнні статута сельгасарцелі ў галіне калгаснага землекарыстання, якія выражаюцца ў злачынным разбазарванні грамадскіх калгасных зямель у карысць асабістых гаспадарак калгаснікаў.

2. Устанавіць, што грамадскія землі калгаса з'яўляюцца недатыкальнымі і іх размеры ні пры якіх умовах не падлягаюць скарачэнню без асобага дазволу Урада СССР, а могуць быць толькі павялічаны.

3. Усякая спроба ўрэзаць грамадскія землі калгаса ў карысць асабістай гаспадаркі калгаснікаў, а роўна ўсякае павелічэнне прысядзібных участкаў звыш размераў, прадугледжаных статутам сельгасарцелі, будуць разглядацца як крымінальнае злачынства, а вінаватыя будуць падлягаць прыцягненню да суда.

4. Устанавіць, што сакратары райкомаў партыі і старшыні райвыканкомаў, а таксама іншыя партыйныя і савецкія работнікі, дапускаючыя разбазарванне грамадскіх калгасных зямель і павелічэнне размераў прысядзібных участкаў калгаснікаў звыш прадугледжаных статутам норм, будуць падлягаць зняццю з пастоў, выключэнню з партыі і аддачы пад суд, як парушальнікі закона.

5. Калгаснікі, дапускаючыя здачу прысядзібнага ўчастка ў арэнду або перадачу яго ў карыстанне іншым асобам, будуць падлягаць выключэнню з калгаса з пазбаўленнем іх прысядзібных участкаў.

6. Старшыні калгасаў, дапускаючыя здачу сенажацей у калгасных палях і лугах, а таксама ў лясах, пад індывідуальныя сенажаці калгаснікаў і асоб, якія не састаяць у калгасе, будуць выключацца з калгаса і аддавацца пад суд, як парушальнікі закона.

7. Абавязаць ЦК кампартый саюзных рэспублік, крайкомы, абкомы партыі, СНК саюзных і аўтаномных рэспублік, крайвыканкомы і аблвыканкомы правесці да 15 жніўня г. г. абмер усіх прысядзібных зямель, якія знаходзяцца ў асабістым карыстанні калгаснікаў, у тым ліку зямель калгаснікаў па-за сядзібай, якія знаходзяцца ў палях грамадскіх зямель калгасаў, і хутарскіх сядзіб калгаснікаў, размешчаных у грамадскіх палях калгасаў. Пры гэтым:

а) у адпаведнасці з рэзультатамі абмеру, із'яць з прысядзібных зямель калгаснікаў і прырэзаць да грамадскіх калгасных зямель усе злішкі супроць норм, устаноўленых у пункце другім статута сельгасарцелі, які гласіць: «Размеры прысядзібнай зямлі, якая знаходзіцца ў асабістым карыстанні калгаснага двара (не лічачы зямлі пад жыллёвымі пабудовамі), могуць хістацца ад ¼ гектара да ½ гектара, а ў асобных раёнах да 1 гектара ў залежнасці ад абласных і раённых умоў, устанаўляемых наркамземамі саюзных рэспублік, на аснове ўказанняў Наркамзема Саюза ССР»;

б) усе землі асабістага карыстання калгаснікаў, якія знаходзяцца ў калгасных палях па-за сядзібамі (левады, агароды, бахчы і т. п.),

із'яць з асабістага карыстання і далучыць да грамадскіх зямель калгасаў, прычым у тых выпадках, калі прысядзібная зямля, якая астаецца пасля гэтай прырэзкі ў асабістым карыстанні калгаснага двара, аказваецца менш вызначанай статутам нормы, калгас павінен прырэзаць такому двару нехапаючую колькасць зямлі за лік зямельнага прысядзібнага фонда, выдзеленага для надзялення новых калгасных двароў прысядзібнымі ўчасткамі;

в) ліквідаваць размешчаныя ў грамадскіх палях калгасаў хутарскія прысядзібныя ўчасткі калгаснікаў, якія ёсць у раёнах розных абласцей, у тым ліку ў Беларускай ССР, Украінскай ССР, Смаленскай, Калінінскай, Ленінградскай абласцей, і ссяліць гэтых калгаснікаў к аднаму месцу, надзяліўшы іх прысядзібнымі ўчасткамі ў месцах ссялення па статутных нормах. Закончыць гэтую работу к 1 верасня 1940 года.

8. Абмежаваць палявую зямлю, якая знаходзіцца ў карыстанні аднаасобнага сялянскага двара, у бавоўнавых раёнах—у паліўных— дзесяццю сотымі гектара, у непаліўных—палавінай гектара, у раёнах садова-агародных і бурачных—палавінай гектара, ва ўсіх астатніх раёнах—да 1 гектара, а прысядзібны ўчастак, які знаходзіцца ў карыстанні аднаасобнага сялянскага двара, лічачы і зямлю, занятую пад пабудовамі, абмежаваць у паліўных раёнах дзесяццю сотымі гектара, ва ўсіх астатніх раёнах—дваццацю сотымі гектара.

Усе лішкі зямель супроць указаных норм як па палявой, так і па прысядзібнай зямлі аднаасобніка прырэзаць да калгасных зямель і абраціць, галоўным чынам, на папаўненне зямельнага прысядзібнага фонда калгаса.

Роўным чынам абраціць на тую-ж мэту ўтварэнне прысядзібнага зямельнага фонда калгаса: а) прысядзібныя землі мнімых калгаснікаў, якія даўно адарваліся ад калгаснага жыцця і фактычна выбылі з састава калгаса, б) прысядзібныя ўчасткі калгаснікаў, якія не выпрацоўваюць устаноўленага мінімума працадзён і лічацца ў сілу гэтага выбыўшымі з калгаса, в) прысядзібныя ўчасткі калгаснікаў, якія перасяляюцца з малазямельных раёнаў у многазямельныя раёны.

9. Правядзенне мер па пунктах 7-му («а» і «б») і 8-му закончыць не пазней 15 лістапада 1939 года.

10. Прысядзібныя землі кожнага калгаса павінны быць строга адмежаваны ад грамадскіх калгасных зямель указацельнымі слупкамі.

11. Устанавіць у кожным калгасе абавязковы запіс як грамадскіх зямель калгаса, так і прысядзібных участкаў кожнага калгаснага двара, завёўшы для гэтага спецыяльную зямельную шнураву кнігу.

12. Завесці ў зямельных аддзелах райвыканкомаў дзяржаўную зямельную кнігу рэгістрацыі зямель, дзе сканцэнтраваць учот: а) адзінага зямельнага масіва па кожнаму калгасу згодна акта на вечнае карыстанне, б) грамадскіх зямель калгаса (асобна), в) прысядзібных участкаў калгаснікаў (асобна) і г) зямель, якія знаходзяцца ў асабістым карыстанні аднаасобнікаў і іншых не членаў калгаса.

13. Для перыядычнай праверкі фактычных размераў грамадскіх калгасных зямель, фактычных размераў прысядзібных участкаў калгаснікаў з пункту погляду адпаведнасці статуту сельгасарцелі і запісам дзяржаўнай зямельнай кнігі рэгістрацыі калгасных зямель,

а таксама зямель, якія знаходзяцца ў карыстанні аднаасобных двароў і іншых не членаў калгаса, абавязаць Наркамзем СССР увесці пры наркамземах саюзных і аўтаномных рэспублік, абласных і краявых зямельных аддзелах пасады рэвізораў-землямераў.

14. У сувязі з тым, што ў калгасах ёсць не толькі чэсныя працаўнікі, якія выпрацоўваюць ад 200 да 600 і больш працадзён у годзе, складаюць пераважную большасць калгаснікаў і прадстаўляюць асноўную сілу калгаснага руху, але ёсць таксама некаторая частка працаздольных калгаснікаў, якія выпрацоўваюць на працягу года не больш 20—30 працадзён, але прадаўжаюць лічыцца калгаснікамі і сядзяць на шыі калгаса, — лічыць мэтазгодным устанавіць з 1939 года для кожнага працаздольнага калгасніка і калгасніцы абавязковы мінімум працадзён у годзе.

а) у размеры 100 працадзён у бавоўнавых раёнах,

б) у размеры 60 працадзён у Маскоўскай, Ленінградскай, Іванаўскай, Яраслаўскай, Горкаўскай, Калінінскай, Валагодскай, Тульскай, Разанскай, Смаленскай, Архангельскай, Мурманскай, Кіраўскай, Пермскай, Свярдлоўскай, Чыцінскай абласцях, Хабараўскім і Прыморскім краях, Карэльскай, Комі, Марыйскай і Якуцкай АССР, у высокагорных зернавых і жывёлагадоўчых раёнах па спіску Наркамзема СССР,

в) у размеры 80 працадзён для ўсіх астатніх раёнаў СССР.

Рэкамендаваць (параіць) калгасам устанавіць, што працаздольныя калгаснікі і калгасніцы, якія выпрацоўваюць на працягу года ніжэй указаных вышэй норм, павінны лічыцца выбыўшымі з калгаса і страціўшымі правы калгасніка.

15. У сувязі з тым, што калгасныя грамадскія землі не могуць скарачацца, а ў малазямельных калгасах ужо вычарпаны рэзервы зямлі для надзялення калгаснікаў прысядзібнымі ўчасткамі па статутных нормах,—лічыць неабходным перасяленне калгаснікаў з такіх калгасаў у многазямельныя раёны (Паваложжа, Омская вобласць, Чэлябінская вобласць, Алтайскі край, Казахстан, Далёкі Ўсход і т. д.). Для кіраўніцтва справай перасялення залішняй часткі калгаснікаў у многазямельныя раёны ўтварыць пры СНК СССР Перасяленчае Упраўленне з яго органамі ў саюзных рэспубліках, абласцях і краях.

16. Устанавіць, што за сем'ямі рабочых і служачых, якія жывуць і састаяць у калгасах, захоўваецца прысядзібны ўчастак у межах устаноўленых норм толькі ў тым выпадку, калі працаздольныя члены ўказаных сем'яў працуюць у калгасе, выконваючы ўстаноўлены мінімум працадзён.

17. Склікаць восенню 1939 года з'езд калгаснікаў, на якім паставіць пытанне аб папраўках да статута сельгасарцелі.

**Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) І. СТАЛІН**

**Старшыня Совета Народных Камісараў Саюза ССР В. МОЛАТАЎ**

27 мая 1939 г.

# Аб падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю і загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў у 1939 годзе.

*Пастанова Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) і Совета Народных Камісараў Саюза ССР.*

ЦК ВКП(б) і СНК СССР лічаць важнейшай задачай партыйных, совецкіх, зямельных і загатоўчых органаў шырокую мабілізацыю калгасных мас, работнікаў МТС, соўгасаў і загатоўчых органаў для своечасовага правядзення высокаякасных работ па догляду за пасевамі, хутчэйшага завяршэння падрыхтоўкі да ўборкі ўраджаю і загатоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР папярэджваюць партыйныя, совецкія, зямельныя і загатоўчыя органы аб недапушчальнасці паўтарэння памылак, меўшых месца **пры ўборцы і загатоўцы хлябоў** мінулага года, у асаблівасці ў Чэлябінскай, Омскай, Новасібірскай, Паўночна-Казахстанскай абласцях і Алтайскім краі, заключаўшыхся:

а) у несвоечасовым сканчэнні рамонту камбайнаў, простых уборачных і зернаачышчальных машын і ў нізкай якасці рамонту іх;

б) у недастатковым скарыстанні простых уборачных машын з прычыны недаацэнкі іх значэння;

в) у запушчанасці справы падрыхтоўкі механізатарскіх кадраў, што патрабавала масавай перакідкі камбайнераў, механікаў і шофераў з паўднёвых раёнаў ва ўказаныя вышэй раёны ўсхода;

г) у спазненні кіраўнікоў мясцовых партыйных і совецкіх органаў у справе падрыхтоўкі і кіраўніцтва ходам уборкі і загатоўкі хлябоў.

Усе гэтыя недахопы прывялі ва ўказаных абласцях да вялікіх страт ураджаю і да значнай зацяжкі ўборкі і абмалоту хлябоў, які (абмалот) у радзе раёнаў да гэтага часу яшчэ не закончан.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР адзначаюць буйнейшыя недахопы, меўшыя месца ў арганізацыі загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў ураджаю 1938 года, галоўныя з якіх заключаліся ў **няправільнай арганізацыі справы аднясення калгасаў да разрадаў ураджайнасці для налічэння натураплаты**, што прывяло да шматлікіх фактаў заніжэння ўраджайнасці ў калгасах і штучнага зніжэння размераў натураплаты.

Такое становішча, якое стварылася пры патуранні мясцовых партыйных, комсамольскіх і совецкіх органаў і апартуністычных адносінах іх кіраўнікоў да антыдзяржаўнай практыкі раённых камісій па аднясенню калгасаў да разрадаў ураджайнасці, было выпраўлена толькі ў рэзультаце ўмяшання ЦК ВКП(б) і СНК Саюза ССР.

Не гледзячы на зусім дастатковую колькасць аўтамашын для перавозкі сельскагаспадарчых прадуктаў, з-за дрэннага скарыстання

аўтатранспарта ў перыяд загатоўчай кампаніі і адцягнення значнай часткі аўтамашын на перавозку іншых грузаў, **зацягнулася справа вывазкі з глыбінных пунктаў сельскагаспадарчых прадуктаў і ў асаблівасці хлеба,** у рэзультаце чаго да гэтага часу прадаўжае аставацца ў глыбінцы значная колькасць нявывезенага хлеба ў Алтайскім краі, Омскай, Новасібірскай, Чэлябінскай, Паўночна-Казахстанскай, Кустанайскай абласцях, Башкірскай і Татарскай АССР.

У рэзультаце недаўліку загатоўчымі органамі ўзросшага значэння паўночных і ўсходніх раёнаў Савецкага Саюза, як базы вытворчасці зярна, будаўніцтва зернаскладаў і зернасушылак у гэтых раёнах рэзка адстала ад узросшай патрэбнасці, што прывяло да скаплення на загатоўчых пунктах і элеватарах гэтых раёнаў сырога і вільготнага зярна і да недапушчальнай практыкі захоўвання зярна ў бунтах.

У мэтах ліквідацыі недахопаў, меўшых месца ў леташняй уборачнай і загатоўчай кампаніі, і для своечасовага і высокаякаснага правядзення ўборкі ўраджаю і загатоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў у бягучым годзе,—Цэнтральны Камітэт ВКП(б) і Совет Народных Камісараў Саюза ССР **пастанаўляюць:**

I.

**Уборка зернавых культур.**

Абавязаць Наркамзем, Наркомсоўгасаў, Наркамхарчпром і Наркаммясмалпром СССР, ЦК кампартый саюзных рэспублік, советы народных камісараў рэспублік, краявыя, абласныя і раённыя камітэты партыі, камсамола і выканаўчыя камітэты Советаў, дырэктароў МТС, соўгасаў і старшынь калгасаў:

1) Забяспечыць сканчэнне рамонту аўтамашын, камбайнаў і іншых уборачных машын ва ўстаноўленыя ўрадам тэрміны, дабіўшыся высокай якасці рамонту.

2) Да пачатку ўборкі замацаваць у натуры ўчасткі за кожным камбайнерам, у адпаведнасці з зацверджаным планам камбайнавай уборкі па кожнай МТС і соўгасу.

3) Праверыць гатоўнасць камбайнаў і трактароў да работы і забяспечыць не пазней, чым за 5 дзён да пачатку ўборкі, дастаўку ўсіх камбайнаў да месца работы, выдзеліўшы ў распараджэнне камбайнера камплект неабходных запасных частак і інструментаў (звенні, ланцугі, сегменты, планкі і т. д.).

4) На час уборкі замацаваць за кожным камбайнам калгаснікаў для абслугоўвання камбайна па пракосу загонаў, абкосу вуглоў, падвозцы гаручага, ачысткі і прасушкі зярна, уборкі саломы і паловы і забяспечыць іх зернаачышчальнымі машынамі і дастатковай колькасцю жывога цягла і аўтатранспарта калгасаў.

5) Забяспечыць у перыяд хлебаўборкі своечасовы і старанны тэхнічны догляд за камбайнамі і трактарамі, арганізаваць у кожнай МТС і ў кожным соўгасе па адной аўтаперасовачнай майстэрні на 15—20 камбайнаў і ўкамплектаваць гэтыя майстэрні кваліфікаванымі тэхнічнымі кадрамі, а таксама неабходным інструментам і запаснымі часткамі.

6) Даручыць Эканомсовету разгледзець і ўнесці ў трохдзённы тэрмін на зацвярджэнне Соўнаркома СССР і ЦК ВКП(б) прапановы:

а) аб адгрузцы запасных частак для камбайнаў і іншых уборач-



ных машын, запасных частак, у асаблівасці сітаў для зернаачышчальных машын, рознавагаў, вымяральнікаў вільгаці і пурак для Наркамзага і Наркамзема;

б) аб мерапрыемствах па ўзмацненню выпуску сенакасільных і зернаачышчальных машын да ўборачнай кампаніі гэтага года.

7) Устанавіць для раёнаў календарныя тэрміны рамонту і дэзінфекцыі маючыхся сховаў зярна і будаўніцтва новых складскіх пабудоў, забяспечыўшы сістэматычны кантроль за ходам выканання ўстаноўленых планаў гэтых работ.

8) Загадзя, не пазней, чым за 9—10 дзён да пачатку ўборкі, забяспечыць складанне па МТС, калгасах і соўгасах планаў уборкі ўраджаю, прадугледзеўшы ў іх правільнае спалучэнне ўборачных работ з іншымі сельскагаспадарчымі работамі, супадаючымі з уборкай, правільнае скарыстанне камбайнаў і простых уборачных машын. Планы ўборкі ўраджаю абмеркаваць на агульных сходах калгаснікаў і на вытворчых нарадах МТС і соўгасаў.

9) У мэтах лепшага скарыстання калгасных аўтамашын, у перыяд уборкі рэкамендаваць калгасам, пры перавыкананні шоферамі-калгаснікамі на калгасных машынах існуючых норм выпрацоўкі, рабіць дадатковую надбаўку да аплаты ў працаднях у размеры 50 проц. за зробленую звыш нормы работу.

10) Устанавіць старанны нагляд у брыгадах за паспяваннем асобных участкаў хлябоў з тым, каб, не чакаючы паспявання ўсяго масіва, забяспечыць пачатак выбарачнай уборкі камбайнамі і простымі машынамі на ўчастках з паспеўшымі хлябамі.

Уборку хлябоў простымі ўборачнымі машынамі пачаць выбарачна ў перыяд васковай спеласці зярна. Правесці ўслед за ўборкай вязку ў снапы ўсяго скошанага хлеба. Закончыць скірдаванне хлеба, убранага простымі ўборачнымі машынамі, не пазней 10—15 дзён пасля касавіцы. Пачаць абмалот не пазней 3—5 дзён пасля пачатку касавіцы, арганізаваўшы ў першую чаргу малацьбу з копнаў, забяспечыўшы работу малатарань МТС не менш 20 гадзін у суткі.

11) Абавязаць партыйныя, совецкія і зямельныя органы Казахскай ССР, Башкірскай АССР, Алтайскага, Хабараўскага, Краснаярскага краёў, Варонежскай, Сталінградскай, Саратаўскай, Курскай, Куйбышэўскай, Омскай, Новасібірскай і Чэлябінскай абласцей прыняць неадкладныя меры да падрыхтоўкі з лепшых трактарыстаў нехапаючай да ўборкі колькасці камбайнераў і іх памочнікаў. Абавязаць Наркамзем выдзеліць неабходныя сродкі для падрыхтоўкі.

12) Устанавіць старанны кантроль за якасцю ўборкі хлеба, не дапускаючы ўборкі камбайнамі на высокім зрэзе, не гнацца за колькасцю гектараў пры ўборцы палёгшага хлеба пры густым хлебастоі, памяншаючы пры гэтым шырыню захвату хедэрам. На ўсіх плошчах уборкі, следам за скошваннем, абавязкова рабіць падборку астаўшыхся на полі каласоў шляхам зграбання коннымі і ручнымі граблямі, а таксама падборку саломы і скірдавання пасля камбайна.

13) Устанавіць, што брыгадзір паляводчай брыгады калгаса абавязан штодзённа рабіць старанную прыёмку ўбраных участкаў, а старшыня калгаса—прыёмку ад брыгадзіраў не пазней, чым праз 3 дні пасля сканчэння работ на даным участку.

14) Увесці ў калгасах, як правіла, узважванне хлеба, атрыманага ад абмалоту і ўборкі камбайнамі, а таксама пры прыёмцы хлеба ў калгасныя зернасховы. Забяспечыць у калгасах старанную ахову палёў і зярна на токах і ў зернасховах. Адказнасць за захаванне

зярна на палях і токах ускласці па кожнай брыгадзе на брыгадзіра, а па калгасу ў цэлым—на старшыню калгаса.

15) Надаючы выключнае значэнне справе забеспячэння калгасаў і соўгасаў высокаякасным сартавым насеннем з ураджаю, сабранага з насенных участкаў, арганізаваць асабліва старанную ўборку зернавых культур у райнасенгасах і на насенных участках калгасаў і соўгасаў, выдзеліўшы для ўборкі лепшыя камбайны і найбольш вопытных камбайнераў. Уборку насенных участкаў рабіць у першую чаргу і ў перыяд поўнай спеласці зярна, закончыўшы яе ў самыя сціслыя тэрміны, не дапускаючы змешвання сартоў і катэгорый зярна пры ўборцы, малацьбе, перавозцы, ачыстцы і хаванні зярна з насенных участкаў і пасеваў райнасенгасаў.

16) Забараніць скарыстанне насення ўраджаю з насенных участкаў на якія-б там ні было іншыя патрэбы, апрача як на пасеў, дазволіўшы калгасам і соўгасам засыпаць зярно з насенных участкаў у насенныя фонды, не чакаючы выканання плана здачы зярна дзяржаве.

17) Для забеспячэння поўнай замены радавога насення сартавым скарыстаць у неабходнай колькасці, апрача насення райнасенгасаў і насенных участкаў, таксама сартавое насенне, атрыманае з астатніх апрабіраваных плошчаў пасеваў. Забяспечыць асобную ўборку і хаванне сартавога зярна ў размерах, неабходных для ўласных патрэб калгаса, выканання плана міжкалгаснага абмену і плана загатовак сартавога зярна па Дзяржсортфонду і Заготзярно.

18) Захаваць на 1939 год на час уборкі і да выканання плана загатовак адлічэнне зярна, сланечніка і рысу для выдачы калгаснікам авансам і на ўнутрыгаспадарчыя патрэбы калгасаў у размерах: па зярну—10 проц. ад фактычна намалочанага зярна, выключаючы абмалот з насенных участкаў, з павышэннем да 15 проц. для перадавых, добра працуючых калгасаў; па сланечніку і рысу—5 проц. ад колькасці зданага на заготпункты сланечніка і рысу.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР папярэджваюць Наркамзем, Наркомсоўгасаў, Наркамхарчпром, Наркаммясмалпром СССР, партыйныя і савецкія арганізацыі аб недапушчальнасці паўтарэння меўшай месца ў мінулыя годы практыкі ігнаравання работ па догляду за пасевамі проса, кукурузы і сланечніка і абавязваюць у бягучым годзе:

а) правесці не менш 2—3-разовай апрацоўкі шырокарадных пасеваў проса з прымяненнем ручной праполкі ў радках;

б) правесці не менш 2—3-разовай ручной праполкі проса на суцэльных пасевах;

в) правесці не менш 2—3 поўных апрацовак пасеваў кукурузы.

## II.

## Загатоўка зернавых культур і сланечніка.

1) Абавязаць мясцовыя партыйныя і савецкія арганізацыі аказваць неабходную дапамогу ўпаўнаважаным Наркамзага ў абласцях, краях і рэспубліках у іх рабоце па аднясенню калгасаў да разрадаў ураджайнасці прадастаўленнем у іх распараджэнне правераных работнікаў для правядзення кантрольных мерапрыемстваў і па прасячэнню ўсякіх антыдзяржаўных спроб, накіраваных да заніжэння ўраджайнасці калгасаў і, тым самым, да штучнага зніжэння размераў натураплаты.

2) Абавязаць дырэктароў МТС уручыць рахункі калгасам за

работы МТС не пазней двухтыднёвага тэрміну па атрыманні паведамлення Упоўнаркамзага аб аднясенні калгасаў да разрадаў ўраджайнасці.

Папярэдзіць дырэктароў МТС аб іх асабістай адказнасці перад дзяржавай за своечасовае ўручэнне рахункаў калгасам за выкананыя работы МТС, устанавіўшы парадак уручэння рахункаў за выкананую работу не пазней, чым пасля сканчэння 10-дзённага тэрміну.

3) У мэтах арганізаванага і своечасовага правядзення загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў з ураджаю 1939 года, прапанаваць партыйным, совецкім і загатоўчым арганізацыям, дырэктарам МТС і соўгасаў, старшыням калгасаў:

а) арганізаваць здачу зярна, рысу і сланечніка дзяржаве па абавязковых пастаўках у наступныя тэрміны (гл. дадатак);

б) устанавіць, што з першых партый зярна, здаваемых калгасамі і соўгасамі дзяржаве, у першую чаргу пагашаюцца атрыманыя калгасамі і соўгасамі ад дзяржавы насенная, харчовая і фуражная ссуды;

в) пагашэнне нядоімак мінулых год па абавязковых пастаўках і натураплаце праводзіць у тэрміны і ў парадку, устаноўленым для абавязковых паставак;

г) забяспечыць здачу на загатоўчыя пункты калгасамі і соўгасамі зусім добраякаснага зярна, сланечніка і рысу, для чаго арганізаваць старанную ачыстку зярна, у асаблівасці паступаючага з-пад камбайна.

4) Абавязаць Наркомсоўгасаў, Наркамзем, Наркамхарчпром і Наркаммясмалпром СССР размеркаваць устаноўлены ў данай пастанове гадавы план здачы хлеба соўгасамі, прывёўшы ў адпаведнасць промфінпланы з планам хлебаздачы і захаваўшы існаваўшы ў мінулым годзе парадак, па якому ўвесь хлеб, здаваемы соўгасамі звыш промфінплана, здаецца дзяржаве на ўмовах хлебазакупак.

Абавязаць партыйныя, комсамольскія і совецкія арганізацыі, дырэктароў і начальнікаў палітаддзелаў соўгасаў забяспечыць своечасовае і поўнае выкананне соўгасамі планаў хлебаздачы ва ўстаноўленыя тэрміны, а таксама абавязковую здачу дзяржаве ўсіх лішкаў зярна, сланечніка і рысу, якія могуць аказацца ў соўгасах пасля поўнага выканання плана здачы зярна дзяржаве і засыпкі насенных і фуражных фондаў.

5) Устанавіць, што здача зярна па пастаўках калгасамі, калгаснікамі і аднаасобнымі гаспадаркамі павінна праводзіцца ў дакладнай адпаведнасці з уручанымі абавязацельствамі, а іменна: пшаніца, жыта, бабовыя і кукуруза ў размерах, устаноўленых абавязковымі пастаўкамі для кожнай з гэтых культур, а па іншых зернавых культурах—у размерах, устаноўленых абавязацельствамі для гэтых культур, з правам здачы любой культуры па выбару, апрача грэчкі і проса, якія не могуць замяняцца.

6) Абавязаць Наркамзаг да пачатку загатовак правесці добраякасны рамонт складаў, элеватараў, іх дэзінфекцыю, снабжэнне заготпунктаў неабходным інвентаром з тым, каб забяспечыць бесперабойную прыёмку і хаванне хлеба без страт і закончыць к 1 жніўня будаўніцтва новых элеватараў, складаў на 1.700 тыс. тон ёмкасці.

7) Абавязаць Наркамзаг, Наркамзем і Наркомсоўгасаў СССР закончыць к 1 жніўня рамонт існуючых і будаўніцтва новых зернасушылак па плану будаўніцтва на 1939 год.

8) Асудзіць, як злачынную, практыку хавання органамі Наркамзага загатоўленага хлеба ў бунтах і ўстанавіць, што асобы, вінаўныя ў дапушчэнні хавання хлеба ў бунтах у новую загатоўчую кампанію, без асобага на тое дазволу ў выключных выпадках урада СССР, будуць прыцягвацца да крымінальнай адказнасці, як парушальнікі закона.

Абавязаць:

а) Наркамзаг СССР забяспечыць выкананне плана будаўніцтва зернавых складаў, навесаў і элеватараў і арганізаваць да паступлення новага хлеба, але не пазней 1 жніўня 1939 года, вывазку хлебных лішкаў старога ўраджаю з загатоўчых складаў «Загот-зярно» у Казахскай ССР, Башкірскай АССР, Алтайскім краі, Новасібірскай, Омскай, Чэлябінскай і Чкалаўскай абласцях;

б) НКШЗ і Наркамрэчфлот адпаведна забяспечыць вывазку хлеба неабходнай колькасцю вагонаў і барж;

в) абласныя і раённыя партыйныя і совецкія арганізацыі забяспечыць поўнасцю рабочай сілай як бесперабойную пагрузку хлеба ў вагоны і баржы, так і будаўніцтва зернасховаў Наркамзага СССР і Упраўлення дзяржаўных рэзерваў пры СНК СССР.

9) Забараніць мясцовым партыйным і совецкім органам праводзіць адкрыццё глыбінных пунктаў для прыёмкі хлеба без дазволу на тое ў кожным асобным выпадку Эканомсовета пры СНК СССР і асудзіць, як антыдзяржаўную практыку, спробы ў асобных абласцях, краях і рэспубліках адкрыццё глыбінных пунктаў у калгасах і прыёму хлеба загатоўчымі арганізацыямі на токах калгасаў і соўгасаў.

10) У мэтах правільнага скарыстання аўтатранспарта для своечасовай вывазкі глыбіннага хлеба, буракоў, бульбы і бавоўны, перадаць Сельгастранс Наркамзема СССР з усім аўтапаркам (апрача некаторай часткі, падлягаючай перадачы МТС па пастанове СНК СССР і ЦК ВКП(б)), рамонтнымі майстэрнямі і гаражамі з Наркамзема СССР у сістэму Наркамзага, арганізаваўшы ў саставе Наркамзага Галоўнае ўпраўленне аўтатранспарта.

11) Для паляпшэння справы загатовак і хавання сартавога насення, перадаць з Наркамзема СССР у веданне Наркамзага Упраўленне Дзяржаўнага Страхавога Фонда Сартавога Насення (Дзяржстрахфонд).

12) Адзначаючы ўсё яшчэ існуючыя вялікія страты зярна і заражонасць шкоднікамі зярна, якое захоўваецца на загатоўчых пунктах, ЦК ВКП(б) і СНК СССР:

а) умяняюць у абавязак работнікам загатоўчых пунктаў разгарнуць энергічную работу па ліквідацыі страт і ачыстцы зярна ад шкоднікаў;

б) абавязваюць Наркамзаг, Цэнтрасаюз, Наркамзем СССР па дзяржсортфонду, да паступлення зярна новага ўраджаю, правесці шляхам суцэльнага пераважвання на сваіх складах, інвентарызацыю хлебных астаткаў зярна, прадуктаў яго пераапрацоўкі, бабовых і маслічных культур і насення траў, з вызначэннем наяўнасці іх па стану на 1 ліпеня 1939 года;

в) абавязваюць мясцовыя партыйныя, совецкія, зямельныя і загатоўчыя арганізацыі прыняць неабходныя меры да своечасовага сканчэння рамонту дарог, пад'ездных шляхоў, мастоў, аўтамашын Сельгастранса, Соўгастранса і калгасаў і поўнага скарыстання на перавозках зярна жывога цягла калгасаў.

III.

## Уборка і загатоўка тэхнічных культур.

### А. БАВОЎНА.

1) ЦК ВКП(б) і СНК СССР адзначаюць, што, побач з вялікімі поспехамі ў галіне бавоўнаводства, мае месца яшчэ рад недахопаў, у асаблівасці ў галіне скарыстання вады для абваднення і барацьбы з сельскагаспадарчымі шкоднікамі бавоўны, што прыводзіць да значных страт і зніжэння ўраджаю.

У новых раёнах непаліўнога бавоўнаводства, у асаблівасці ў Дагестанскай АССР, Краснадарскім і Орджанікідзеўскім краях, Сталінградскай вобласці і Нікалаеўскай вобласці УССР, нецярпіма дрэнна абстаіць справа з уборкай бавоўны, з-за чаго ў 1938 годзе частка няўбранай бавоўны асталася пад снегам.

2) ЦК ВКП(б) і СНК СССР абавязваюць Наркамзем СССР, Наркомтэкстыль СССР і мясцовыя партыйныя, комсамольскія і совецкія органы:

а) ліквідаваць меўшыя месца ў мінулым годзе недачоты ў апрацоўцы, уборцы і загатоўцы бавоўны-сырца, звярнуўшы асобую ўвагу на барацьбу са шкоднікамі і хваробамі баваўняніка і недапушчэнне збору недаспелай і здачы вільготнай бавоўны;

б) закончыць вывазку астаткаў бавоўны-сырца ўраджаю 1938 г. з загатоўчых пунктаў на заводы не пазней 1 жніўня г.г. з тым, каб да паступлення бавоўны-сырца новага ўраджаю поўнасцю адрамантаваць, ачысціць і прадэзінфецыраваць усе складскія памяшканні пад бавоўну ўраджаю 1939 года.

### Б. БУРАКІ.

Абавязаць Наркамзем і Наркамхарчпром СССР, мясцовыя партыйныя, комсамольскія і совецкія арганізацыі:

а) забяспечыць у калгасах і соўгасах правядзенне ўсіх агратэхнічных мерапрыемстваў для атрымання высокіх ураджаяў цукровых буракоў, арганізаваўшы на працягу ўсяго перыяда развіцця буракоў барацьбу з доўганосікам, лугавым матыльком, азімай соўкай і іншымі шкоднікамі, праполку буракоў ад пустазелля, правядзенне міжраднага рыхлення не менш 2—3 раз; правядзенне адной—двух падкормак мясцовымі і мінеральнымі ўгнаеннямі;

б) асоба старанна і своечасова падрыхтавацца да ўборкі цукровых буракоў, закончыўшы к 20/VIII рамонт трактароў, бурака-пад'ёмнікаў, вазоў, выраб неабходнага ўборачнага інвентара (мерніцы, маты, нажы для абрэзкі і т. п.) і к гэтаму-ж тэрміну закончыць рамонт дарог і мастоў, арганізаваўшы пастаянны догляд за імі;

в) устанавіць пачатак масавага капання цукровых буракоў 15—20 верасня, а ў зонах цукровых заводаў, забяспечаных буракамі на працяжны перыяд работы, разгарнуць масавае капанне цукровых буракоў 5—10 верасня;

г) устанавіць тэрміны сканчэння капання і возкі буракоў:

| | Копка | Возка |
|---|---|---|
| 1. Па Украінскай ССР . . . . . | 30.X | 10.XI |
| 2. Па Грузінскай ССР, Армянскай ССР і Краснадарскаму краю . . . . . | 5.XI | 15.XI |

| | Копка | Возка |
|---|---|---|
| 3. Па Кіргізскай ССР, Казахскай ССР . . | 5.XI | 25.XI |
| 4. Па Алтайскаму краю і Новасібірскай вобласці . . . . . . . . . | 10.X | 25.X |
| 5. Па Варонежскай, Курскай, Орлоўскай, Пензенскай, Разанскай, Саратаўскай, Тамбоўскай, Тульскай абласцях, Прыморскаму краю і Башкірскай АССР . . . | 25.X | 5.XI |

## В. ЛЁН І КАНОПЛІ.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР устанаўліваюць, што прынятыя ў 1938 годзе партыяй і ўрадам меры па пад'ёму ільнаводства і канапляводства не далі яшчэ чакаемых рэзультатаў, бо справа механізацыі пярвічнай апрацоўкі, уборкі ільну і канапель усё яшчэ астаецца запушчанай, не гледзячы на наяўнасць дастатковай колькасці машын, якія могуць забяспечыць амаль поўную механізацыю ўборкі і пярвічнай апрацоўкі ільну і канапель.

Дзякуючы антымеханізатарскім тэндэнцыям у рабоце мясцовых партыйных, савецкіх, зямельных арганізацый, у мінулым годзе вялікая колькасць ільну і канапель аставалася не ўбранай, не апрацаванай, папсавалася або зусім загінула. У асаблівасці справа ільнаводства і канапляводства дрэнна пастаўлена ў такіх абласцях, як Омская, Новасібірская, Пермская, Алтайскі і Краснаярскі краі, Татарская і Башкірская АССР.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР, прызнаючы нецярпімым такое становішча з ільнаводствам і канапляводствам, абавязваюць Наркамзем СССР, мясцовыя партыйныя, камсамольскія, савецкія, зямельныя і загатоўчыя арганізацыі:

а) забяспечыць належны догляд за пасевамі ільну і канапель;

б) для дасягнення высокага ўраджаю—дабіцца таго, каб не пазней, як за 15 дзён да ўборкі, у кожным калгасе быў выдзелен і праверан насенны ўчастак ільну і канапель, насенне з якога на працягу 10—15 дзён пасля цераблення павінна быць засыпана ў насенныя фонды калгасаў у размеры, забяспечваючым план сяўбы будучага года;

в) забараніць скарыстанне насення ільну і канапель, сабраных з насенных участкаў калгасаў, на якія-б там ні было іншыя патрэбы, апрача пасеўных;

г) для задаволення прамысловасці высокаякасным ільном ад № 26 і вышэй адабраць у 1939 годзе спецыяльныя ўчасткі ў ільнаводчых раёнах з агульнай плошчаю пасеву не менш 2.000 **га,** на якіх замацаваць вопытных калгаснікаў для старannай апрацоўкі пасеву і высокіх нумароў ільну;

д) забяспечыць не пазней 10.VII сканчэнне добраякаснага рамонту ўсіх ільнацерабілак, ільнатрапалак і канаплеўборачных машын;

е) не пазней, чым за 15 дзён да пачатку цераблення, дырэктарам МТС, сумесна са старшынямі калгасаў, адвесці ўчасткі для машыннага цераблення ільну і ўборкі канапель, зацвердзіўшы па кожнай МТС і кожнаму калгасу канкрэтны план своечасовай ручной і машыннай пярвічнай апрацоўкі ільну і канапель, прадугледзеўшы правільнае скарыстанне ўсіх машын на ўборцы і пярвічнай апрацоўкі ўсіх пасеваў ільну і канапель;

ж) адабраць і падрыхтаваць з лепшых трактарыстаў, механікаў і раней працаваўшых на ільноцерабільных, ільнотрапальных і канаплеўборачных машынах неабходны кадр машыністаў;

з) закончыць рассціл і замочку ўсёй ільнянай саломы і пасконі канапель у жніўні месяцы і замочку каноплі-мацеркі пачаць неадкладна пасля абмалоту з такім разлікам, каб да наступлення замаразкаў правесці выемку з мачыл усяго ўраджаю канапель, не дапускаючы разрыву паміж уборкай, абмалотам і рассцілам (мочкай) ільну і канапель;

і) праводзіць старанную сартыроўку сцяблоў ільну і канапель пры ўборцы, рассціле, пад'ёме са сцелішчаў, замочцы, сушцы і пярвічнай апрацоўцы.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР **пастанаўляюць:**

1) Адмяніць існуючы парадак аплаты машыністаў на ільноцерабільных, ільнотрапальных і каноплеўборачных машынах і складаных ільномалатарнях, як не стымулюючы прымяненне машын на ўборцы, пярвічнай апрацоўцы ільну і канапель, і адобрыць загад НКЗема СССР аб нормах выпрацоўкі і аплаце працы машыністаў на ільноцерабільных, ільнотрапальных, каноплеўборачных машынах і складаных ільняных малатарнях, апублікаваны ў газеце «Социалистическое земледелие» ад 28 мая 1939 г.

2) Уключыць у штат пастаянных работнікаў МТС машыністаў ільноцерабільных, ільнотрапальных і каноплеўборачных машын, пашырыўшы на іх устаноўлены гарантаваны мінімум зарплаты для камбайнераў у размеры 200—240 рублёў у месяц.

3) У мэтах упарадкавання загатоўчай работы і набліжэння прамысловасці да сыравіннай базы ільно-і пеньказагатовак перадаць з Наркамзага ў Наркомтэкстыль СССР аб'яднанне «Заготлён» Наркамзага з усімі загатоўчымі пунктамі і апаратам.

## Г. БУЛЬБА І ГАРОДНІНА.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР абавязваюць Наркамзем, Наркомсоўгасаў, Наркамхарчпром, Наркамзаг, Наркаммясмалпром, Наркомгандаль Саюза ССР, Цэнтрасаюз і мясцовыя партыйныя, комсамольскія і савецкія арганізацыі:

1) правесці не менш 3—4 міжрадных апрацовак бульбы, гародніны, максімальна выкарыстоўваючы конныя і трактарныя культыватары, акучнікі, забяспечыўшы сістэматычную барацьбу са шкоднікамі і хваробамі гэтых культур.

Арганізаваць не менш двух раз падкормку ўсіх насеннаводчых пасеваў, а таксама пасеваў гародніны ў прыгарадных зонах.

2) Звярнуць асаблівую ўвагу на своечасовае правядзенне паліву гародных культур, шырока прымяняючы прасцейшыя спосабы паліву.

3) Правесці апрабацыю пасеваў бульбы, вызначаных на насенныя мэты, а таксама насеннаводчых пасеваў гародніх культур, правёўшы прачыстку пасеваў ад хворых раслін і прымесяў іншых сартоў.

Забяспечыць восенню поўную засыпку добраякаснай насеннай бульбы, прадугледзеўшы стварэнне страхавога насеннага фонда ў размеры 10 проц. звыш патрэбнасці насення бульбы для пасеву 1940 года. Забяспечыць належныя ўмовы яе хавання, не дапускаючы змешвання сартавой бульбы з радавой.

4) Прывесці да 15 жніўня ў поўную гатоўнасць тэхнічную базу для прыёму і хавання без страт бульбы і гародніны, асабліва заклад-

ваемых на зімняе хаванне, і забяспечыць з 15 верасня па 15 лістапада кругласутачную прыёмку і пагрузку гародніны і бульбы ў месцах і ў перыяды масавага прад'яўлення іх да пагрузак.

### Д. ТАБАК І МАХОРКА.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР абавязваюць Наркамзем і Наркамхарчпром СССР, партыйныя, комсамольскія і совецкія арганізацыі:

1) Праводзіць уборку табачных лісцяў па меры іх паспявання абавязкова па ярусах, не дапускаючы змешвання розных ломак табаку. Не дапускаць уборкі недаспелых ці пераспелых лісцяў і пры няроўным паспяванні практыкаваць выбарачную ўборку лісцяў з тым, каб дабіцца павышэння выхаду высокасортных табакоў.

2) Для механізацыі нізкі табакоў абавязаць Наркамхарчпром СССР зрабіць к пачатку ўборкі табакоў ураджаю 1939 года 20—30 нізальных машын Квірквелія для масавага выпрабавання з тым, каб да ўборкі табакоў ураджаю 1940 года вырабіць гэтых машын не менш 500 шт.

3) Забяспечыць сканчэнне пераходзячага будаўніцтва сушыльных пабудоў для табаку і навесаў для махоркі, а роўна капітальны і бягучы рамонт існуючых сушыльных пабудоў не пазней 1. VIII.

4) Забяспечыць своечасовую ўборку ўраджаю ў наступныя тэрміны:

а) па махорцы—не пазней 10.IX па ўсіх раёнах, за выключэннем Алтайскага і Краснаярскага краёў і Новасібірскай вобласці, дзе ўборку закончыць не пазней 1. IX;

б) па жоўтых табаках—не пазней I.X, а па Украінскай ССР, Казахскай ССР, Кіргізскай ССР, Сталінградскай, Варонежскай і Орлоўскай абласцях—не пазней 20.IX.

## IV

## Уборка і загатоўка кармовых культур.

### А. ЛЮЦЭРНА, КАНЮШЫНА І ІНШЫЯ ТРАВЫ.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР адзначаюць, што ў той час, як па канюшыне ўдалося накапіць дастатковыя запасы насення, па такіх важнейшых кармовых культурах, як люцэрна, жытняк, віка, цімафееўка, суданка, магар,—справа астаецца на ранейшым, зусім нездавальняючым узроўні, што не можа не тармазіць увядзенне севаабаротаў і развіццё жывёлагадоўлі.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР звяртаюць увагу НКЗема і НКСоўгасаў СССР, мясцовых совецкіх, партыйных і комсамольскіх арганізацый на неабходнасць дабіцца ў гэтым годзе сур'ёзнага пералому ў справе вытворчасці насення люцэрны, жытняка, вікі, цімафееўкі, суданкі, магара. ЦК ВКП(б) і СНК СССР прапануюць:

1) Выдзеліць неабходную колькасць калгаснікаў з састава паляводчых брыгад для работы па догляду і ўборцы насеннікаў гэтых кармовых траў.

2) Шырока выкарыстаць у засушлівых раёнах паўднёвага ўсходу пустуючыя землі, а таксама пойменныя і прытэрасныя ўчасткі для закладкі насеннікаў люцэрны.

3) Забяспечыць уборку насеннікаў люцэрны на працягу 5—7 дзён, а ўборку жытняка ў 3—4 дні ад пачатку паспявання.

Закончыць абмалот насеннікаў люцэрны, жытняка, канюшыны

і іншых траў на працягу 20 дзён з пачатку касавіцы, забяспечыўшы своечасовае прыстасаванне неабходнай колькасці камбайнаў, жатак, малатарань і іншых машын для ўборкі, абмалоту і выцірання насеннікаў люцэрны, жытняка, канюшыны і іншых траў.

4) У мэтах стварэння большай зацікаўленасці камбайнераў на ўборцы насеннікаў траў, а таксама машыністаў на абмалоце іх, адобрыць загад Наркамзема СССР «Аб нормах выпрацоўкі і аплаты камбайнераў, занятых на ўборцы насеннікаў люцэрны», апублікаваны ў газеце «Социалистическое земледелие» ад 28 мая 1939 года, і дазволіць Наркомсоўгасаў пашырыць яго на соўгасы.

5) Абавязаць Наркамзем СССР для Узбекскай, Туркменскай, Таджыкскай ССР, Паўднёва-Казахстанскай вобласці, Казахскай ССР і паліўных раёнаў Кіргізскай ССР змяніць існуючы парадак кантрактацыі насення люцэрны, устанавіўшы, што кантрактацыя насення люцэрны ў гэтых раёнах павінна праводзіцца не з плошчы травастою, а з плошчы насеннікаў, пакідаемых згодна плана, зацверджанага СНК СССР па кожнай рэспубліцы і вобласці.

Эканомсовету пры СНК СССР устанавіць нормы кантрактацыі і нормы здачы насення люцэрны, жытняка, магара, суданкі, цімафееўкі калгасамі з аднаго гектара насеннікаў, а таксама ўстанавіць размер прэмій-надбавак за перавыкананне плана здачы насення гэтых траў.

6) Для стымулявання работы калгаснікаў, занятых непасрэдна па догляду і ўборцы насеннікаў люцэрны, жытняка, магара, суданкі, цімафееўкі, рэкамендаваць калгасам выдзяляць 50 проц. атрымліваемых прэмій-надбавак за перавыкананне плана кантрактацыі насення пералічаных траў для размеркавання сярод гэтых калгаснікаў, у залежнасці ад колькасці выпрацаваных працадзён па насенніках.

7) Ліквідаваць існуючую практыку загатовак насення люцэрны трыма арганізацыямі (Заготбавоўна, Заготзярно і Дзяржсортфонд), усклаўшы загатоўку насення люцэрны ва Узбекскай, Туркменскай, Таджыкскай ССР, Паўднёва-Казахстанскай вобласці, Казахскай ССР і ў паліўных раёнах Кіргізскай ССР цалкам на Дзяржсортфонд НКЗема СССР, перадаўшы апошняму неабходныя складскія памяшканні ад Заготзярно і Заготбавоўны.

Абавязаць Наркамзем СССР арганізаваць у гэтых рэспубліках спецыяльную сетку Дзяржсортфонда па загатоўцы насення люцэрны для снабжэння іншых раёнаў Саюза ССР.

8) У мэтах стварэння дзяржаўных запасаў насення жытняка ўсе пасевы жытняка, прыгодныя для насенных мэт, у 1939—1940 гг. пакінуць на насеннікі і прыраўняць 1 пуд здаваемага насення жытняка да 4 пудоў зярна, здаваемага па зернапастаўках і натураплаце.

## Б. СЕНАКАШЭННЕ І СІЛАСАВАННЕ КАРМОЎ.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР звярачаюць увагу партыйных, камсамольскіх і совецкіх арганізацый на тое, што, не гледзячы на неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) і Соўнаркома Саюза ССР аб выключным значэнні догляду за лугамі, сенакашэння і сіласавання ў справе забеспячэння жывёлагадоўлі грубымі і сакавітымі кармамі, гэтым пытанням на месцах усё яшчэ не аддаецца належнай увагі, і справа сенакашэння і сіласавання астаецца закінутым участкам, у рэзультаце чаго жывёлагадоўля ў радзе раёнаў пастаўлена ў цяжкія ўмовы, у

той час, як ёсць магчымасць забяспечыць калгасы і соўгасы сенам, саломай і сіласнай масай.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР папя́рэджваюць Наркамзем, Наркомсоўгасаў СССР і мясцовыя партыйныя, комсамольскія і совецкія арганізацыі аб недапушчальнасці такога становішча і абавязваюць іх правесці ва ўсіх калгасах і соўгасах арганізавана сенакашэнне і сіласаванне кармоў з тым, каб з ураджаю бягучага года не толькі забяспечыць грубымі і сакавітымі кармамі жывёлагадоўлю, але і стварыць неабходныя страхавыя запасы па сену ў размеры 10—20 проц. ад гадавой патрэбнасці.

**Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) І. СТАЛІН**

**Старшыня Совета Народных Камісараў Саюза ССР В. МОЛАТАЎ**

28 мая 1939 г.

## ДАДАТАК

### ТЭРМІНЫ ЗДАЧЫ ЗЯРНА, СЛАНЕЧНІКА І РЫСУ ДЗЯРЖАВЕ ПА АБАВЯЗКОВЫХ ПАСТАЎКАХ, НАТУРАПЛАЦЕ ЗА РАБОТЫ МТС І ХЛЕБАЗДАЧЫ СОЎГАСАМІ.

(У % % ад гадавога плана)

(Выбарка з агульнай табліцы)

**І. Калгасамі—па зернапастаўках і натураплаце (апрача натураплаты за абмалот, якая здаецца на працягу 5 дзён пасля выпіскі рахунка МТС) і па хлебаздачы соў**

| ВОБЛАСЦІ, КРАІ І РЭСПУБЛІКІ | Зернавыя без кукурузы | | | | | Па кукурузе | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У ліпені | У жніўні | У верасні | У кастрычніку | У лістападзе (к 15 лістапада) | У верасні | У кастрычніку | К 15 лістапада |
| БССР . . . . . . . . . . | — | 30 | 45 | 25 | — | — | — | — |

**II. Аднаасобнымі гаспадаркамі—па зернапастаўках.**

| ВОБЛАСЦІ, КРАІ І РЭСПУБЛІКІ | Зернавыя без кукурузы | | | | Па кукурузе | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У ліпені | У жніўні | У верасні | У кастрычніку (па 15 кастрычн.) | У верасні | У кастрычніку |
| БССР . . . . . . . . | — | 60 | 40 | — | — | — |



# АБ МІЖНАРОДНЫМ СТАНОВІШЧЫ І ЗНЕШНЯЙ ПАЛІТЫЦЫ СССР

*ДАКЛАД СТАРШЫНІ СОВЕТА НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ СССР і НАРОДНАГА КАМІСАРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ ТАВ. В. М. МОЛАТАВА НА ТРЭЦЯЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР 31 МАЯ 1939 ГОДА*

Таварышы дэпутаты! Прапанова дэпутатаў заслухаць на сесіі Вярхоўнага Совета паведамленне Наркамата Замежных Спраў зусім зразумела. За апошні час у міжнароднай абстаноўцы адбыліся сур'ёзныя змяненні. Гэтыя змяненні, з пункту погляду міралюбівых дзяржаў, значна пагоршылі міжнароднае становішча.

Мы маем цяпер справу з пэўнымі рэзультатамі палітыкі агрэсіўных дзяржаў,—з аднаго боку, і палітыкі неўмяшання з боку дэмакратычных краін,—з другога боку. Прадстаўнікі агрэсіўных краін не супроць зараз пахвастацца дасягнутымі ўжо рэзультатамі палітыкі агрэсіі. Чаго-чаго, а ў хвастаўстве недахопу тут не наглядаецца. **(Вясёлае ажыўленне ў зале).** Прадстаўнікі дэмакратычных краін, адвярнуўшыхся ад палітыкі калектыўнай безапаснасці і праводзіўшых палітыку непраціўлення агрэсіі, стараюцца пераўменшыць значэнне адбыўшагася пагоршання ў міжнароднай абстаноўцы. Яны ўсё яшчэ займаюцца, галоўным чынам, «супакаеннем» грамадскай думкі, робячы від, што нічога істотнага за апошні час не адбылося.

Пазіцыя Совецкага Саюза ў ацэнцы бягучых падзей міжнароднага жыцця адрозніваецца ад пазіцыі таго і другога боку. Яна, як кожнаму зразумела, ні ў якім выпадку не можа быць западозрана ў якім-небудзь спачуванні агрэсарам. Яна чужда таксама ўсякаму замазванню сапраўды пагоршыўшагася міжнароднага становішча. Для нас ясна, што спробам скрыць ад грамадскай думкі сапраўдныя змяненні, якія адбыліся ў міжнародным становішчы, неабходна проціпаставіць факты. Тады стане відавочным, што «супакойлівыя» прамовы і артыкулы патрэбны толькі тым, хто не хоча перашкаджаць далейшаму развіццю агрэсіі, у надзеі накіраваць агрэсію, так сказаць, па больш ці менш «прыемлемаму» напрамку.

Яшчэ нядаўна аўтарытэтныя прадстаўнікі Англіі і Францыі стараліся супакоіць грамадскую думку сваіх краін, праслаўляючы поспехі злашчаснага мюнхенскага пагаднення. Яны гаварылі, што вераснёўскае пагадненне ў Мюнхене прадухіліла еўрапейскую вайну, шляхам параўнальна не такіх ужо вялікіх уступак з боку Чэха-Славакіі. Многім і тады здавалася, што прадстаўнікі Англіі і Францыі пайшлі ў Мюнхене ў сваіх уступках за кошт Чэха-Славакіі далей, чым яны на гэта мелі права. Мюнхенскае пагадненне было, так сказаць, куль-

мінацыйным пунктам палітыкі неўмяшання, кульмінацыйным пунктам згодніцтва з агрэсіўнымі краінамі. А да якіх рэзультатаў гэта палітыка прывяла? Ці спыніла агрэсію мюнхенскае пагадненне? Ніколькі. Наадварот, Германія не абмежавалася атрыманымі ў Мюнхене ўступкамі, гэта значыць, атрыманнем Судэцкіх раёнаў, населеных немцамі. Германія пайшла далей, проста-напраста ліквідаваўшы адну з вялікіх славянскіх дзяржаў—Чэха-Славакію. Ад верасня 1938 года, калі адбылася мюнхенская нарада, прайшло нямнога часу, а ў сакавіку 1939 года Германія пакончыла ўжо з існаваннем Чэха-Славакіі. Германіі ўдалося гэта правесці без процідзеяння з чыйго-небудзь боку, так гладка, што ўзнікае пытанне, у чым, уласна, заключалася сапраўдная мэта нарады ў Мюнхене?

Ва ўсякім выпадку, ліквідацыя Чэха-Славакіі, наперакор мюнхенскаму пагадненню, паказала ўсяму свету, да чаго прывяла палітыка неўмяшання, якая дасягнула ў Мюнхене, можна сказаць, вышэйшага свайго пункту. Правал гэтай палітыкі стаў відавочным. Між тым краіны-агрэсары прадаўжалі прытрымлівацца сваёй палітыкі. Германія адабрала ў Літоўскай рэспублікі Мемель і Мемельскую вобласць. Як вядома, Італія таксама не асталася ў даўгу. У красавіку месяцы Італія пакончыла з незалежнай дзяржавай—Албаніяй.

Пасля гэтага няма нічога дзіўнага ў тым, што ў канцы красавіка адной сваёй прамовай глава германскай дзяржавы знішчыў два важныя міжнародныя дагаворы: марское пагадненне Германіі з Англіяй і пакт аб ненападзе паміж Германіяй і Польшчай. У свой час гэтым дагаворам надавалася вялікае міжнароднае значэнне. Аднак, Германія вельмі проста раздзелалася з гэтымі дагаворамі, не лічачыся ні з якімі фармальнасцямі. Такі быў адказ Германіі на пранікнутую духам міралюб'я прапанову прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Рузвельта.

Справа не абмежавалася растаржэннем двух міжнародных дагавораў. Германія і Італія пайшлі далей. Гэтымі днямі апублікован заключаны паміж імі ваенна-палітычны дагавор. Гэты дагавор мае ў сваёй аснове наступальны характар. Згодна гэтаму дагавору Германія і Італія павінны падтрымліваць адзін аднаго ў любых ваенных дзеяннях, пачынаемых адной з гэтых краін, уключаючы любую агрэсію, любую наступальную вайну. Яшчэ зусім нядаўна зблiжэнне паміж Германіяй і Італіяй прыкрывалася, нібыта, неабходнасцю сумеснай барацьбы з комунізмам. Для гэтага нямала пашумелі аб так званым «антыкомінтэрнаўскім пакце». Антыкомінтэрнаўская шуміха адыграла ў свой час пэўную ролю для адцягнення ўвагі. Цяпер агрэсары ўжо не лічаць патрэбным хавацца за шырму. У ваенна-палітычным дагаворы паміж Германіяй і Італіяй ужо няма ні гуку аб барацьбе з Комінтэрнам. Затое дзяржаўныя дзеячы і друк Германіі і Італіі выразна гавораць, што гэты дагавор накірован іменна супроць галоўных еўрапейскіх дэмакратычных краін.

Здаецца ясна, што прыведзеныя факты сведчаць аб наяўнасці сур'ёзнага пагоршання ў міжнароднай абстаноўцы.

У сувязі з гэтым у самой палітыцы неагрэсіўных краін Еўропы таксама намеціліся некаторыя змяненні ў бок процідзеяння агрэсіі. Наколькі сур'ёзны гэтыя змяненні—мы яшчэ паглядзім. Пакуль нельга нават сказаць, ці ёсць у гэтых краін сур'ёзнае жаданне адмовіцца ад палітыкі неўмяшання, ад палітыкі непраціўлення далейшаму разгортванню агрэсіі. Ці не здарыцца так, што існуючае

імкненне гэтых краін да абмежавання агрэсіі ў адных раёнах, не будзе служыць перашкодай да развязвання агрэсіі ў другіх раёнах? Такія пытанні ставяцца і ў некаторых органах буржуазнага друку за граніцай. Таму мы павінны быць пільнымі. Мы стаім за справу міру і за недапушчэнне далейшага разгортвання агрэсіі. Але мы павінны памятаць высунутае тав. Сталіным палажэнне: «Захоўваць асцярожнасць і не даваць уцягнуць у канфлікты нашу краіну правакатарам вайны, якія прывыклі заграбаць жар чужымі рукамі». Толькі ў гэтым выпадку мы здолеем да канца адстаяць інтарэсы нашай краіны і інтарэсы ўсеагульнага міру.

Ёсць, аднак, рад адзнак таго, што ў дэмакратычных краінах Еўропы ўсё больш прыходзяць да ўсведамлення правалу палітыкі неўмяшання, прыходзяць да ўсведамлення неабходнасці больш сур'ёзных пошукаў мер і шляхоў для стварэння адзінага фронта міралюбівых дзяржаў супроць агрэсіі. У такой краіне, як Англія, сталі громка раздавацца прамовы аб неабходнасці крутога змянення знешняй палітыкі. Мы, вядома, разумеем розніцу паміж славеснымі заявамі і сапраўднай палітыкай. Але ўсё-ж нельга не адзначыць, што гэтыя прамовы не выпадковы. Вось некаторыя факты. Паміж Англіяй і Польшчай не існавала пакта аб узаемадапамозе. Цяпер рашэнне аб гэтым пакце прынята. Значэнне гэтага пагаднення толькі ўзмацняецца тым, што Германія разарвала пакт аб ненападзе з Польшчай. Нельга не прызнаць, што пакт узаемадапамогі паміж Англіяй і Польшчай уносіць змяненне ў еўрапейскую абстаноўку. Або, далей. Паміж Англіяй і Турцыяй не было пакта аб узаемадапамозе, у апошні-ж час вядомае пагадненне аб узаемадапамозе паміж Англіяй і Турцыяй ужо адбылося. І гэты факт уносіць сваё змяненне ў міжнародную абстаноўку.

У сувязі з гэтымі новымі фактамі адной з характэрных рыс апошняга перыяда трэба прызнаць імкненне неагрэсіўных еўрапейскіх дзяржаў прыцягнуць СССР да супрацоўніцтва ў справе процідзеяння агрэсіі. Зразумела, што гэта імкненне заслугоўвае ўвагі. Зыходзячы з гэтага, Савецкі ўрад прыняў прапанову Англіі і Францыі аб перагаворах, якія маюць мэтай умацаваць палітычныя адносіны паміж СССР, Англіяй і Францыяй і наладзіць фронт міру супроць далейшага развіцця агрэсіі.

Як мы вызначаем нашы задачы ў сучаснай міжнароднай абстаноўцы? Мы лічым, што яны ідуць па лініі інтарэсаў іншых неагрэсіўных краін. Яны заключаюцца ў тым, каб спыніць далейшае развіццё агрэсіі і для гэтага стварыць надзейны і эфектыўны абарончы фронт неагрэсіўных дзяржаў.

У сувязі са зробленымі нам прапановамі англійскага і французскага ўрадаў Савецкі ўрад уступіў у перагаворы з апошнімі наконт неабходных мер барацьбы з агрэсіяй. Гэта было яшчэ ў сярэдзіне красавіка бягучага года. Пачаўшыяся тады перагаворы яшчэ не закончаны. Аднак ужо тады можна было бачыць, што калі на самай справе хочуць стварыць дзеяздольны фронт міралюбівых краін супроць наступлення агрэсіі, то для гэтага неабходны, як мінімум, такія ўмовы: заключэнне паміж Англіяй, Францыяй і СССР эфектыўнага пакта ўзаемадапамогі супроць агрэсіі, які мае выключна абаранняльны характар; гарантаванне з боку Англіі, Францыі і СССР дзяржаў Цэнтральнай і ўсходняй Еўропы, уключаючы ў іх лік усе без выключэння пагранічныя з СССР еўрапейскія краіны, ад нападу агрэсараў; заключэнне канкрэтнага пагаднення паміж Англіяй, Фран-

цыяй і СССР аб формах і размерах неадкладнай і эфектыўнай дапамогі, аказваемай адзін аднаму і гарантуемым дзяржавам у выпадку нападу агрэсараў.

Такая наша думка, якую мы нікому не навязваем, але за якую мы стаім. Мы не патрабуем прыняцця нашага пункту погляду і нікога не просім аб гэтым. Мы лічым, аднак, што гэты пункт погляду сапраўды адпавядае інтарэсам безапаснасці міралюбівых дзяржаў.

Гэта было-б пагадненне выключна абараняльнага характару, якое-б дзейнічала супроць нападу з боку агрэсараў і ў корані адрозніваліся ад таго ваеннага і наступальнага саюза, які заключылі нядаўна паміж сабою Германія і Італія.

Зразумела, што асновай такога пагаднення з'яўляецца прынцып узаемнасці і роўных абавязкаў.

Трэба адзначыць, што ў некаторых англа-французскіх прапановах гэты элементарны прынцып не знайшоў прыхільных да сябе адносін. Гарантаваўшы сябе ад прамога нападу агрэсараў пактамі ўзаемадапамогі паміж сабою і Польшчай і забяспечваючы сабе дапамогу СССР у выпадку нападу агрэсараў на Польшчу і Румынію, англічане і французы пакідалі адкрытым пытанне—ці можа СССР у сваю чаргу разлічваць на дапамогу з іх боку ў выпадку прамога нападу на яго з боку агрэсараў, роўна як пакідалі адкрытым другое пытанне—ці могуць яны прыняць удзел у гарантаванні мяжуючых з СССР малых дзяржаў, прыкрываючых паўночна-заходнія граніцы СССР, калі яны акажуцца не ў сілах адстаяць свой нейтралітэт ад нападу агрэсараў.

Атрымлівалася, такім чынам, няроўнае становішча для СССР.

У апошнія дні паступілі новыя англа-французскія прапановы. У гэтых прапановах ужо прызнаецца на выпадак прамога нападу агрэсараў прынцып узаемадапамогі паміж Англіяй, Францыяй і СССР на ўмовах узаемнасці. Гэта, вядома, крок уперад. Хоць трэба заўважыць, што ён абстаўлен такімі агаворкамі—аж да агаворкі наконт некаторых пунктаў статута Лігі нацый,—што ён можа аказацца фіктыўным крокам уперад. Што датычыць пытання аб гарантыі краін цэнтральнай і ўсходняй Еўропы, то тут памянёныя прапановы не робяць ніякага прагрэса, калі глядзець на справу з пункту погляду ўзаемнасці. Яны прадугледжваюць дапамогу СССР у адносінах тых пяці краін, якім англічане і французы ўжо далі абяцанне аб гарантыі, але яны нічога не гавораць аб сваёй дапамозе тым трох краінам на паўночна-заходняй граніцы СССР, якія могуць аказацца не ў сілах адстаяць свой нейтралітэт у выпадку нападу агрэсараў.

Але Савецкі Саюз не можа браць на сябе абавязацельствы ў адносінах указаных пяці краін, не атрымаўшы гарантыі ў адносінах трох краін, размешчаных на яго паўночна-заходняй граніцы.

Так абстаіць справа адносна перагавораў з Англіяй і Францыяй.

Ведучы перагаворы з Англіяй і Францыяй, мы зусім не лічым неабходным адмаўляцца ад дзелавых сувязей з такімі краінамі, як Германія і Італія. Яшчэ ў пачатку мінулага года, па ініцыятыве германскага ўрада, пачаліся перагаворы аб гандлёвым пагадненні і новых крэдытах. Тады з боку Германіі нам была зроблена прапанова аб прадастаўленні новага крэдыта ў 200 мільёнаў марак. Паколькі аб умовах гэтага новага эканамічнага пагаднення мы тады не дагаварыліся, то пытанне было знята. У канцы 1938 года гер-

манскі ўрад зноў паставіў пытанне аб эканамічных перагаворах і аб прадастаўленні крэдыта ў 200 мільёнаў марак. Пры гэтым з германскага боку была выказана гатоўнасць пайсці на рад уступак. У пачатку 1939 года Наркомзнешгандаль быў паведамлен аб тым, што для гэтых перагавораў у Маскву выязджае спецыяльны германскі прадстаўнік п. Шнурэ. Але затым, замест п. Шнурэ, гэтыя перагаворы былі даручаны германскаму паслу ў Маскве п. Шуленбургу, якія былі перарваны з прычыны рознагалоссяў. Мяркуючы па некаторых прызнаках, не выключана, што перагаворы могуць аднавіцца.

Магу яшчэ дадаць, што з Італіяй нядаўна было падпісана выгоднае для абодвух краін гандлёвае пагадненне на 1939 год.

Як вядома, у лютым месяцы бягучага года было апублікавана спецыяльнае паведамленне, пацвярджаючае развіццё добрасуседскіх адносін паміж СССР і Польшчай. У нашых узаемаадносінах з Польшчай трэба канстатаваць пэўнае агульнае паляпшэнне. З другога боку, заключанае ў сакавіку месяцы гандлёвае пагадненне можа значна падняць тавараабарот паміж СССР і Польшчай.

Нашы адносіны з дружаственнай Турцыяй развіваюцца нармальна. Нядаўна паездка тав. Пацёмкіна ў Анкару з інфармацыйнымі мэтамі мела вялікае станоўчае значэнне.

З пытанняў міжнароднага жыцця, якія набылі ў апошні час вялікае значэнне для СССР, трэба спыніцца на праблеме Аландскіх астравоў. Вы ведаеце, што гэтыя астравы на працягу больш, чым ста год належалі Расіі. У рэзультаце Кастрычніцкай рэволюцыі Фінляндыя атрымала незалежнасць. Па дагавору з нашай краінай Фінляндыя атрымала таксама і Аландскія астравы. У 1921 годзе дзесяццю краінамі: Фінляндыяй, Эстоніяй, Латвіяй, Польшчай, Швецыяй, Даніяй, Германіяй, Англіяй, Францыяй і Італіяй была падпісана Канвенцыя, забараняючая, як гэта было і раней, узбраенне Аландскіх астравоў. Урады капіталістычных краін зрабілі гэта без удзелу савецкіх прадстаўнікоў. У 1921 годзе падарваная вайной і іншаземнай інтэрвенцыяй Совецкая Рэспубліка магла толькі пратэставаць супроць гэтага беззаконнага акта ў адносінах СССР. Але і тады з нашага боку было ясна і неаднаразова заяўлена, што Совецкі Саюз не можа астацца ў баку ад гэтага пытання, што змяненне юрыдычнага статуса Аландскіх астравоў немагчыма ў нарушэнне інтарэсаў нашай краіны.

Важнасць Аландскіх астравоў заключаецца ў іх стратэгічным становішчы ў Балтыйскім моры. Узбраенні Аландскіх астравоў могуць быць скарыстаны ў варожых СССР мэтах. Знаходзячыся недалёка ад уваходу ў Фінскі заліў, узброеныя Аландскія астравы могуць паслужыць таму, каб закрыць для СССР уваходы і выхады ў Фінскі заліў. Таму цяпер, калі фінляндскі ўрад, разам са Швецыяй, хоча правесці вялікі план узбраення Аландскіх астравоў, Совецкі ўрад запрасіў у фінляндскага ўрада даныя аб мэтах і характары намечаных узбраенняў. Замест таго, каб пайсці насустрач гэтаму зусім натуральнаму жаданню Совецкага Саюза, фінляндскі ўрад адмовіў СССР у дачы адпаведных вестак і раз'ясненняў. Паследаваўшыя пры гэтым спасыланні на ваенную тайну, як не цяжка зразумець, зусім не пераканаўчы. Паведаміў-жа фінляндскі ўрад свой план узбраенняў Аландскіх астравоў другому ўраду—ураду Швецыі. І не толькі паведаміў, а прыцягнуў яго да ўдзелу ў ажыццяўленні ўсяго гэтага плана ўзбраенняў. Між тым, згодна Канвенцыі 1921 года, Швецыя ніякімі

асобымі правамі ў гэтых адносінах не карыстаецца. З другога боку, зацікаўленасць Совецкага Саюза ў пытанні ўзбраення Аландскіх астравоў не толькі не меншая, а большая, чым у Швецыі.

Па прапанове фінляндскага і шведскага ўрадаў, пытанне аб пераглядзе Канвенцыі 1921 года абмяркоўвалася на толькі што закончыўшымся Совеце Лігі нацый, без санкцыі якога гэта Канвенцыя не можа быць перагледжана, бо Канвенцыя дзесяці дзяржаў была заключана на аснове адпаведнага рашэння Совета Лігі нацый ад 24 чэрвеня 1921 года. З прычыны пярэчанняў з боку прадстаўніка Совецкага Саюза, у Совеце Лігі не магло быць аднагалосся, неабходнага для рашэння Совета. Рэзультаты абмеркавання ў Совеце Лігі вядомы. Совет Лігі нацый не адобрыў прапановы Фінляндыі і Швецыі. Ён не даў санкцыі на перагляд Канвенцыі 1921 года. Як відаць, фінляндскі ўрад зробіць адпаведны вывад з гэтага палажэння. У святле міжнародных падзей апошняга часу аландскае пытанне набыло для Совецкага Саюза асабліва сур'ёзнае значэнне. Мы не лічым магчымым мірыцца з дапушчэннем якога-небудзь ігнаравання інтарэсаў СССР у даным пытанні, якое мае вялікае значэнне для абароны нашай краіны.

Зусім каротка спынюся на пытаннях Далёкага Усходу і на нашых адносінах з Японіяй.

Найбольшае значэнне ў гэтым годзе тут мелі нашы перагаворы з Японіяй па рыбалоўнаму пытанню. Як вядома, у Прымор'і, у Охоцкім моры, на Сахаліне і на Камчатцы японцы маюць у нас вялікую колькасць рыбалоўных промыслаў. К канцу мінулага года ў іх аказалася ўжо 384 рыбалоўныя ўчасткі. Між тым, тэрмін канвенцыі, на аснове якой японцы атрымлівалі гэтыя рыбалоўныя ўчасткі, ужо скончыўся. Для многіх рыбалоўных участкаў скончыліся і ўстаноўленыя раней тэрміны арэнды. У сувязі з гэтым Совецкі ўрад уступіў у перагаворы з Японіяй па рыбалоўнаму пытанню. З нашага боку было заяўлена, што пэўная колькасць участкаў, устаноўлены тэрмін арэнды якіх скончыўся, не могуць быць прадастаўлены далей у распараджэнне японцаў, з прычыны маючыхся ў нас стратэгічных меркаванняў. Не гледзячы на відавочную абгрунтаванасць нашай пазіцыі, з японскага боку было праяўлена вялікае супраціўленне совецкаму пункту погляду. У рэзультаце працяглых перагавораў 37 рыбалоўных участкаў былі із'яты ў японцаў, а ў іншых месцах ім было перадана 10 новых участкаў. Пасля гэтага дзеянне канвенцыі было прадоўжана яшчэ на адзін год. Гэтае пагадненне з Японіяй па рыбалоўнаму пытанню мае вялікае палітычнае значэнне. Тым больш, што з боку японскіх рэакцыйных кругоў усё было зроблена для таго, каб падкрэсліць палітычны бок гэтай справы, аж да ўсякага роду пагроз. Японскія рэакцыянеры яшчэ раз маглі, аднак, пераканацца ў тым, што пагрозы ў адносінах Совецкага Союза не дасягаюць мэты **(бурныя апладысменты)**, а правы Совецкай дзяржавы знаходзяцца пад цвёрдай абаронай. **(Бурныя апладысменты)**.

Цяпер, аб пагранічных пытаннях. Здаецца, пара ўжо зразумець, каму належыць, што Совецкі ўрад не будзе цярпець ніякіх правакацый з боку японa-манчжурскіх воінскіх часцей на сваіх граніцах. Зараз трэба аб гэтым напомніць і ў адносінах граніц Мангольскай Народнай Рэспублікі. Па існуючаму паміж СССР і Мангольскай Народнай Рэспублікай дагавору аб узаемадапамозе, мы лічым сваім абавязкам аказваць Мангольскай Народнай Рэспубліцы належную дапамогу ў ахове яе граніц. Мы сур'ёзна адносімся да такіх рэчаў, як

дагавор узаемадапамогі, які падпісан Совецкім урадам. Я павінен папярэдзіць, што граніцу Мангольскай Народнай Рэспублікі, у сілу заключанага паміж намі дагавора аб узаемадапамозе, мы будзем абараняць гэтак сама рашуча, як і сваю ўласную граніцу. **(Бурныя апладысменты).** Пара зразумець, што абвінавачванні ў агрэсіі супроць Японіі, выстаўленыя Японіяй супроць урада Мангольскай Народнай Рэспублікі смешны і бязглузды. Пара таксама зразумець, што ўсякаму цярпенню ёсць граніца. **(Апладысменты).** Таму лепш своечасова кінуць паўтараючыяся ўсё зноў і зноў правакатарскія нарушэнні граніц СССР і МНР японa-манчжурскімі воінскімі часцямі. Адпаведнае папярэджанне намі зроблена і праз японскага пасла ў Маскве.

Мне няма неабходнасці гаварыць аб нашых адносінах да Кітая. Вы добра ведаеце заяву таварыша Сталіна аб падтрыманні народаў, якія сталі афярамі агрэсіі і змагаюцца за незалежнасць сваёй радзімы. Гэта ў поўнай меры адносіцца да Кітая і яго барацьбы за нацыянальную незалежнасць. Мы паслядоўна праводзім гэтую палітыку на справе. Яна знаходзіцца ў адпаведнасці з тымі задачамі, якія стаяць перад намі ў Еўропе, а іменна—з задачамі стварэння адзінага фронта міралюбівых дзяржаў супроць далейшага разгортвання агрэсіі. **(Бурныя апладысменты).**

СССР цяпер не той, чым ён быў, скажам, у 1921 годзе, калі ён толькі што прыступіў да сваёй мірнай, творчай работы. Прыходзіцца аб гэтым напомніць, бо да гэтага часу нават некаторыя нашы суседзі не могуць, відаць, гэтага зразумець. **(Смех).** Нельга не прызнаць і таго, што СССР ужо не той, якім ён быў усяго 5—10 год таму назад, што сілы СССР умацаваліся. **(Апладысменты).** Знешняя палітыка Совецкага Саюза павінна адлюстроўваць наяўнасць змяненняў у міжнароднай абстаноўцы і ўзросшую ролю СССР, як магутнага фактара міру. Няма чаго даказваць, што знешняя палітыка Совецкага Саюза ў корані міралюбіва і накіравана супроць агрэсіі. Лепш за ўсё гэта вядома самім агрэсіўным краінам. **(Рух у зале).** З вялікім спазненнем і з хістаннямі прыходзяць да ўсведамлення гэтай простай ісціны некаторыя дэмакратычныя дзяржавы. **(Ажыўленне ў зале).** Між тым, у адзіным фронце міралюбівых дзяржаў, якія сапраўды процістаяць агрэсіі, Совецкаму Саюзу не можа не належаць месца ў перадавых радах. **(Бурныя, працяжныя апладысменты ўсяго зала. Дэпутаты ўстаюць і наладжваюць авацыю таварышу Молатаву).**

---

# Магутная зброя ў барацьбе за далейшае ўмацаванне калгаснага ладу

Гістарычная пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання»—неацанімы ўклад ва ўсю работу нашай партыі па ўмацаванню калгасаў. Яна адыграе велізарную ролю ў справе далейшага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, яшчэ большага росту заможнасці і дабрабыту калгаснікаў. Ускрытыя пастановай сур'ёзныя скажэнні ў калгасным землекарыстанні, факты грубага парушэння калгаснага статута і палітыкі партыі ў калгасным будаўніцтве выразіліся ў тым, што многія нашы партыйныя і савецкія работнікі, забыўшы вучэнне таварыша Сталіна аб грамадскай уласнасці, як аснове калгаснага ладу, дапусцілі неправільнае, небальшэвіцкае кіраванне калгасамі. Замест таго, каб ахоўваць калгасныя землі ад разбазарвання, ад пасягання прыватнаўласніцкіх элементаў, абласныя і раённыя работнікі ў радзе месц самі садзейнічалі разбазарванню калгасных зямель, патуралі раздуванню прысядзібных участкаў калгаснікаў.

Участкі зямлі, якія знаходзяцца ў асабістым карыстанні калгаснага двара, незаконна павялічваліся за кошт разбазарвання і раскрадання грамадскіх зямель калгаса. У радзе калгасаў прысядзібны ўчастак ператварыўся фактычна ў прыватную ўласнасць калгасніка, і справа даходзіла нават да таго, што многія калгаснікі здавалі яго ў арэнду. У многіх выпадках прысядзібны ўчастак, які павінен служыць падсобнай гаспадаркай, ператварыўся ў асноўную крыніцу існавання калгаснага двара, што наносіла сур'ёзнейшую шкоду грамадскай гаспадарцы, расхіствала працоўную дысцыпліну ў калгасе, патурала лодырам, дармаедам, разгільдзяям, шкурніцкім элементам, якія хочуць жыць за кошт працы чэсных і добрасумленных калгаснікаў.

Усё гэта дэзарганізоўвала работу, вяло да штучнага недахопу рабочай сілы ў калгасах. Можна было-б прывесці многа фактаў, калі калгасы наймалі рабочую сілу для правядзення сельскагаспадарчых работ, або не выконвалі іх ва ўстаноўленыя тэрміны. Тым часам большасць калгасаў мае лішкі рабочай сілы, правільнае выкарыстанне якой дало-б магчымасць не толькі поўнасцю задаволіць запросы саміх калгасаў, але і выдзеліць значную частку калгаснікаў для работы ў прамысловасці, для перасялення ў многазямельныя раёны нашай краіны.

Усе гэтыя скрыўленні палітыкі партыі ў калгасным будаўніцтве мелі і маюць месца таму, што партыйныя і совецкія кіраўнікі замест канкрэтнага кіравання калгасамі, штодзённага выхавання калгаснікаў, строгага захавання калгаснага статута, замест таго, каб унікнуць ва усе дэталі работы і жыцця калгасаў, пусцілі справу на самацёк, не заўважалі парушальнікаў калгаснага статута, пранікнення ў калгасы варожых тэндэнцый, насаджаемых рэшткамі разбітага кулацтва.

У сваёй гістарычнай пастанове ЦК ВКП(б) і СНК СССР адзначаюць, што падобная практыка з'яўляецца чуждай большэвізму, у корані апартуністычнай, і патрабуюць «ад усіх мясцовых, партыйных і совецкіх арганізацый неадкладнай ліквідацыі разбазарвання і раскрадвання калгасных грамадскіх зямель, прывядзення размераў прысядзібных участкаў да статутных норм, устанаўлення найстражэйшага кантролю за недатыкальнасцю грамадскіх зямель калгаса, рашучага абуздання рвацкіх і спекулянцкіх элементаў у калгасах».

У пастанове даецца разгорнутая праграма барацьбы за далейшае ўмацаванне калгаснага ладу, уздыму прадукцыйнасці працы і дабрабыту калгасных мас і даны чоткія ўказанні аб мерах, якія павінны быць безадкладна ўжыты для ліквідацыі дапушчаных грубых скрыўленняў палітыкі партыі ў калгасным будаўніцтве.

* * *

Партыя большэвікоў пад геніяльным кіраўніцтвам вялікага Сталіна пераможна завяршыла суцэльную калектывізацыю сельскай гаспадаркі і ліквідацыю на гэтай аснове кулацтва, як класа.

> «Гэта быў найглыбейшы рэволюцыйны пераварот, скачок са старога якаснага стану грамадства ў новы якасны стан, роўназначны па сваіх выніках рэволюцыйнаму перавароту ў кастрычніку 1917 года». *).

Гэта была велізарнейшая перамога нашай партыі, усяго совецкага народа, атрыманая пад геніяльным кіраўніцтвам таварыша Сталіна ў непрымірымай і бязлітаснай барацьбе з усімі ворагамі соцыялізма.

Вялікі прадаўжальнік справы Леніна—таварыш Сталін з геніяльнай празарлівасцю развіў далей ленінскае вучэнне аб перамозе соцыялізма ў адной, асобна ўзятай краіне ва ўмовах капіталістычнага акружэння, аб шляхах соцыялістычнай перабудовы сялянскай гаспадаркі. Таварыш Сталін стварыў вучэнне аб суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі апошняга аплота капіталізма—класа кулацтва. Ён геніяльна вырашыў пытанне аб форме грамадскай уласнасці ў калгасе і стварыў вучэнне аб сельгасарцелі, як галоўнай форме калгаснага руху, у якой найбольш мэтазгодна спалучаюцца грамадскія і асабістыя інтарэсы калгасніка, якая забяспечвае трыумф соцыялізма.

> «...Галоўнай формай калгаснага руху ў даны момант з'яўляецца сельска-гаспадарчая арцель... Зараз мы павінны трымаць курс не на комуну, а на сельска-гаспадарчую арцель, як галоўную форму калгаснага будаўніцтва» **).

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 288.
**) „Пытанні ленінізма", стар. 333.

І далей таварыш Сталін гаворыць:

«... Арцель з'яўляецца пры сучасных умовах адзіна правільнай формай калгаснага руху. І гэта ўпаўне зразумела: а) арцель правільна спалучае асабістыя, бытавыя інтарэсы калгаснікаў з іх грамадскімі інтарэсамі, б) арцель удачна прыстасоўвае асабістыя, бытавыя інтарэсы—да грамадскіх інтарэсаў, аблягчаючы тым самым выхаванне ўчарашніх аднаасобнікаў у духу калектывізма» *).

Наша партыя прарабіла велізарную работу па тэхнічнаму аснашчэнню сельскай гаспадаркі, павышэнню прадукцыйнасці земляробства, усямернаму ўмацаванню калгаснага ладу.

Аналізуючы ў сваім гістарычным дакладзе на XVIII з'ездзе партыі становішча сельскай гаспадаркі за справаздачны перыяд, таварыш Сталін гаварыў:

«Наша земляробства з'яўляецца... не толькі найбольш буйным і механізаваным, а значыць і найбольш таварным земляробствам, але і найбольш аснашчоным сучаснай тэхнікай, чым земляробства любой іншай краіны».

Разам з няўхільным ростам соцыялістычнага земляробства, калгаснай вытворчасці бурна рос і расце матэрыяльны добрабыт совецкага сялянства, заможнасць калгасных мас.

«Цяпер ужо гутарка ідзе не аб тым, каб прыстроіць як-небудзь у прамысловасці і ўзяць з міласці на работу беспрацоўных і бяздомных сялян, якія адбіліся ад вёскі і жывуць пад страхам голаду. Такіх сялян даўно ўжо няма ў нашай краіне. І гэта, вядома, добра, бо яно сведчыць аб заможнасці нашай вёскі. Цяпер гутарка можа ісці толькі аб тым, каб прапанаваць калгасам уважыць нашу просьбу і адпускаць нам для растучай прамысловасці штогодна хоць-бы каля паўтара мільёна маладых калгаснікаў. Калгасы, стаўшыя ўжо заможнымі, павінны мець на ўвазе, што без такой дапамогі з іх боку вельмі трудна будзе расшыраць далей нашу прамысловасць, а без расшырэння прамысловасці—не зможам задавальняць растучы попыт сялян на тавары масавага спажывання. Калгасы маюць поўную магчымасць задаволіць гэтую нашу просьбу, бо багацце тэхнікі ў калгасах аслабаняе частку работнікаў у вёсцы, а гэтыя работнікі, пераведзеныя ў прамысловасць, маглі-б прынесці велізарную карысць усёй нашай народнай гаспадарцы» **).

Партыя і асабіста таварыш Сталін заўсёды ўдзялялі і ўдзяляюць выключную ўвагу грамадскай калгаснай вытворчасці, клапоцяцца аб усямерным умацаванні калгасаў і няўхільным уздыме калгаснай вытворчасці.

Мільёны беднякоў і сераднякоў, аб'яднаўшыся ў калгасы, зажылі шчаслівым, радасным, заможным жыццём. Такое жыццё магчыма толькі ў калгасах, на аснове ўсямернага ўмацавання калгаснага ладу і грамадскай гаспадаркі.

Ніколі не трэба забываць, што добрабыт калгасных мас базіруецца не на асабістай падсобнай прысядзібнай гаспадарцы, а на гаспадарцы грамадскай, на грамадскай працы, на грамадскім калгасным багацці.

*) „Пытанні ленінізма", стар. 581.
**) СТАЛІН, даклад на XVIII з'ездзе партыі.

Партыя наша, наш мудры настаўнік вялікі Сталін заўсёды вучылі нас, што з пераходам многамільённых раздробленых сялянскіх гаспадарак на рэйкі калектывізацыі ў многа раз ускладніцца кіраўніцтва сельскай гаспадаркай.

Яшчэ ў 1933 годзе таварыш Сталін указваў:

«Калгасны лад не змяншае, а павялічвае клопаты і адказнасць партыі і ўрада ў адносінах развіцця сельскай гаспадаркі. З гэтага выцякае, што партыя, калі яна хоча кіраваць калгасным рухам, павінна ўваходзіць ва ўсе дэталі калгаснага жыцця і калгаснага кіраўніцтва. З гэтага выцякае, што партыя павінна не змяншаць, а множыць свае сувязі з калгасамі, што яна павінна ведаць усё, што робіцца ў калгасах, каб своечасова прыйсці на дапамогу і прадухіліць пагражаючыя калгасам небяспекі» *).

Гэта мудрае ўказанне таварыша Сталіна забыта некаторымі партыйнымі і совецкімі работнікамі. Іменна гэтым тлумачацца факты скажэння палітыкі партыі ў калгасным будаўніцтве, у пытаннях калгаснага землякарыстання, з усёй поўнатою ўскрытыя ў пастанове ЦК ВКП(б) і СНК СССР «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання».

Узяць к прыкладу Мехаўскі раён. Тут зямля раздавалася па запісках старшынь сельсоветаў і калгасаў. Кіраўнікі раёна не толькі не вялі барацьбу з парушэннем сельгасстатута, за жалезную працоўную дысцыпліну ў калгасах, але благадушна назіралі антыдзяржаўную, антыкалгасную практыку, а ў радзе выпадкаў патуралі ёй. Не дзіўна, што працоўная дысцыпліна ў калгасах раёна расхістана. У мінулым годзе 987 калгаснікаў не мелі ні аднаго працадня, а каля 3 тысяч выпрацавалі толькі да 50 працадзён кожны. Зусім натуральна законнае абурэнне пераважнай большасці калгаснікаў, якія працуюць чэсна і добрасумленна, даражаць калгаснай вытворчасцю і маюць па 300—400 і больш працадзён.

У Строчынскім сельсовеце, Менскага раёна, старшыня калгаса «Звязда» Вальковіч карыстаўся двума прысядзібнымі ўчасткамі агульнай плошчай у 1 гектар. Гэты гора-кіраўнік яўна садзейнічаў разбазарванню грамадскіх зямель, бо сам быў зачыншчыкам антыдзяржаўных, антыкалгасных тэндэнцый.

У калгасе «Чырвоны пуцілавец», гэтага-ж сельсовета, прысядзібныя ўчасткі складалі 75 сотых замест 50 сотых па статуту.

У Навасёлкаўскім сельсовеце Пухавіцкага раёна асабліва часты выпадкі парушэння калгаснага статута. Вось што расказвае старшыня сельсовета тав. Немагай:

«У нашым сельсовеце было не мала фактаў, калі людзі, якія нічога агульнага не маюць з калгаснай вытворчасцю, жылі ў цэнтры калгаса і мелі вялікія прысядзібныя ўчасткі. Так, Корань Іван, работнік канторы Белплодгародніны, не маючы ніякага дачынення да калгаса «Гарадок», карыстаўся ў цэнтры гэтага калгаса прысядзібным участкам у 0,53 га замест 0,15 га. Калгаснікі сельгасарцелі «Новае Забалацце» Сашчын Нікіфар і Камар Рыгор мелі прысядзібны ўчастак па 1 га кожны».

У радзе калгасаў выяўлены асабліва абураючыя факты парушэння

*) „Пытанні ленінізма", стар. 518.

сельскагаспадарчага статута. Некаторыя калгаснікі абзаводзіліся двума прысядзібнымі ўчасткамі. Старшыня калгаса «Авангард», Нараўлянскага раёна, Шэкланаў распараджаецца калгаснай зямлёй, як сваёй уласнай. Без ведама праўлення Шэкланаў здаў у арэнду 5 гектараў сенажаці рабочым Будзішчанскай МТС, шоферу Альховаму адпусціў 70 сотых гектара, калгасу «Днепровец» прадаў 8 гектараў зямлі. Многія сем'і калгаснікаў (Нікалая Музычэнкі, Кузьмы Мацьянава і інш.) карыстаюцца двума прысядзібнымі ўчасткамі.

У калгасе імені Кірава аднаасобнікі прысвоілі некалькі гектараў калгаснай зямлі, а суддзя тав. Ешчына абмежавалася толькі тым, што аштрафавала парушальнікаў па 50 рублёў.

Адна з пашыраных форм разбазарвання і раскрадвання грамадскай зямлі—незаконная прырэзка прысядзібных участкаў пад выглядам раздзелу сям'і.

Гаспадарка брыгадзіра калгаса «Яскравы шлях» Жлобінскага раёна, Івана Хадарэнкі карысталася трыма прысядзібнымі ўчасткамі ў выніку фіктыўнага раздзелу сям'і. Дарэчы, сёстры Хадарэнкі, для якіх былі адведзены два ўчасткі, жывучы ў адной сям'і, на калгасную працу ніколі не выходзілі. У гэтым-жа калгасе незаконна карыстаўся трыма прысядзібнымі ўчасткамі калгаснік Козыраў.

Такім чынам грамадская калгасная зямля прыносіцца ва ўгоду прыватна-ўласніцкім і рвацкім элементам для спекуляцыі і асабістай нажывы. Гэтыя дармаеды ўзбуджаюць законнае незадаволенне масы чэсных калгаснікаў.

Наша сялянства ведае, што толькі партыя большэвікоў вызваліла яго ад эксплаатацыі, ад кулацкай кабалы, што толькі яна вывела на светлую дарогу комунізма. І большасць калгаснікаў адказвае на клопаты партыі і ўрада стаханаўскай работай, большэвіцкай барацьбой за сталінскі ўраджай, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, за заможнае і культурнае жыццё.

У 1938 годзе колькасць калгаснікаў, якія выпрацавалі звыш 400 працадзён, павялічылася ў параўнанні з 1937 годам амаль на 11 процантаў. У той-жа час колькасць калгаснікаў, якія не прымалі ўдзелу ў калгаснай працы, зменшылася супроць 1937 года на 20 проц. У 1938 годзе больш як па 300 працадзён выпрацавалі 396 тыс. калгаснікаў, па 400 працадзён—207 тысяч і звыш 400 працадзён—183 тысячы. Гэтыя лічбы сведчаць, што пераважная большасць калгаснікаў працуе чэсна, добрасумленна, што асноўнай крыніцай іх багацця з'яўляецца работа ў грамадскай гаспадарцы.

Найшырэйшыя масы калгаснікаў адказваюць на гістарычную пастанову партыі і ўрада «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання» магутным уздымам соцыялістычнага спаборніцтва, напружанай работай па дасягненню сталінскага ўраджаю.

Першыя крокі ажыццяўлення пастановы даюць ужо канкрэтныя рэзультаты. Значна ўмацавалася працоўная дысцыпліна. Сотні калгаснікаў, якія раней не выходзілі на калгасныя палі, паказваюць узоры соцыялістычнай працы.

Шырокія масы калгаснікаў добра разумеюць, што партыя і ўрад нястомна клапоцяцца аб працвітанні калгаснага ладу, аб далейшым росце магутнасці калгасаў, багацці і заможнасці калгаснікаў.

Звенневая калгаса «Завет Ільіча», Шклоўскага раёна, дэпутат

Вярхоўнага Совета БССР, ордэнаносец тав. Міцкевіч у сваім выступленні на калгасным сходзе заявіла:

«Наша партыя, урад і асабіста таварыш Сталін праяўляюць бацькаўскія клопаты аб чэсных калгасніках. Апошняя пастанова—яркі прыклад тэтых клопатаў. Паглядзіце на наш калгас. Мнімых калгаснікаў у нас набярэцца не звыш 40 чалавек. Яны зрываюць працоўную дысцыпліну, выкарыстоўваюць калгас у сваіх асабістых інтарэсах. Мудрае сталінскае рашэнне агараджвае калгас ад мнімых калгаснікаў, і мы горача вітаем пастанову партыі і ўрада аб ахове грамадскіх зямель калгасаў».

Калгаснік-ордэнаносец Віктар Паўлавіч Корзун, член сельскагаспадарчай арцелі «Чырвоны ўсход», Кіраўскага раёна, гаворыць:

«Гэта пастанова прасякнута сталінскай мудрасцю, гарачай любоўю і бацькаўскімі клопатамі аб калгасніках. Званне калгасніка—ганаровае званне. Калгаснае сялянства носіць яго з вялікай чэсцю. Але ёсць яшчэ ў калгасах і лодыры, рвачы, якія выкарыстоўваюць званне калгасніка ў мэтах асабістай нажывы і спекуляцыі. Вось, напрыклад, у нас лічыцца калгаснікам Рудак. Ужо чатыры годы як ён і яго сын у калгасе фактычна не працуюць. Жонка і астатнія працаздольныя члены яго сям'і на калгасную работу таксама не выходзяць. І гэтая сям'я не толькі карыстаецца правамі калгасніка, але мае каля гектара прысядзібнай зямлі ў сваім карыстанні, чым груба парушан статут сельска-гаспадарчай арцелі».

Такія мыслі і пачуцці выказвае пераважная большасць калгаснікаў, бо яны бачаць у пастанове партыі і ўрада магутны сродак далейшага руху па шляху да яшчэ больш радаснага, шчаслівага і заможнага жыцця.

* * *

Сур'ёзнейшым тормазам у справе далейшага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў з'яўляюцца хутары—сумная спадчына мінулага. Наяўнасць у нашай рэспубліцы вялікай колькасці хутароў перашкаджае правільнай арганізацыі працы ў калгасах, расстаноўцы рабочай сілы, тармозіць палітыка-выхаваўчую работу сярод калгасных мас.

Хутары насаджаліся ворагамі народа, нацыянал-фашысцкай агентурай, якая некалі прабралася да кіраўніцтва партыйных, совецкіх і зямельных органаў. Ворагі народа ўсяляк зрывалі ўказанні ЦК ВКП(б) аб ссяленні хутароў у калгасныя сяленні, разбазарваючы грашовыя сродкі і будаўнічыя матэрыялы, якія совецкі ўрад адпускаў на гэту мэту. Трацкісцка-бухарынскія вырадкі, нацыянал-фашысцкія агенты стараліся насадзіць як мага больш хутароў, каб сарваць калгасны рух і ў асобе кулака стварыць сабе апору ў барацьбе супроць совецкага народа, супроць совецкай улады, супроць калгаснага сялянства, супроць соцыялізма. Ворагі народа разбіты ўшчэнт, і гэта іх стаўка біта. Канчаткова і беспаваротна перамог калгасны лад. Соцыялізм непадзельна пануе і ў сельскай гаспадарцы.

Работа па ссяленню хутароў мае велізарнае народна-гаспадарчае і палітычнае значэнне. Аднак да апошняга часу мясцовыя работ-

нікі вялі яе самацёкам. У мінулым годзе не быў выканан зусім нязначны план ссялення хутароў. І толькі пасля пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР, якая ўстанавіла цвёрды тэрмін ссялення хутароў— к 1 верасня 1940 года, значна ўзняліся тэмпы работы.

Пухавіцкі раён адзін з першых закончыў ссяленне хутароў. Характэрна, што толькі за адзін дзень, 4 чэрвеня, па Новасёлкаўскаму сельсовету было ссялена 25 хутароў. Гэтыя поспехі тлумачацца тым, што работа з самага пачатку была правільна арганізавана: створаны будаўнічыя брыгады і звенні, устаноўлен дакладны графік работ, загатоўлены неабходныя будаўнічыя матэрыялы. Суседнія калгасы прышлі на дапамогу, выдзеліўшы будаўнічыя брыгады. На цагельным заводзе калгаса «Чырвоны бор» створана брыгада з 19 чалавек, якая вырабляе ў дзень каля 3 тысяч цаглін для пячэй новых калгасных двароў перасеrange з хутароў.У калгасе «Рассвет» усе 109 гаспадарак знаходзіліся на хутарах, а цяпер ужо ўсе яны ссялены ў калгаснае сяленне.

У Мсціслаўскім раёне да 1 чэрвеня было ссялена толькі 74 двары і за першую дэкаду чэрвеня—194. Але ўжо за адзін толькі дзень, 11 чэрвеня, ссялена больш 100 двароў.

Аналагічныя факты можна прывесці і з іншых раёнаў. Усе яны гавораць аб тым, што партыйныя і непартыйныя большэвікі нашай рэспублікі актыўна ўзяліся за выкананне пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР.

Рэалізуючы рашэнні майскага Пленума ЦК ВКП(б), партыйныя і непартыйныя большэвікі Беларусі дабіліся значных поспехаў у справе выпраўлення дапушчаных скрыўленняў палітыкі партыі ў галіне калгаснага будаўніцтва, у выкананні дырэктыў партыі і ўрада па ссяленню хутароў. Да 1 чэрвеня 1939 года было ссялена толькі 7½ тыс. калгасных двароў, а на 25 чэрвеня каля 95 тысяч.

Менская вобласць 23 чэрвеня закончыла план ссялення хутароў. 7.860 гаспадарак адбудавалі свае дамы на новых участках калгасных сяленняў. У вобласці вядзецца вялікая работа па быстрэйшаму сканчэнню адбудавання астатніх сселяных двароў калгаснікаў і аднаасобнікаў.

24 чэрвеня выканала план ссялення хутароў Магілёўская вобласць, а 25 чэрвеня—Палеская. Барацьба за ажыццяўленне рашэнняў майскага Пленума ЦК ВКП(б) выклікала велізарны энтузіязм сярод калгасных мас, новы вытворчы ўздым, накіраваны на паспяховае выкананне ўсіх сельскагаспадарчых работ 1939 года, выклікала вялікі прыліў аднаасобных гаспадарак у калгасы. Па Менскай вобласці за першыя 20 дзён чэрвеня ўступіла ў калгасы 693 аднаасобных гаспадаркі, па Палескай—1.314. У большасці раёнаў прыступілі да стварэння камісій для правядзення з 1 ліпеня г.г. абмера прысядзібных участкаў калгаснікаў і аднаасобнікаў.

Аднак, было-б глыбокай памылкай на гэтым супакоіцца. Трэба павесці самую рашучую і бязлітасную барацьбу з разбазарваннем будаўнічых матэрыялаў, адпускаемых для ссялення хутароў. Усякі такі факт павінен быць расцэнен, як антыдзяржаўнае, антыграмадскае злачынства, і вінаватыя павінны быць судзімы па ўсёй строгасці совецкіх законаў.

Па прыкладу перадавых раёнаў трэба шырока арганізоўваць социялістычную ўзаемадапамогу калгаснікам і аднаасобнікам, ссяляемым з хутарскіх участкаў у калгасныя сяленні.

Заслугоўвае ўвагі ініцыятыва партыйнай арганізацыі Варашылаўскага раёна горада Менска, якая ў дапамогу па ссяленню хутароў паслала ў раёны вобласці 22 тэхнікаў, 8 будаўнічых брыгад са 100 чалавек, аўтамашыны і т. д. Райком праводзіць вялікую работу на прадпрыемствах і ў арцелях па мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў, асабліва будаўнічых матэрыялаў, якімі можна дапамагчы сялу.

Партарганізацыі Облбудтрэста і рамонтнага трэста арганізавалі суботнік у дапамогу калгасам. Добрую ініцыятыву праявіла партыйная арганізацыя арцелі «Чырвоны металіст», гэтага-ж раёна. Члены арцелі абавязаліся выпрацаваць з адыходаў вытворчасці звыш плана тры тоны цвікоў, 600 дзвярных і аконных завесаў і рад іншых будаўнічых дэталей, неабходных для ссялення хутароў.

Вялікія магчымасці ў гэтых адносінах маюць партыйныя арганізацыі Гомеля, Віцебска, Магілева, Бабруйска, Барысава і раду іншых гарадоў. Гаррайкомы партыі павінны выпрацаваць канкрэтны план соцыялістычнай дапамогі сельскім раёнам у выкананні імі адказнейшай задачы—ссялення хутароў.

Рашэнні майскага пленума ЦК ВКП(б), пастановы партыі і ўрада «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання» і «Аб падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю і загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў у 1939 годзе» патрабуюць ад усіх партыйных арганізацый, ад усіх партыйных і совецкіх кіраўнікоў рашуча ўзмацніць кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, унікаць ва ўсе дробязі калгаснага будаўніцтва, усямерна дапамагаць калгасам у справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання, устанаўлення моцнай працоўнай дысцыпліны, уздыму прадукцыйнасці працы. Яны з'яўляюцца баявой праграмай дзеяння для ўсіх партыйных, совецкіх і профсаюзных арганізацый, магутнай зброяй у барацьбе за выкананне народна-гаспадарчых задач, за паспяховае вырашэнне сельскагаспадарчых работ 1939 года.

Няма сумнення ў тым, што большэвікі ордэнаноснай БССР пад кіраўніцтвам ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта забяспечаць поўнае і своечасовае выкананне рашэнняў майскага Пленума ЦК ВКП(б) і з чэсцю справяцца з ускладзенымі на іх задачамі.

---

**Г. Дворкін**

Сакратар Тураўскага РК КП(б)Б—ордэнаносец

# У барацьбе за высокі ўраджай

Таварыш Сталін у сваім справаздачным дакладзе на XVIII з'ездзе ВКП(б) падвёў вынікі барацьбы большэвіцкай партыі за соцыялістычнае ператварэнне вёскі і паставіў новыя велічныя задачы далейшага ўздыму соцыялістычнай сельскай гаспадаркі і матэрыяльна-культурнага ўзроўню калгаснага сялянства.

Асабліва вялікія змены ў сельскай гаспадарцы адбыліся за апошняе дзесяцігоддзе. Калгасны лад перамог канчаткова і беспаваротна. Соцыялістычная сістэма гаспадаркі з'яўляецца цяпер адзінай у нашым земляробстве. Совецкая вёска становіцца ўсё больш заможнай.

Сельская гаспадарка нашай краіны—самая буйная ў свеце, а яе тружанікі—самыя шчаслівыя. Соцыялістычнае земляробства аснашчона магутнай перадавой тэхнікай: трактарамі, камбайнамі, рознастайнымі складанымі сельскагаспадарчымі машынамі.

Укараненне машын і агратэхнікі, арганізаваная арцельная работа прывялі сельскую гаспадарку да нябачанага росквіту. Калгасы і соўгасы збіраюць багаты ўраджай, з кожным годам павялічваецца вага працадня.

Поспехі нашай сельскай гаспадаркі бясспрэчна вялікія, але яны паклалі толькі пачатак вырашэнню пастаўленай таварышом Сталіным грандыёзнай задачы: дабіцца штогодняй вытворчасці 8 мільярдаў пудоў зярна пры сярэдняй ураджайнасці 12—13 цэнтнераў на гектар. Гэта наша баявая праграма, сцяг барацьбы за далейшы рост сельскагаспадарчай прадукцыі, за яшчэ большы ўздым матэрыяльнага і культурнага добрабыту горада і вёскі.

Наказ таварыша Сталіна з найглыбейшым натхненнем прынялі калгаснікі і калгасніцы Тураўшчыны. У адказ на заклік вялікага правадыра яны сталі дабівацца нябачанай прадукцыйнасці працы, рэзка павялічваць ураджай, развіваць жывёлагадоўлю.

Велізарнейшы вытворчы ўздым ярка сведчыць аб узросшай сіле і арганізаванасці калгасаў, аб вялікай актыўнасці і свядомасці калгаснікаў. Палессе і ў прыватнасці Тураўскі раён здаўна славілася сваімі непраходнымі балотамі, неўраджайнымі землямі, некультурнасцю і непісьменнасцю «паляшукоў». Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя, совецкая ўлада назаўсёды пакончылі з гэтай сумнай спадчынай мінулага.

Арганізаваная калектыўная праца, штодзенныя клопаты і дапа-

мога партыі і ўрада адкрылі калгаснікам дарогу да культурнага, заможнага жыцця.

У гэтым годзе Тураўскі раён 20 красавіка, першым у рэспубліцы, закончыў сяўбу ранніх яравых.

У нашым раёне дзесяткі калгасаў штогод збіраюць высокі ўраджай.

За апошнія тры годы сярэдні ўраджай у калгасе «Савецкая Беларусь» даходзіў да 16 цэнтнераў зернавых і 191 цэнтнера бульбы з гектара. У 1938 годзе калгас сабраў у сярэднім 15 цэнтнераў зернавых і 205 цэнтнераў бульбы з гектара. Звяно Бабарыкі Ульяны дабілася ўраджаю проса ў 45 цэнтнераў з гектара.

У калгасе «XIII Кастрычнік» сярэдняя ўраджайнасць 1938 года складала 14,4 цэнтнера зернавых і 196 цэнтнераў бульбы.

Красамоўным пацвярджэннем нашых поспехаў у барацьбе за высокі ўраджай можа служыць той факт, што 24 калгасы раёна зацверджаны кандыдатамі на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку.

Савецкі ўрад высока ацаніў працу перадавых калгаснікаў раёна, узнагародзіўшы 6 чалавек ордэнамі і 3—медалямі Саюза ССР.

У адказ на сталінскія клопаты аб лепшых людзях соцыялістычнага земляробства калгаснікі Тураўшчыны яшчэ з большай энергіяй і палітычным уздымам уступілі ў соцыялістычнае спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі.

Да веснавой сяўбы калгасы пачалі рыхтавацца з восені. Перш за ўсё паклапаціліся аб засыпцы насенных фондаў зярном першакласнай кандыцыі. Глебу для пасеву ярыны ўзаралі ранняй восенню, а вясной правялі ранняе баранаванне зябліва. Узараная на 18—20 сантыметраў глеба добра трымала вільгаць, набыла рыхлую, камкаватую структуру. Амаль 50 процантаў плошчы пад раннія культуры ўпершыню засеялі яравізаваным насеннем. Большую частку азімых прабаранавалі. Звыш 500 гектараў азімых было падкормлена.

Падрыхтоўкай да веснавой сяўбы кіраваў не толькі земаддзел, выключную ўвагу ўдзяляла ёй раённая партыйная арганізацыя. Райком партыі на сваіх пасяджэннях сістэматычна заслухоўваў парторгаў, старшынь сельсоветаў і калгасаў, кіраўнікоў МТС і прымаў канкрэтныя рашэнні, у якіх указвалася, як забяспечыць авангардную ролю камуністаў, разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва, палітмасавую работу. Старшыні калгасаў і брыгадзіры склікаліся на спецыяльныя нарады. У калгасах наладжана была агратэхвучоба, што дало магчымасць шырокім масам калгаснікаў пазнаёміцца з агратэхнічнымі правіламі апрацоўкі глебы.

У лютым месяцы адбыўся раённы злёт стаханаўцаў—перадавікоў соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, да якога ў кожным сельсовеце былі праведзены нарады стаханаўцаў.

Прадз'ездаўскае соцспаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі выклікала небывалы ўздым палітычнай актыўнасці сярод калгаснікаў. У гонар XVIII з'езда ВКП(б) калгаснікі на сходах бралі абавязацельствы сустрэць у поўнай гатоўнасці бальшэвіцкую вясну і выдатна, у самыя сціслыя тэрміны правесці вясеннюю сяўбу. Ініцыятарамі разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва былі камуністы і комсамольцы. Іх прыкладу следавалі шырокія масы калгаснікаў.

У першы дзень палявых работ большасць калгаснікаў перавыконвала свае нормы. Так, калгаснікі сельгасарцелі «Чырвоны пуцілавец»

Верасніцкага сельсовета тт. Вашкоў С., Блоцкі А. і інш. сістэматычна перавыконвалі норму на 150—170 проц. Кожны гарэў адзіным жаданнем—выйсці пераможцам у спаборніцтве. На ўласным вопыце калгаснікі пераканаліся, што высокі ўраджай у вялікай меры залежыць ад таго, як вясною пасееш.

Высокія паказчыкі сяўбы забяспечаны былі аператыўным і канкрэтным кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі. У соцыялістычным спаборніцтве калгасаў дзейна дапамагаў раённы партыйны актыў. Умелае спалучэнне партыйна-палітычнай работы з гаспадарчай высока ўзняло аўтарытэт члена партыі. Прадастаўленне вытворчым арганізацыям права кантролю за становішчам справы на прадпрыемстве, у соўгасе, калгасе павысіла ролю і адказнасць пярвічных партыйных арганізацый.

Комуністы Тураўшчыны ў сваёй рабоце кіраваліся рашэннямі XVIII з'езда партыі і ўказаннямі тав. Андрэева аб тым, каб быць сапраўднымі кіраўнікамі і памочнікамі калгасаў, а не пасіўнымі назіральнікамі, штодзенна дапамагаць калгаснікам і калгасніцам у іх барацьбе за сталінскі ўраджай. У час сяўбы, калі закладалася аснова высокага ўраджаю, вырашаўся яго лёс, комуністы былі на палях. 283 чалавекі, арганізаваныя ў 10 агіткалектываў, праводзілі ў брыгадах, звеннях і гуртках у час адпачынку і абедзенных перапынкаў бяседы, чыталі і раз'яснялі калгаснікам рашэнні партыі і ўрада, дапамагалі вывучаць даклад тав. Сталіна і матэрыялы XVIII з'езда партыі.

У сваім дакладзе на XVIII з'ездзе партыі таварыш Сталін сказаў, што трэба «расставіць работнікаў па пастах такім чынам, каб кожны работнік адчуваў сябе на месцы, каб кожны работнік мог даць нашай агульнай справе максімум таго, што наогул здолен ён даць па сваіх асабістых якасцях, каб агульны напрамак работы па расстаноўцы кадраў поўнасцю адпавядаў патрабаванням той палітычнай лініі, у імя правядзення якой робіцца гэта расстаноўка».

Кіруючыся ўказаннямі правадыра, Тураўская партыйная арганізацыя правяла вялікую работу па расстаноўцы кадраў партыйных і непартыйных бальшэвікоў у калгасах, улічваючы асабістыя і дзелавыя якасці кожнага работніка і практычна дапамагаючы ў яго рабоце, што забяспечыла паспяховае выкананне задач, пастаўленых перад партыйнай арганізацыяй.

У Запясоцкі сельсовет, які быў самым адстаючым у раёне, райком партыі вылучыў старшынёй сельсовета комсамольца тав. Пухавіцкага, а ў калгасы «XIII Кастрычнік» і «Перамога»—комуніста тав. Пакінька і кандыдата партыі тав. Тарасюка. З самага пачатку райком партыі сістэматычна дапамагаў ім у рабоце, заслухоўваў іх справаздачы, знішчаў недахопы на месцы. Сельсовет з адстаючых выйшаў у перадавыя, закончыўшы сяўбу першым у раёне.

Пры сельсовеце створана пярвічная партыйная арганізацыя з 11 членаў і кандыдатаў партыі. Агіткалектыў складаецца з 25 комуністаў і комсамольцаў, лепшых, палітычна пісьменных калгаснікаў і совецкай інтэлігенцыі. Кіруе калектывам тав. Пакінька.

Вялікую ўвагу партыйная арганізацыя аказвае комсамолу. Комсамольскія арганізацыі, створаныя ў асобных калгасах сельсовета, былі малалікі і працавалі слаба. Партыйная арганізацыя дапамагла раённаму камітэту комсамола стварыць комсамольскія арганізацыі і палепшыць іх работу ва ўсіх пяці калгасах. Цяпер у комсамольскіх арганізацыях калгасаў налічваецца 104 комсамольцы.

Хуткі рост комсамольскіх арганізацый выклікан палепшаннем усёй партыйна-палітычнай і выхаваўчай работы сярод моладзі і, асабліва, сярод дзяўчат. Комсамольская арганізацыя калгаса «XIII Кастрычнік» за апошнія 3—4 месяцы вырасла на 24 чалавекі, амаль выключна за лік дзяўчат.

Комсамол пад кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі многа дапамог у разгортванні соцыялістычнага спаборніцтва, у барацьбе за паспяховае правядзенне веснавой сяўбы.

Упартая работа партыйных і непартыйных большэвікоў дала не дрэнныя вынікі. Усе 5 калгасаў зацверджаны кандыдатамі на Сельскагаспадарчую выстаўку.

Многа ўвагі ўдзяліў райком партыі стварэнню новых пярвічных партарганізацый і ўмацаванню старых. У Азеранскім сельсовеце да з'езда партыі была адна толькі кандыдацкая група, а зараз створана моцная пярвічная партарганізацыя з 10 комуністаў. Яе сакратар Раеўскі не дрэнна спраўляецца з работай. Праведзеная ў калгасах партыйна-палітычная работа забяспечыла завяршэнне веснавой сяўбы ў сціслыя тэрміны. Сельсовет адным з першых у раёне закончыў сяўбу і дзейна рыхтуецца да ўборкі высокага ўраджаю.

Самай вялікай у раёне з'яўляецца партарганізацыя Тонежскага сельсовета. Яна правяла вялікую работу па ўцягненню ў партыю перадавых калгаснікаў і совецкай інтэлігенцыі. За апошнія 4 месяцы прынята ў партыю 19 чалавек. У калгасе «VI з'езд Советаў» створана кандыдацкая група.

За час веснавой сяўбы значна вырасла пярвічная партарганізацыя Верасніцкага сельсовета. У партыю прынята 5 чалавек. Сярод іх лепшыя людзі калгаснай вытворчасці: брыгадзір калгаса «VI з'езд Советаў» тав. **Ханевіч,** узнагароджаны медаллю «За трудовое отличие», заг. малочна-таварнай фермай гэтага-ж калгаса тав. **Карась** і інш.

Рост пярвічных партыйных арганізацый у калгасах даў магчымасць наблізіць да мас партыйнае кіраўніцтва. У партыю ўступаюць перадавікі сельскай гаспадаркі, інтэлігенцыя, лепшая частка совецкай моладзі—выхаванцы ленінскага комсамола. За 1938 год і 3 месяцы 1939 года ў партыю прынята 80 чалавек. Сярод іх старшыня калгаса «Новае жыццё» тав. **Казёл,** узнагароджаны ордэнам «Трудового красного знамени», старшыня Запясоцкага сельсовета тав. **Пухавіцкі,** узнагароджаны медаллю «За трудовую доблесть», старшы аграном райземаддзела тав. **Паўлавец,** узнагароджаны ордэнам «Знак почета», настаўніца Букчанскай няпоўнай сярэдняй школы тав. **Палавец,** узнагароджаная медаллю «За трудовое отличие».

Аб паляпшэнні большэвіцкай прапаганды і агітацыі сведчыць высокі ўзровень масава-палітычнай работы сярод працоўных раёна. Партыйныя і непартыйныя большэвікі вывучаюць матэрыялы XVIII з'езда партыі. Разгортваецца работа па вывучэнню гісторыі ВКП(б). Парткабінет павялічыў колькасць кансультацый па гісторыі партыі. Аддзел прапаганды і агітацыі абкома ў дапамогу самастойна вывучаючым гісторыю партыі часта прысылае высокакваліфікаваных лектароў. У калгасы сістэматычна выязджаюць кансультанты.

Прышлося не мала папрацаваць над ліквідацыяй вынікаў шкодніцтва ў раёне. Трацкісцка-бухарынская банда прыслужнікаў фашызма, абраўшы сельскую гаспадарку галоўным аб'ектам шкод-

ніцкай работы, спрабавала ўзарваць калгасы знутры, выклікаць азлабленне сялянства.

У нашым раёне было не мала фактаў парушэння статута сельгасарцелі, калі прысядзібныя ўчасткі зямлі, якая знаходзілася ў асабістым карыстанні калгаснага двара, празмерна расшыраліся за кошт грамадскіх зямель калгасаў.

Пастанова Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) і Совета Народных Камісараў Саюза ССР асудзіла антыдзяржаўную практыку разбазарвання калгасных зямель і папярэдзіла партыйныя і совецкія арганізацыі, праўленні калгасаў і зямельныя органы аб неабходнасці прыцягваць парушальнікаў гэтай пастановы да суровай адказнасці.

Таварыш Сталін і партыя вучаць нас няўхільна захоўваць статут сельскагаспадарчай арцелі, у якім правільна спалучаюцца асабістыя інтарэсы калгаснікаў з грамадскімі, што забяспечвае далейшы рост заможнасці калгаснікаў.

Правільнае спалучэнне асабістых інтарэсаў з грамадскімі з'яўляецца асновай калгаснага ладу. Асабістая гаспадарка калгасных двароў павінна насіць вузка падсобны характар, а агульна-калгасная—узрастаць, як аснова.

У рашэннях XVIII з'езда ВКП(б) указваецца, што адной з важнейшых задач трэцяй сталінскай пяцігодкі з'яўляецца далейшае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, рост грамадскай арцельнай гаспадаркі. Гэта абавязвае партыйныя, совецкія арганізацыі і зямельныя органы штодзенна займацца пытаннямі калгаснага будаўніцтва, узмацніць барацьбу з парушальнікамі статута сельгасарцелі.

З велізарным натхненнем і радасцю калгаснікі сустрэлі пастанову ЦК ВКП(б) і СНК СССР «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання». На калгасных сходах пераважная большасць калгаснікаў поўнасцю і аднадушна адабрае пастанову партыі і ўрада, якая кладзе канец сур'ёзным скажэнням палітыкі партыі ў галіне калгаснага землеўладання, цалкам стаіць на варце інтарэсаў чэсных калгаснікаў і рашуча б'е па дармаедах, якія прыкрываюцца званнем калгасніка.

Кожны працаздольны калгаснік і калгасніца павінны ўкладаць сваю працу ў калгасную грамадскую вытворчасць, добрасумленна адносіцца да работы.

Яшчэ ў 1933 годзе ў бяседзе з дэлегацыяй калгаснікаў Днепрапетроўскай вобласці таварыш Сталін сказаў: «і калі ўсе калгаснікі,—усе, а не толькі большасць,—будуць працаваць чэсна,—калгасы завалянца прадуктамі, яны завалянца ўсякім дабром, і наша краіна стане самай багатай краінай у свеце».

Адсюль выцякае задача правільнага і хуткага ўцягнення ў грамадскую вытворчасць усіх—а не толькі большасці працаздольных калгаснікаў.

Наша партыйная арганізацыя шырока разгарнула агітмасавую работу, і, апіраючыся на масы чэсных калгаснікаў, беззаветна адданых справе калгаснага ладу, змагаецца за поўную і хутчэйшую ліквідацыю парушэнняў статута сельскагаспадарчай арцелі.

У адказ на клопаты партыі і ўрада калгаснікі нашага раёна з велізарным энтузіязмам рыхтуюцца да ўборкі высокага ўраджаю, каб першымі ў рэспубліцы, узорна і без страт, як і веснавую сяўбу, правесці ўборку і выканаць дзяржаўныя пастаўкі.

Зараз на калгасных палях поўным ходам ідзе праполка зернавых і тэхнічных культур. Першую праполку ільну калгасы раёна ўжо закончылі.

Адначасова калгасы рамантуюць сельскагаспадарчы інвентар, прыводзяць у парадак жаткі, конныя граблі, малатарні. На 15 чэрвеня адрамантавана 98 сенакасілак з 102 і 48 жатак з 62. Паспяхова ідзе рамонт трактароў і іншых сельскагаспадарчых машын у МТС. Адрамантавана ўжо 3 камбайны і 11 трактароў.

Перадавы калгас «Совецкая Беларусь», зацверджаны ўдзельнікам на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку, поўнасцю закончыў падрыхтоўку да ўборкі. Ва ўсіх брыгадах адрамантаваны жняяркі, конныя і ручныя граблі, трыеры, ачышчаны і прадэзінфекцыраваны складскія памяшканні.

Баявая задача партыйнай арганізацыі, земаддзела—узначаліць небывалую вытворчую актыўнасць і працоўны ўздым, якім ахоплены шырокія калгасныя масы, штодзенна кіраваць соцыялістычным спаборніцтвам у барацьбе за высокую ўборку ўраджаю, за паспяховую падрыхтоўку да Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі, дабівацца далейшага росквіту культурнага і заможнага калгаснага жыцця.

---

**Д. Матлахаў**

Сакратар Віцебскага гаркома КП(б)Б

# Прыём у партыю па новаму статуту

Народы вялікага Савецкага Саюза пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на чале з геніем чалавецтва тав. Сталіным ажыццяўляюць сусветна-гістарычную задачу завяршэння будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і паспяховага пераходу ад соцыялізма да комунізма. У гэты перыяд нязмерна павышаецца гістарычная роля і значэнне авангарда рабочага класа—нашай большэвіцкай партыі, якая ажыццяўляе кіраўніцтва ўсім совецкім народам у яго барацьбе за комунізм. У адпаведнасці з гэтым ва многа раз узрастае роля і адказнасць кожнага члена нашай вялікай комуністычнай партыі.

Тав. Жданаў на XVIII з'ездзе ВКП(б) гаварыў, што вакол советаў, профсаюзаў, комсамола, кааперацыі, Асоавіяхіма і іншых грамадскіх арганізацый ёсць шматлікі беспартыйны актыў і што задача комуністаў, якія працуюць у гэтых арганізацыях,—безупынна павышаць яго ідэйна-палітычны ўзровень, каб давесці «да ўзроўню разумення задач комуністычнага авангарда, г. зн. да ўзроўню партыйнасці і рыхтаваць лепшых сваіх людзей да ўступлення ў партыю».

Партыя рэволюцыйнага творчага марксізма—партыя большэвікоў—не прызнае застыўшых форм партыйнага будаўніцтва.

На XVIII з'ездзе ВКП(б) у статут партыі былі ўнесены змены, таму што старыя нормы прыёму не адпавядалі цяперашняй класавай структуры совецкага грамадства і тармазілі ўступленне ў партыю перадавых рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі. Новы статут зняў гэтыя непатрэбныя перашкоды. У партыю ўступаюць перадавыя людзі вытворчасці, стаханаўцы, перадавікі сельскай гаспадаркі, лепшыя прадстаўнікі совецкай інтэлігенцыі—інжынеры, навуковыя работнікі, настаўнікі, пісьменнікі. У партыю ўступае лепшая частка совецкай моладзі, выхаваная пад кіраўніцтвам партыі ленінска-сталінскім комсамолам.

Пасля XVIII з'езда Віцебская гарадская партарганізацыя прыняла ў кандыдаты 155 таварышоў, адданых справе Леніна—Сталіна, праявіўшых сябе на грамадскай і вытворчай рабоце, перадавікоў прамысловасці і транспарта, лепшых прадстаўнікоў совецкай інтэлігенцыі.

У партыю ўступіла тав. **Байбус**—работніца-стаханаўка трыкатажнай фабрыкі імені Клары Цэткін. На фабрыцы яна працуе з 1929 г., сістэматычна перавыконвае план, прымае актыўны ўдзел у грамадскай рабоце, член фабрычнага камітэта. Тав. **Мельнікава Е. А.**—майстар швейнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», ініцыятар стаханаўскага руху. На фабрыцы пачала працаваць з 1931 г. работніцай-парт-

ніхай, затым брыгадзірам і майстрам. Неаднакроць прэміравалася, карыстаецца аўтарытэтам сярод рабочых. Тав. **Болдышаў К. Т.**—працуе на транспарце 33 годы, сістэматычна дапамагае маладым рабочым і вучыць іх стаханаўскім метадам работы.

Ліквідацыя катэгорый палегчыла ўступленне ў партыю лепшых прадстаўнікоў совецкай інтэлігенцыі. За час пасля XVIII партз'езда Віцебская партарганізацыя прыняла ў кандыдаты партыі 17 тэхнікаў, 3 інжынераў, 7 настаўнікаў і навуковых работнікаў. У большасці—гэта маладыя людзі, смелыя, ініцыятыўныя спецыялісты. Сярод іх 24-гадовы тэхнік, нач. цэха маслазавода тав. **Чэркасава Р. А.,** якая добра спраўляецца з работай. Яе стаханаўскі цэх сістэматычна перавыконвае план. Тав. Чэркасава ўпарта працуе над павышэннем свайго тэхнічнага ўзроўню. У выніку яе рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў цэх дабіўся эканоміі прэссукна, зніжэння маслічнасці жмыха. Тав. Чэркасава—комсамолка з 1930 г., актыўна ўдзельнічае ў комсамольскім і грамадскім жыцці завода. Навуковы работнік медыцынскага інстытута тав. **Шмідаў Г. Б.** да 1930 г. працаваў столярам. Як малады спецыяліст, тав. Шмідаў карыстаецца заслужаным аўтарытэтам сярод настаўнікаў і студэнцтва інстытута. У сваёй заяве ён піша: «Прашу прыняць мяне кандыдатам у члены ВКП(б). Ленінска-сталінскі комсамол за 10 год майго прабывання ў яго радах падрыхтаваў мяне да ўступлення ў рады партыі Леніна—Сталіна. Спадзяюся высокае званне комуніста з гонарам апраўдаць»

Лепшыя людзі, гордасць нашай радзімы, ідуць у партыю, каб самааддана змагацца за вялікія ідэі комунізма. Але трэба памятаць, што ў агульнай масе праверанных і адданых справе партыі таварышоў могуць пранікнуць у яе рады чуждыя большэвізму, кар'ерысцкія, выпадковыя элементы.

Трэба памятаць, што Совецкі Саюз знаходзіцца ў абстаноўцы варожага капіталістычнага акружэння, якое засылае ў нашы тылы шпіёнаў, дыверсантаў, шкоднікаў. Ворагі і надалей будуць імкнуцца прабрацца ў партыю, каб, прыкрываючыся партыйным білетам і высокім званнем комуніста, шкодзіць нашай справе.

Задача кожнай партыйнай арганізацыі—не аслабляць большэвіцкай пільнасці, строга захоўваць ленінска-сталінскі прынцып індывідуальнага адбору ў партыю, рашуча процідзейнічаць малейшай спробе лёгкадумных адносін да прыёму ў партыю новых членаў. Без усякай паспешнасці, але і без валакіты партарганізацыі павінны разглядаць кожную заяву аб прыёме ў рады ВКП(б).

> «Сістэматычна паляпшаць састаў партыі, падымаючы ўзровень свядомасці членаў партыі і прымаючы ў рады партыі ў парадку індывідуальнага адбору толькі праверанных і адданых справе комунізма таварышоў» (Сталін).

У рашэннях XVIII з'езда ВКП(б) указана, што гаркомы і райкомы партыі з'яўляюцца канчатковай інстанцыяй, якая зацвярджае прыём у партыю. Гэта павышае іх адказнасць за індывідуальны адбор.

Пасля ўказання Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) аб неабходнасці строгага захавання прынцыпа індывідуальнага адбору партарганізацыі больш уважліва падыходзяць да кожнага чалавека. Але, відаць, яшчэ не ўсе работнікі Віцебскай партарганізацыі цвёрда ўсвоілі гэта ўказанне, бо часам зацвярджаюць у кандыдаты партыі людзей без папярэдняга іх вывучэння і праверкі. Выяўлен рад парушэнняў ста-

тута ВКП(б), няўважлівы, а часам і ліберальны падыход да прымаемых у партыю.

Бюро Віцебскага гарадскога камітэта партыі ўстрымалася ад зацверджання часткі прынятых пярвічнымі партарганізацыямі кандыдатаў у члены ВКП(б).

Партарганізацыя Мединстытута на адным партсходзе прыняла ў кандыдаты партыі 10 чалавек без дастатковай папярэдняй праверкі. Абмяркоўваючы кандыдатуру тав. Ш., партбюро абмежавалася заявай комсамольца Ю. аб тым, што тав. Ш. можна прыняць у партыю. Тут-жа прынялі ў кандыдаты і тав. Ю., хоць усе комуністы як на партбюро, так і на агульным сходзе характарызавалі яго як нявытрыманага, няшчырага чалавека, парушальніка працоўнай дысцыпліны. Гарадскі камітэт партыі не зацвердзіў рашэння гэтай партарганізацыі.

Партарганізацыя станцыі Таварная прыняла ў кандыдаты нейкага К., які ў анкеце пісаў, што з 1918 па 1921 г. знаходзіўся ў палоне ў Польшчы. На паседжанні бюро гаркома выявілася, што К.—добраахвотнік польскіх легіёнаў, прыбыў у Совецкі Саюз у 1921 г.

У радзе партарганізацый ёсць выпадкі прыёму ў партыю людзей непадрыхтаваных.

Партарганізацыя трамвайнага парка прыняла ў кандыдаты партыі тав. Г., чалавека малапісьменнага, не прымаўшага ўдзелу ў грамадскім жыцці. Партарганізацыя завода «Комінтэрн» прыняла выключанага з партыі адной з сібірскіх партарганізацый І., не праверыўшы прычыны яго выключэння.

Наяўнасць такіх выпадкаў тлумачыцца непатрэбнай спешкай пасобных партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў у справе прыёму ў партыю, агульным падыходам, адсутнасцю ўважлівага папярэдняга вывучэння падаўшых заявы таварышоў.

Перавод з кандыдатаў у члены партыі, асабліва кандыдатаў з пратэрмінаваным стажам праводзіцца ўсё яшчэ нездавальняюча. Па Віцебскай партарганізацыі за перыяд пасля з'езда прынята ў члены партыі толькі 139 кандыдатаў. На фабрыцы імя Клары Цэткін—35 кандыдатаў партыі са стажам з 1930—1933 г. Партбюро фабрыкі за цэлы год правёў з імі толькі адну гутарку. Палітычным ростам кандыдатаў партбюро не цікавіцца, не дапамагае ім падрыхтавацца да ўступлення ў партыю. Многія кандыдаты, якія апраўдваюць сябе на вытворчасці і ў грамадскай рабоце, не падаюць заяў аб прыёме ў партыю, бо лічаць сябе непадрыхтаванымі, як напрыклад стаханаўка панчошнага цэха тав. Папкова, якая выконвае план на 130—135 проц. і актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці. Часта кандыдатам не даюць партдаручэнняў, баючыся, што яны не справяцца з імі. Тым часам вопыт сведчыць аб адваротным. Так, кандыдат партыі тав. Чулкова добра спраўляецца з мопраўскай работай.

Не лепш пастаўлена работа з кандыдатамі і на Акулярнай фабрыцы, дзе налічваецца 8 кандыдатаў з вялікім пратэрмінаваным стажам. Партбюро не прыцягвае іх да актыўнага партыйнага жыцця, хоць многія з іх падрыхтаваны да прыёму ў партыю. Кандыдат партыі тав. Дароніна працуе на фабрыцы 24 годы. Яна—герой працы першай пяцігодкі, займаецца ў гуртку палітграматы, але падаць заяву аб прыёме ў члены партыі не рашаецца. Партбюро не паклапацілася аб тым, каб дапамагчы ёй лепш падрыхтавацца. У партарганізацыі Горхарчгандля былі выпадкі, калі кандыдаты партыі, не ведаючы рашэнняў XVIII з'езда ВКП(б), шукалі па 5 рэкамендацый. Справы кандыдатаў тт. Кагана і Якушава, якія ўжо аформілі перавод

у члены партыі, партбюро больш месяца не перадавала ў гарком партыі.

Добрых вынікаў у рабоце з кандыдатамі дабілася партарганізацыя фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі».

Партбюро фабрыкі асобую ўвагу ўдзяляе ідэйнаму росту маладых кандыдатаў партыі і клапоціцца аб своечасовым уступленні іх у члены партыі.

Тав. **Дзерабін**—кандыдат партыі з 1937 г., стаханавец, двухсотнік, прымаў актыўны ўдзел у партыйным жыцці фабрыкі. Па сканчэнні кандыдацкага стажу прынят у члены партыі. Як агітатар на сваёй ленце, ён рэгулярна праводзіць вывучэнне рашэнняў XVIII з'езда ВКП(б). Цяпер тав. Дзерабін вылучан начальнікам піонерлагераў.

Тав. **Савеленка**—кандыдат партыі з 1938 г. пры дапамозе партарганізацыі палітычна вырасла і прынята ў члены партыі. Як добрая работніца, тав. Савеленка вылучана нам. дырэктара сталовай фабрыкі, з работай спраўляецца добра і карыстаецца аўтарытэтам сярод рабочых.

Следуючы ўказанням таварыша Сталіна аб неабходнасці сістэматычна паляпшаць састаў нашай партыі, пры ўмове строгага захавання прынцыпа індывідуальнага адбору, Віцебскі гарком КП(б)Б, выконваючы рашэнні апошняга чэрвеньскага пленума ЦК КП(б)Б, прымае ўсе меры, каб папярэдзіць залішнюю спешку і рашуча спыніць спробы некаторых пярвічных партарганізацый павесці прыём у партыю самацёкам, ператварыць яго ў чарговую кампанію. Мы зараз вядзем барацьбу за тое, каб забяспечыць адбор лепшых, сапраўды перадавых людзей—рабочых, стаханаўцаў, інжынераў, тэхнікаў, урачоў і т. д., якія прымаюць актыўны ўдзел у штодзенным грамадска-палітычным жыцці і праявілі сябе ў барацьбе за соцыялізм. Дасканала правяраючы кожнага прымаемага ў партыю, мы не лічымся з часам, які патрабуецца на вывучэнне і разбор кожнай заявы, але разам з тым не дапускаем і валакіты.

Новае папаўненне радоў партыі патрабуе настойлівай палітыка-выхаваўчай работы. Маладым комуністам неабходна дапамагчы ў цвёрдым засваенні большэвіцкіх традыцый, у глыбокім вывучэнні праграмы і статута ВКП(б), у аўладанні тэорыяй марксізма-ленінізма. Старыя комуністы павінны штодзённа працаваць з маладымі таварышамі, асабістым прыкладам паказваць ім, як трэба выконваць абавязкі члена партыі. Маладых комуністаў неабходна ўцягваць у актыўнае партыйнае жыццё, бо гэта дапамагае атрымаць вопыт у партыйнай рабоце, прывучае да дысцыпліны, выхоўвае стойкага большэвіка—барацьбіта за справу Леніна—Сталіна.

Б. Зельцэр

# Строга захоўваць прынцып індывідуальнага адбору ў партыю

Гістарычны XVIII з'езд партыі Леніна—Сталіна падвёў вынікі грандыёзных перамог соцыялізма ў нашай краіне, дзе няма галечы і беспраўя, дзе няма антаганістычных класаў, дзе рабочыя, сяляне і інтэлігенцыя, якія складаюць совецкае грамадства, жывуць і працуюць на пачатках дружаственнага супрацоўніцтва.

XVIII з'езд нашай партыі ўказаў шляхі далейшага развіцця нашага грамадства, пераходу ад соцыялізма да вышэйшай яго стадыі—комунізма.

Партыя дабілася гэтых перамог таму, што яна захавала ў чыстаце сцяг ленінска-сталінскай партыйнасці, узброіла сваіх членаў тэорыяй марксізма-ленінізма, выхоўвала іх на ідэях Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, згуртавала працоўныя масы вакол свайго непераможнага ленінска-сталінскага сцягу.

Гэтыя гістарычныя перамогі яшчэ больш павысілі аўтарытэт партыі ў народзе і ўмацавалі непахісную ўпэўненасць ва ўсеперамагаючую сілу большэвізма.

Наша большэвіцкая партыя акружана любоўю мільёнаў беспартыйных большэвікоў. Яны ганарацца комуністычнай партыяй, прыслухоўваюцца да яе голасу, давяраюць ёй свой лёс і самі рыхтуюцца ўступіць у яе рады. Імкненне лепшых, перадавых людзей быць у радах партыі сведчыць аб выключным аўтарытэце нашай большэвіцкай партыі, аб яе кроўнай сувязі з масамі працоўных.

Яшчэ ў 1935 годзе ў гутарцы з удзельнікамі першамайскага парада таварыш Сталін гаварыў:

> «Большэвік—гэта той, хто адданы да канца справе пролетарскай рэволюцыі. Такіх многа сярод непартыйных. Яны або не паспелі ўступіць у рады партыі, або яны так высока цэняць партыю, бачаць у ёй такую святыню, што хочуць падрыхтавацца яшчэ і яшчэ да ўступлення ў партыйныя рады. Часта такія людзі, такія таварышы, такія байцы стаяць нават вышэй многіх і многіх членаў партыі. Яны верны ёй да гроба».

На працягу ўсёй гісторыі нашай партыі Ленін і Сталін вучаць нас адносіцца да прыёму ў партыю новых членаў з усёй сур'ёзнасцю і адказнасцю.

На XVIII з'ездзе партыі таварыш Сталін паставіў адной з асноўных нашых задач:

> «Сістэматычна паляпшаць састаў партыі, падымаючы ўзровень свядомасці членаў партыі і прымаючы ў рады партыі ў парадку

індывідуальнага адбору толькі праверапых і адданых справе комунізма таварышоў».

Гэты ленінска-сталінскі прынцып з'яўляецца непахісным законам нашай партыі і не падлягае ніякаму змяненню.

Тав. Жданаў на XVIII з'ездзе партыі гаварыў аб тым, што асобныя комуністы, не разумеючы характару нашай партыі, лічаць, што яна нібыта не намерана больш клапаціцца аб якасці сваіх членаў і шырока адчыняе дзверы для кожнага, хто толькі захоча ўступіць у яе рады.

...«Сіла нашай партыі,—указаў тав. Жданаў,—заключаецца не ў тым, каб знішчыць граніцы паміж партыяй і непартыяй, паміж партыйнымі і беспартыйнымі, і расплыцца, растварыцца ў масе, а ў тым, што партыя, з'яўляючыся зборным пунктам перадавых людзей з рабочага класа, сялянства, інтэлігенцыі, не гоніцца за колькасцю членаў, а клапоціцца аб іх якасці, аб высокім званні членаў партыі, аб іх стойкасці і адданасці справе рабочага класа».

Змяненні ў статуце ВКП(б), прынятыя XVIII з'ездам, служаць довадам сілы нашай партыі, з'яўляюцца сродкам яшчэ большага ўмацавання сувязі партыі з масамі.

Гістарычныя перамогі нашай партыі і краіны знаходзяць вернае выражэнне ў нязмерна ўзросшай палітычнай і вытворчай актыўнасці рабочых, калгаснага сялянства і інтэлігенцыі, у велізарнай цяге ў партыю лепшых людзей краіны, правераных на розных участках барацьбы за соцыялізм.

Партыйныя арганізацыі Беларусі прарабілі вялікую работу па прыёму ў ВКП(б). Даволі сказаць, што калі за ўвесь 1938 год па рэспубліцы прынята ў кандыдаты партыі 6.167 і ў члены—2.389 чалавек, то за 5 месяцаў, з 1 студзеня па 1 чэрвеня 1939 г., прынята ў кандыдаты партыі—10.569 і ў члены—3.489 чалавек. У тым ліку пасля XVIII з'езда, г. зн. за красавік—май 1939 г., прынята ў кандыдаты 5.372 і ў члены партыі—1.847 чалавек.

У партыю прыняты лепшыя людзі рэспублікі, узросшыя на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва, беззаветна адданыя соцыялістычнай радзіме, вялікай справе будаўніцтва соцыялізма, нашаму Сталіну.

Віцебскі гарком прыняў кандыдатам у члены партыі доктара ветэрынарных навук, дэпутата Вярхоўнага Совета СССР тав. **Белкіна Г. Я.** Кагановіцкі райком партыі (Менск) прыняў у партыю заг. кафедрай мед'інстытута прафесара тав. **Голуб.**

Бешанковіцкі райком прыняў у кандыдаты партыі настаўніка **Васільева П. А.,** узнагароджанага ордэнам Леніна. Чашніцкі райком прыняў у партыю старшыню калгаса «Ударнік» тав. **Харкаўца,** узнагароджанага ордэнам «Красного знамени» і медаллю «За трудовую доблесть». Уваравіцкі райком прыняў у кандыдаты партыі тав. **Кундзелева С. С.**—старшага механіка Уваравіцкай МТС, узнагароджанага медаллю «За трудовое отличие» і зацверджанага кандыдатам на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку.

Дубровенскі райком прыняў у партыю старшага агранома соўгаса «Першае Мая» тав. **Аўхукова Г. П.,** узнагароджанага медаллю «За трудовую доблесть». Петрыкаўскім райкомам прынята звеннявая калгаса «Чырвоны партызан» тав. **Піскун А.,** узнагароджаная медаллю «За трудовое отличие». Крычаўскі райком прыняў у партыю тав. **Кузьмянкова**—ініцыятара стаханаўскага руху на Крычаўскім цэментным

заводзе. Рэчыцкі райком прыняў у партыю дэпутата Вярхоўнага Совета БССР тав. **Якімовіча.** Сталінскі райком прыняў у партыю токара менскага станкабудаўнічага завода імені Варашылава тав. **Драгуна,** які выконвае нормы на 200 проц. і зараз вылучан майстрам пралёта; работніцу-стаханаўку кандзіцерскай фабрыкі «Комунарка» тав. **Боршч,** узнагароджаную граматай; заслужанага артыста рэспублікі тав. **Бяссмертнага;** народнага артыста рэспублікі тав. **Уладамірскага;** мастацкага кіраўніка першага беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра тав. **Рахленка;** дырэктара кансерваторыі тав. **Бергера;** пісьменніка-ордэнаносца тав. **Броўку** і рад іншых выдатных людзей нашай краіны, да канца адданых справе соцыялістычнай радзімы, справе партыі Леніна—Сталіна.

Усяго за апошні час толькі ў Сталінскім раёне г. Менска прыняты ў партыю 37 інжынерна-тэхнічных работнікаў, 13 урачоў, 5 артыстаў, 2 аграномы і інш.

Па ўсёй рэспубліцы за перыяд з 1 студзеня па 1 чэрвеня 1939 г. прынята 337 інжынерна-тэхнічных работнікаў, 642 настаўнікаў пачатковых школ, 112 аграномаў і іншых спецыялістаў сельскай гаспадаркі, 178 навуковых работнікаў і выкладчыкаў, 75 урачоў і т. д.

Пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый многія з новапрынятых прайшлі вялікую школу грамадскай масава-палітычнай работы, загартаваліся ў барацьбе з трацкісцка-бухарынскімі і буржуазна-нацыяналістычнымі агентамі фашызма.

За пасляз'ездаўскі перыяд павялічылася колькасць пярвічных партарганізацый. У адных толькі калгасах створаны новых 109 пярвічных партарганізацый, якія наладжваюць масава-палітычную работу, шырока разгортваюць соцыялістычнае спаборніцтва.

Аднак не ўсе партарганізацыі да канца ўсвоілі ясныя і чоткія ўказанні партыі і таварыша Сталіна аб індывідуальным адборы. Сярод партыйных кіраўнікоў знаходзяцца людзі, якія думаюць, што новы статут зрабіў прыём у партыю выключна простай і лёгкай справай, што цяпер ужо можна прымаць у партыю ўсіх жадаючых. Гэты ў корані няверны, непартыйны погляд на арганізацыю прыёму ў партыю ідзе ўразрэз з большэвіцкімі традыцыямі ўсёй гісторыі нашай партыі, з указаннямі Леніна і Сталіна. Кампанейскі падыход да прыёму ў партыю новых членаў тоіць у сабе вялікія небяспекі. Неабходна цвёрда памятаць указанне таварыша Сталіна аб капіталістычным акружэнні, заўсёды быць пільнымі, берагаць нашу партыю ад пранікнення ў яе рады варожых элементаў, умела і своечасова выкрываць іх.

Сурова захоўваючы ленінска-сталінскі прынцып індывідуальнага адбору, ведучы рашучую барацьбу з валакітай і самацёкам, партыйныя арганізацыі павінны значна лепш арганізаваць работу сярод беспартыйнага актыва, каб узняць яго палітычны і ідэйны ўзровень для ўступлення ў партыю. Трэба дасканала вывучаць кожнага прымаемага, улічваючы, якую карысць і на якім участку работы ён можа прынесці. Толькі ў такім выпадку будзе забяспечан сапраўды здаровы рост нашай партыі.

Практыка работы паасобных пярвічных арганізацый і раённых камітэтаў партыі за апошнія некалькі месяцаў паказвае, што прынцып індывідуальнага адбору не заўсёды захоўваецца. Ёсць яшчэ такія партыйныя работнікі, якія ў пагоні за колькасцю не клапоцяцца аб якасці, не правяраюць як след кожнага прыймаемага ў рады большэвіцкай партыі. Асобныя з іх прабавалі нават аргані-

заваць спецыяльную кампанію вярбоўкі ў рады партыі, устанаўляючы «кантрольныя лічбы».

Узяць, напрыклад, Чэрвеньскі раён.

Сакратар пярвічнай партарганізацыі рыбгаса «Волма» тав. Шалапёнак разам з інструктарам райкома тав. Дубасарскім сабралі ў красавіку месяцы 4 старшынь калгасаў і 2 іх намеснікаў і пачалі апытваць, чаму яны не ўступаюць у рады партыі, хоць з імі наконт гэтага гавораць ужо не першы раз. На агульным сходзе партыйна-кандыдацкай групы была нават устаноўлена «кантрольная лічба»: прыняць у партыю да адкрыцця з'езда 3 чал. Райком партыі ведаў аб гэтым рашэнні, але не адмяніў яго як няправільнае, не растлумачыў партыйна-кандыдацкай групе, што яна і права не мае прымаць у партыю, што такое права дана толькі пярвічным партарганізацыям. Сакратар пярвічнай партарганізацыі Чэрвеньскага горсовета тав. Озерскі на адным з адкрытых партсходаў, на якім абмяркоўваліся вынікі работы XVIII з'езда партыі, практыкаваў масавую раздачу беспартыйным анкет для ўступлення ў партыю. Былы першы сакратар райкома тав. Рубін не толькі не спыняў гэта непартыйнае дзеянне, але сам заахвочваў Озерскага, чым груба парушыў статут партыі. Сакратар пярвічнай партарганізацыі Хутарскага сельсовета тав. Тарасюк расказваў, што яго выклікалі ў райком і патрабавалі прыняць у партыю як мага больш людзей. Не дзіва, што пасля такога «настаўлення» партарганізацыя Хутарскага сельсовета за адзін толькі месяц прыняла ў партыю 12 чалавек.

ЦК КП(б)Б своечасова спыніў антыпартыйную практыку ў Чэрвеньскім раёне. За дапушчаныя памылкі знят з работы першы сакратар райкома тав. Рубін.

Факты лёгкадумных адносін да прыёму ў партыю маюць месца і ў радзе іншых партыйных арганізацый Беларусі.

Партарганізацыя пратэзнай майстэрні прыняла ў кандыдаты партыі І., які разам са сваёй маці займаўся спекуляцыяй. Маці яго неаднакроць была судзіма і ў сучасны момант выслана як спекулянтка. Сам І. у 1937 г. самавольна пакінуў работу, каб заняцца спекуляцыяй на рынку.

Партарганізацыя ўпаўнаважанага наркамата нарыхтовак г. Мазыра прыняла ў кандыдаты партыі Р., які скрыў сваё выключэнне з партыі за антыпартыйныя праступкі. Партарганізацыя Нова-Ельнянскага сельсовета Краснапольскага раёна прыняла ў кандыдаты партыі П., які, будучы старшынёй калгаса, развадіў яго і зараз з'яўляецца лодырам, дэзарганізатарам калгаснай вытворчасці. Партарганізацыя Выдрынскага сельсовета таго-ж раёна прыняла ў кандыдаты партыі Ш. і О. Пры праверцы выяснілася, што адзін мае судзімасць, а другі быў ужо членам партыі і некалькі раз выключаўся за антыпартыйныя праступкі.

Партарганізацыя Сельгасбанка прыняла ў кандыдаты партыі тав. Т., які ніякага ўдзелу ў грамадскім жыцці не прымаў. Бюро Сталінскага Райкома КП(б)Б адмовіла ў прыёме яго ў партыю.

Партарганізацыя Віцебскай фабрыкі «КІМ» прыняла ў кандыдаты партыі С., якая не зжыла яшчэ вельмі адсталых настрояў і пагразла ў беспрынцыпных склоках. І зусім правільна зрабіла бюро Віцебскага гаркома, калі ўстрымалася ад прыёму яе ў партыю.

Рад арганізацый пры разглядзе заяў аб прыёме ў партыю да-

пускае залішнюю паспешнасць. Так было, напрыклад, у Гомельскім гаркоме партыі, бюро якога на пасяджэнні 3 сакавіка разглядзела акрамя дзевяці пытанняў партыйна-гаспадарчага будаўніцтва 50 спраў аб прыёме ў партыю. Дубровенскі райком 2 красавіка на адным з пасяджэнняў разгледзеў 34 справы аб прыёме ў партыю і яшчэ 13 важнейшых пытанняў. Бюро Бабруйскага райкома на пасяджэнні 5 красавіка ўхітрылася разгледзець 56 спраў. У Чэрвеньскім райкоме разглядалі адразу па 25—30 спраў аб прыёме. Пярвічная партарганізацыя Добрушскай фабрыкі «Герой працы» на партсходзе 26 красавіка адным махам прыняла ў партыю 18 чалавек. Не цяжка зразумець, які гэта быў «індывідуальны адбор», калі кожнаму ўдзялялася не больш 2—3 мінут. У паасобных партарганізацыях у выніку нецярпімай спешкі маюць месца факты, калі прымаюць у партыю людзей, якіх рэкамендуючыя ведаюць толькі 7—8 месяцаў, нават без рэкамендацыі, без прадстаўлення анкет, аўтабіяграфіі і т. д.

3-га красавіка Гомельскі гарком прыняў у кандыдаты партыі тав. Кавалёву, не гледзячы на тое, што члены партыі пішуць у выданых ёй рэкамендацыях, што ведаюць яе ўсяго 7—8 месяцаў.

17 красавіка на бюро Гомельскага гаркома быў прыняты ў кандыдаты партыі тав. Дар'ян, (партарганізацыя аэраклуба). З дакументаў, прадстаўленых у гарком партыі, ясна відаць, што на сходзе пярвічнай партарганізацыі тав. Дар'ян быў прыняты без рэкамендацый, апошнія былі напісаны праз 10 дзён пасля яго прыёму ў партыю.

Пярвічная партарганізацыя Горвальскага сельсовета Рэчыцкага раёна прыняла ў кандыдаты партыі настаўніка тав. Дарашэвіча толькі на аснове яго заявы, без прадстаўлення рэкамендацый, анкеты і аўтабіяграфіі. Вядома, што такая практыка нічога агульнага не мае з большэвіцкімі традыцыямі.

Некаторыя пярвічныя партарганізацыі і райкомы партыі, забываючы рашэнні XVIII з'езда і ўказанні тав. Сталіна аб строгім захаванні прынцыпа індывідуальнага адбору пры прыёме ў партыю, зусім недастаткова кіруюць справай прыёму ў партыю. Бо як-жа інакш можна расцаніць тое, што рад пярвічных партарганізацый горада Менска, а таксама Пухавіцкі, Клічаўскі, і Церахоўскі райкомы прымалі ў партыю ўсіх падаваўшых заявы. Вось чаму гэтыя партарганізацыі раслі галоўным чынам за лік служачых, машыністак, рахункаводаў, касіраў, сакратароў прыёмных, вартаўнікоў, прыбіральшчыц і кур'ераў.

Гэтыя партарганізацыі зачастую прымалі ў партыю людзей, якія нічым сябе не праявілі і не прадстаўляюць ніякай каштоўнасці для партыі.

Гэтай няправільнай прыктыцы трэба пакласці канец. Справай прыёму ў партыю трэба кіраваць па-большэвіцку. Трэба ўстанавіць такі парадак, пры якім адзін з сакратароў гаркома ці райкома абавязкова гутарыў-бы з асобамі, якія ўступаюць у партыю, і папярэдне азнаяміўся-б з іх матэрыяламі, да разгляду на пасяджэнні бюро. Акрамя таго, гаркомы, райкомы і пярвічныя партарганізацыі павінны звярнуць сур'ёзнейшую ўвагу на тое, каб пры прыёме ў партыю побач з высвятленнем дзелавых і палітычных якасцей прымаемага, строга захоўваліся-б статутныя патрабаванні і ўказанні ЦК ВКП(б) аб парадку прыёму ў партыю, дасканалым і своечасовым афар-

мленні матэрыялаў на прымаемых у рады партыі (заявы, анкеты, рэкамендацыі, рашэнні, запаўненне і выдача партдакументаў). Трэба памятаць, што на райкомы і гаркомы КП(б)Б ускладаецца цяпер асобая адказнасць за прыём у партыю, паколькі рашэнне райкомаў і гаркомаў згодна статуту ВКП(б), зацверджанаму XVIII з'ездам партыі, з'яўляецца канчатковым па ўсіх соцыяльных групах прымаемых у партыю.

Вялікая ўвага павінна быць удзелена рабоце з новапрынятымі. Пасля ўступлення ў рады партыі кожны таварыш павінен адразу адчуць усю адказнасць пераходу ад беспартыйнасці да партыйнай арганізаванасці, пранікнуцца ўсведамленнем адказнасці за справу партыі, за справу пабудовы комуністычнага грамадства. Неабходна сістэматычна дапамагаць маладым комуністам у іх ідэйна-палітычным росце, каб яшчэ больш умацаваць нашы рады, яшчэ вышэй узняць баездольнасць кожнай партарганізацыі.

На пярвічныя партарганізацыі зараз ускладаецца адказнейшая задача па выхаванню новага папаўнення. Неабходна прывіваць маладым комуністам большэвіцкія традыцыі, унушыць ім павагу да абавязкаў членаў партыі, забяспечыць вывучэнне імі статута ВКП(б), праграмы і тактыкі партыі. Гаркомы і райкомы партыі павінны прыняць усе меры для палепшання работы з кандыдатамі партыі ў пярвічных партарганізацыях.

Сакратары райкомаў партыі абавязаны асабіста кіраваць усёй работай па прыёму новых членаў у партыю, даючы чоткія і ясныя адказы на ўсе пытанні, якія ўзнікаюць у работнікаў пярвічных партыйных арганізацый у сувязі з прыёмам у партыю, выхоўваючы ў іх гэтым самым дакладнае захаванне ўсіх патрабаванняў статута ВКП(б), бо гэта з'яўляецца пярвейшым абавязкам кожнай партыйнай арганізацыі, кожнага партыйнага кіраўніка, кожнага комуніста.

Пленум ЦК КП(б)Б, які нядаўна закончыўся, разглядзеў і прыняў пастанову «Аб парушэнні некаторымі пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі і райкомамі КП(б)Б ленінска-сталінскага прынцыпа індывідуальнага адбору ў партыю».

Задача ўсіх партарганізацый—у сваёй далейшай рабоце кіравацца гэтай пастановай, якая поўнасцю выцякае з рашэнняў XVIII з'езда партыі і ўказанняў таварыша Сталіна аб усямерным умацаванні нашай партыі, аб строгім захаванні большэвіцкага прынцыпу індывідуальнага адбору ў партыю людзей, бязмежна адданых справе комунізма.

Ва ўсіх раёнах Беларусі сярод рабочых, калгаснікаў і совецкай інтэлігенцыі ёсць выдатныя кадры беспартыйнага актыва, на справе даказаўшыя сваю адданасць справе Леніна—Сталіна. Задача ўсіх партыйных арганізацый—правільна выкарыстаць гэты неацанімы рэзерв для далейшага росту нашай вялікай большэвіцкай партыі, партыі Леніна—Сталіна.

В. Бедзін

# Па-бальшэвіцку кіраваць работай агітатараў

Шырокія масы працоўных нашай соцыялістычнай радзімы з велізарным інтарэсам і натхненнем вывучаюць зараз геніяльны даклад таварыша Сталіна, матэрыялы і рашэнні гістарычнага XVIII з'езда ВКП(б). На прадпрыемствах, у дзяржаўных, кааператыўных і навучальных установах, у калгасах і соўгасах праводзяцца групавыя і індывідуальныя бяседы, чыткі і растлумачэнні матэрыялаў і рашэнняў з'езда. Уся гэта работа суправаджаецца новым уздымам вытворчай і палітычнай актыўнасці мас, разгортваннем соцыялістычнага спаборніцтва і стаханаўскага руху, перавыкананнем вытворчых планаў, палепшаннем якасці работы на прадпрыемствах, у калгасах, соўгасах, установах.

Выхад у свет «Кароткага курса гісторыі ВКП (б)» знамянуе сабой новую паласу ў пастаноўцы і арганізацыі не толькі партыйнай прапаганды, але і масавай палітычнай агітацыі.

Можна без пераўвелічэння сказаць, і гэта паказала ўсебеларуская нарада агітатараў, што бальшэвіцкая агітацыя ва многіх партыйных арганізацыях Беларусі значна палепшылася. Яна стала шырэй, канкрэтней. дзейсней.

Для масавага растлумачэння матэрыялаў і рашэнняў з'езда партыйныя арганізацыі выдзелілі ў якасці агітатараў тысячы лепшых, тэарэтычна пісьменных і палітычна правераных партыйных і непартыйных бальшэвікоў. Іх творчая мысль павінна зараз працаваць над тым, як лепш, больш зразумела давесці да свядомасці найшырэйшых працоўных мас дакументы сусветна гістарычнага значэння: геніяльны даклад тав. Сталіна, матэрыялы і рашэнні XVIII гістарычнага з'езда бальшэвіцкай партыі—гэту баявую праграму барацьбы за завяршэнне будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма. Сярод вылучаных агітатараў, якім даверана ганаровая і адказнейшая задача—несці бальшэвіцкае слова ў масы, мы маем велізарную колькасць совецкіх інтэлігентаў: інжынераў, настаўнікаў, урачоў, кіраўнікоў устаноў, а таксама лепшых рабочых ад станка і калгасны актыў.

Толькі па адной Магілеўскай вобласці арганізавана 312 агіткалектываў, у якіх працуе 9.726 агітатараў. На былых выбарчых участках арганізавана 426 гурткоў, у якіх займаецца 8.124 хатніх гаспадынь.

Значная колькасць кіраўнікоў агіткалектываў і агітатараў пабольшэвіцку адносіцца да сваіх абавязкаў. Так, напрыклад, у Цішоўскім сельсовеце Магілеўскага раёна кіруе агіткалектывам настаўніца тав. Васільева. Яна ўзорна спраўляецца са сваёй асноўнай педагагічнай работай, за што ўзнагароджана ўрадам медаллю, і ў той-жа час добра арганізавала кіраўніцтва агіткалектывам.

Калектыў агітатараў, якім кіруе тав. Васільева, складаецца з 22 чалавек, з іх 10 настаўнікаў, а астатнія—калгасны актыў. Улічваючы неаднолькавую падрыхтоўку агітатараў, тав. Васільева асаблівую ўвагу ўдзяляе тым таварышам, якія маюць невялікі вопыт работы і менш пісьменны.

Тав. Васільева не абмяжоўваецца толькі правядзеннем заняткаў агіткалектыва. Яна склала цвёрды план сваёй работы, які ўзгадніла з агітатарамі. Яна ведае, у які дзень і ў якога агітатара ёй, як кіраўніку, трэба прысутнічаць на занятках. Тав. Васільева дае ўказанні, як лепш арганізаваць работу на ўчастку, як жывей, цікавей правесці заняткі. Нярэдка яна сама ў прысутнасці агітатара праводзіць заняткі з калгаснікамі. Дзякуючы ўмелай пастаноўцы пытанняў, ёй удалося ўцягнуць слухачоў у жывую, цікавую бяседу, разгарнуць таварыскую дыскусію. Такі канкрэтны метад кіраўніцтва і пастаянная дапамога спрыяюць палітычнаму росту агітатараў, паляпшэнню іх работы.

Брыгадзір калгаса імя Сталіна Цішоўскага сельсовета тав. Ігнаценка ўзорна арганізуе палітзаняткі з калгаснікамі. Займаецца ён у пяцідзёнку 2—3 разы. За апошні час праведзена 6 заняткаў па вывучэнню даклада таварыша Сталіна. Акрамя таго, праведзены заняткі па вывучэнню прамовы тав. Андрэева, тав. Варашылава, даклада таварыша Жданава і іншых матэрыялаў з'езда.

Вывучэнне з'ездаўскіх матэрыялаў выклікала небывалы вытворчы ўздым калгаснікаў. Брыгада тав. Ігнаценкі выканала план веснавой сяўбы па зернавых і тэхнічных культурах за 3½ дні замест 8 дзён, прадугледжаных планам. Пры гэтым якасць работы выдатная. Ячмень, пшаніца і тэхнічныя культуры засеяны па добра ўгноенай глебе. Пасадку бульбы на плошчы ў 40 га правялі за 5 дзён замест планавых 8. Брыгада тав. Ігнаценкі першай у раёне скончыла пасеўную кампанію.

У сувязі з добра наладжанай агітацыйнай работай у брыгадзе значна павялічылася колькасць стаханаўцаў, выконваючых нормы выпрацоўкі на 150 і больш працантаў. Калі ў мінулым годзе ў брыгадзе было ўсяго 12 стаханаўцаў, то цяпер 32.

Усю агітацыйна-масавую работу, у тым ліку і вывучэнне матэрыялаў гістарычнага XVIII з'езда, тав. Ігнаценка цесна ўвязвае з задачамі, якія неабходна практычна вырашыць на канкрэтным участку работы.

У выніку вывучэння прамовы тав. Варашылава на XVIII з'ездзе ВКП(б) была створана асоавіяхімаўская арганізацыя, якая зараз добра працуе. У сувязі з вывучэннем даклада тав. Жданава на XVIII з'ездзе партыі 8 лепшых стаханаўцаў падалі заявы аб уступленні ў рады бальшэвіцкай партыі. У калгасе добра працуе рэдкалегія. Яна рэгулярна выпускае цікавую баявую насценгазету. Гэта насценгазета вылучана ў якасці экспаната на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку.

Тав. Ігнаценку ва ўсёй яго рабоце сістэматычна дапамагае кіраўнік агіткалектыва тав. Васільева. Палітычнаму росту тав. Ігнаценкі, як і іншых агітатараў, многа спрыяюць заняткі агіткалектыва. На гэтых занятках быў добра вывучан даклад тав. Сталіна, выяснены ўсе пытанні, і толькі пасля гэтага агітатары пайшлі ў масу.

Тав. Васільева расказвае, якім чынам ёй удалося ажывіць заняткі, зрабіць іх цікавымі і карыснымі для агітатараў. «Спачатку я праводзіла чытку матэрыялаў і растлумачэнне прачытанага, але хутка пераканалася, што такі метад вельмі стамляе маіх слухачоў: яны сядзяць і сумуюць. Цяпер метад заняткаў агіткалектыва мы перамянілі. Спачатку я стаўлю асноўныя пытанні з вывучаемага матэрыяла і ў кароткім уступным слове даю ім тлумачэнне. Ставячы перад слухачамі пытанне, я звараюся да каго-небудзь з іх: «Уявіце сабе, што вы самі праводзіце заняткі, і вашы слухачы задалі вам гэта пытанне. Скажыце, як-бы вы на яго адказалі?» Калі на першых занятках я не атрымлівала вычарпальных адказаў, то ў далейшым справа пайшла добра. Ведаючы загадзя тэму, агітатары актыўна рыхтаваліся да яе, складалі канспекты і зачастую звараліся за парадай, які матэрыял прачытаць дадаткова па данаму пытанню».

Гэты метад ажывіў заняткі тав. Васільевай. У слухачоў часта ўзнікаюць пытанні, на якія яны атрымліваюць на занятках вычарпальны адказ, самі разгортваюць таварыскую дыскусію. Усё гэта безумоўна спрыяе палітычнаму росту агітатараў і забяспечвае добрую падрыхтоўку іх да заняткаў з калгаснікамі.

Поспехаў у сваёй рабоце агіткалектыў дабіўся дзякуючы ўмеламу кіраўніцтву і вялікай дапамозе работнікаў райкома і абкома КП(б)Б. Тав. Васільева расказвае, што іх жывое кіраўніцтва многа дапамагае ў яе рабоце. У яе на занятках два разы быў сакратар абкома тав. Баяноўскі, які даў многа каштоўных указанняў. Заг. аддзела агітацыі райкома КП(б)Б тав. Шыкун наведаў яе заняткі 6 раз і прысутнічаў таксама на занятках асобных агітатараў. Акрамя таго, райком партыі склікаў кіраўнікоў агіткалектывамі на нарады.

Нядрэнна працуе і агітатар швейнай фабрыкі ім. 8 сакавіка тав. Берзон (г. Менск). У палітычных бяседах з слухачамі гуртка яна імкнецца прывесці пабольш жывых прыкладаў і заўсёды ўвязвае бяседу з работай сваёй вытворчасці.

Перад 1 мая тав. Берзон жыва і цікава расказала аб задачах трэцяй сталінскай пяцігодкі, аб развіцці народнай гаспадаркі СССР, умела ўвязваючы матэрыял з задачамі свайго прадпрыемства і тымі соцабавязацельствамі, якія ўзяў на сябе калектыў, уступаючы ва ўсесаюзнае спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі. Вывучаючы з слухачамі матэрыялы XVIII з'езда, тав. Берзон растлумачыла, што азначае дагнаць і перагнаць у эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны. Гаворачы аб росце кадраў нашай інтэлігенцыі, што асабліва падкрэсліў таварыш Сталін, яна выклікала работніц на жывую бяседу.

Пры вывучэнні прамовы тав. Варашылава на XVIII з'ездзе партыі тав. Берзон умела ўвязала гэта пытанне з задачамі ваеннай работы на сваёй фабрыцы, што спрыяла палепшанню работы абаронных гурткоў. Тав. Берзон сама падрыхтавала за гэты час 150 значкістаў ППХА і рыхтуе яшчэ 30 чалавек. У брыгадзе, дзе тав. Берзон працуе агітатарам, усе рабочыя здалі нормы на значок ППХА

I ступені і ГСА. Яе брыгада к 1 мая выканала план на 120 проц. за красавік месяц. Паасобныя стаханаўцы выконваюць план на 150—170—200 проц.

Тав. Берзон дабілася моцнай сувязі з падшэфнай часцю Чырвонай Арміі. Раз у пяцідзёнку на фабрыку прыходзіць палітрук або камісар падшэфнай часці. Яны інфарміруюць слухачоў аб міжнародным становішчы за даны адрэзак часу. Работніцы са здавальненнем слухаюць гэтыя бяседы.

Устаноўлена таксама сувязь з цэнтральнай бібліятэкай імені Леніна. Кожныя 10 дзён работнік бібліятэкі чытае для рабочых фабрыкі ўрыўкі з мастацкай літаратуры. За апошні час прачытаны некаторыя творы Горкага, Некрасава, Салтыкова-Шчэдрына і раду сучасных пісьменнікаў.

На фабрыцы імені К. Маркса (в. Высачаны Лёзненскага раёна) агітатарам у механічным цэху працуе слесар тав. Левін. Тры разы ў месяц ён збірае рабочых для вывучэння матэрыялаў XVIII з'езда ВКП (б). Рабочыя прымаюць актыўны ўдзел у абмеркаванні даклада таварыша Сталіна і іншых матэрыялаў з'езда. Акрамя таго, тав. Левін штодзённа ўдзяляе 15—20 мінут для палітінфармацыі. У выніку агітацыйна-масавай палітычнай работы цэх выконвае свой план на 107—117 проц. Стаханаўцы цэха даюць па 180—200 проц. нормы. Токар тав. Сідарэнка выконвае сваё заданне на 233 проц., тав. Баранаў—на 197 проц. і т. д.

Добра паставіў палітмасавую работу тав. Лангман—агітатар арцелі «Кооптэкстыльшчык» Лёзненскага раёна. Збіраючы рабочых 3 разы ў месяц, ён правёў ужо 7 бясед у кожнай змене, закончыў чытку і растлумачэнне даклада тав. Сталіна і двух раздзелаў даклада тав. Молатава. Тав. Лангман карыстаецца ў час бясед геаграфічнай картай і іншымі наглядны́мі дапаможнікамі. Спачатку года ў арцелі прачытаны даклады аб міжнародным становішчы, аб дні смерці Леніна, аб 21-й гадавіне РСЧА, аб міжнародным жаночым дні, аб Парыжскай Комуне, аб класавай сутнасці пасхі. Праведзен таксама рад сходаў вытворчага характару.

У Рагачоўскім раёне—37 агіткалектываў. Гурткамі па вывучэнню матэрыялаў з'езда ахоплена 2.435 чал. у горадзе і 8.514 на сяле. Лепшымі агітатарамі з'яўляюцца ордэнаносцы тт. Тікуноў, Войніч, Лісенка, Якутовіч, а таксама тт. Болтухін, Брылёва, Федчанка і інш. Гурткі ўжо закончылі вывучэнне даклада тав. Сталіна, прамоў тт. Андрэева, Варашылава, Мікаяна і Панамарэнка і прыступілі да вывучэння даклада тав. Молатава.

Добра пастаўлена прапагандысцкая работа на картоннай фабрыцы ім. Сталіна Ціхініцкага сельсовета, у арцелі ім. Молатава і інш.

Работа агіткалектываў і агітатараў добра пастаўлена там, дзе партыйныя арганізацыі па-бальшэвіцку кіруюць імі, дапамагаюць расці, накіроўваюць работу.

Нажаль, у нас ёсць яшчэ партарганізацыі, якія не кіруюць агітацыйнай работай, прадаставілі агітатараў самім сабе.

Агітатары Фашчаўскага сельсовета, Шклоўскага раёна працуюць кожны па-свойму. Іх не кантралююць, не ўказваюць, як і па якому плану весці заняткі. Ні ў адным магазіне Фашчаўскага сельсовета нельга знайсці брашуры з дакладамі і рашэннямі XVIII з'езда, тады як у культмагу г. Шклова іх дастаткова. Ва ўсім сельсовеце

няма ні адной вітрыны цэнтральных газет, а калгасы атрымліваюць іх у недастатковай колькасці.

Дрэнна пастаўлена вывучэнне матэрыялаў XVIII з'езда сярод працоўных Бялыніцкага раёна. 17 агіткалектываў, у якія ўваходзіць 350 агітатараў, не спраўляюцца са сваімі абавязкамі. Большасць агітатараў не працуе. Агіткалектыў пры Вішоўскім сельсовеце яднае 16 агітатараў, з іх прыступілі к рабоце толькі 5. Агіткалектыў пры Шылаўскім сельсовеце складаецца з 30 агітатараў, а працуе толькі палова.

Гаворачы аб недахопах нашай агітацыйна-масавай работы, неабходна з ўсёй сілай падкрэсліць той факт, што мы яшчэ не прыступілі як след да паглыбленага, фундаментальнага вывучэння з'ездаўскіх матэрыялаў, да глыбокай прапаганды рашэнняў XVIII гістарычнага з'езда ВКП(б). Гэты недахоп патрэбна ліквідаваць і чым хутчэй, тым лепш.

Асаблівую ўвагу ў сучасны момант неабходна ўдзяліць масава-палітычнай агітацыі сярод сельскага насельніцтва. Гістарычнае рашэнне ЦК ВКП(б) і Соўнаркома СССР «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання» і пастанова ЦК ВКП(б) аб падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю і загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў павінны быць даведзены да свядомасці кожнага калгасніка і па-большэвіцку растлумачаны шырокім слаям сялянства. Трэба ўжо зараз, безадкладна разгарнуць палітмасавую агітацыйную работу сярод насельніцтва ў сувязі з рашэннем майскага пленума ЦК ВКП(б) аб падрыхтоўцы да выбараў у мясцовыя советы дэпутатаў працоўных. Трэба ўлічыць, што выбары ў мясцовыя советы будуць больш складанымі, таму што колькасць дэпутатаў будзе ва многа раз большай, чым было абрана ў Вярхоўныя Советы СССР і БССР.

Ужо зараз трэба праверыць, як пастаўлена палітычная работа сярод насельніцтва былых выбарчых участкаў, якая работа праводзіцца з агітатарамі, што трэба зрабіць, каб палепшыць палітычную агітацыю сярод насельніцтва.

Задача ўсіх партыйных арганізацый—безадкладна наладзіць шырокую масава-палітычную работу па падрыхтоўцы да выбараў у мясцовыя советы дэпутатаў працоўных.

Партыйныя арганізацыі абавязаны ўдзяліць больш увагі большэвіцкаму кіраўніцтву і выхаванню агітатараў, павышаць іх ідэйна-палітычны ўзровень, штодзённа дапамагаць рабоце. Усім кіраўнікам партыйных арганізацый і кожнаму комуністу належыць цвёрда памятаць, што агітацыйна-масавая работа праводзіцца не ад выпадку да выпадку, не кампанейскі, а пастаянна, безумоўна, што іх задача—вырошчваць кадры большэвіцкіх агітатараў, усямерна дапамагаючы ім у рабоце. У бліжэйшы час неабходна правесці ва ўсіх раёнах курсы агітатараў з адрывам і без адрыву ад вытворчасці, старанна іх падрыхтаваўшы.

Кіраўнік агіткалектывам абавязан добра ведаць кожнага агітатара, яго работу і запатрабаванні. Не дзёргаць і перашкаджаць, а кіраваць і дапамагаць агітатару—задача кіраўнікоў агіткалектываў і партыйных арганізацый.

Для перанясення лепшага вопыту агітацыйна-масавай работы горада ў сельскія раёны і дапамогі агітатарам, якія працуюць у калгасах, неабходна практыкаваць сістэматычныя выезды лепшых партыйных і непартыйных агітатараў горада ў сельскія раёны,

калгасы і машынатрактарныя станцыі для правядзення гутарак аб рашэннях XVIII з'езда ВКП(б), аб задачах сельскай гаспадаркі ў трэцяй сталінскай пяцігодцы, аб міжнароднай палітыцы.

Гаркомы партыі абавязаны арганізаваць для выязджаючых у сельскія раёны агітатараў хоць-бы аднадзённы семінар, каб падрыхтаваць іх да намечаных бясед.

Нашы газеты ўсё яшчэ мала ўвагі ўдзяляюць агітацыйна-масавай рабоце, не асвятляюць вопыт кіраўнікоў агіткалектываў і агітатараў. Паказваць работу лепшых агіткалектываў і агітатараў, зрабіць іх вопыт набыткам усіх агітатараў, асвятляць агітацыйна-масавую работу ў калгасах, на прадпрыемствах—задача раённых, абласных і цэнтральных газет.

* * *

Агітатар можа заваяваць аўтарытэт толькі пры ўмове, калі ён дае правільны і вычарпальны адказ на кожнае пытанне слухача. А для гэтага неабходна многа чытаць, узмоцнена рыхтавацца да заняткаў. Трэба цвёрда памятаць указанне Леніна, што агітатар—гэта народны трыбун, які ўмее гаварыць з масай, запальваць яе агнём свайго энтузіязма, браць выпуклыя, гаворачыя факты; мова такога агітатара знаходзіць жывы водгук, падхопліваецца і падтрымліваецца энергіяй мас.

> «Кожны агітатар,—гаварыў Ленін,—павінен быць дзяржаўным кіраўніком, кіраўніком усіх сялян і рабочых у справе эканамічнага будаўніцтва» (т. XXV, стар. 455).

Большэвіцкая агітацыя выхоўвае масы палітычна і згуртоўвае іх на барацьбу за трыумф комунізма. Штодзённа кіруючы масамі, наша большэвіцкая партыя трымае мацнейшую сувязь з імі, уважліва і чула прыслухоўваецца да іх патрэб, дапамагае масам вучыцца на іх уласным вопыце.

Большэвіцкая агітацыя згуртоўвае масы і арганізуе іх на барацьбу за справу Леніна—Сталіна. Большэвік-агітатар—гэта той, хто заўсёды цесна звязан з масай, выхоўвае шырокі актыў і апіраецца на яго ва ўсёй сваёй рабоце, хто адважна і без хістанняў вядзе масы працоўных па ленінскаму шляху да вяршынь комунізма.

Партыйныя арганізацыі павінны абагульняць лепшы вопыт агітацыйнай работы, каб зрабіць яго набыткам усёй масы агітатараў. Трэба выкарыстаць усе лепшыя формы агітацыйна-масавай работы. Практыкаваць групавыя бяседы з рабочымі, калгаснікамі і служачымі. Да такіх бясед неабходна толькі добра рыхтавацца, каб як мага лепш азнаёміць з матэрыялам і быць гатовым адказаць на любое пытанне, якое можа ўзнікнуць у слухачоў. Агітатар іграе вядучую ролю ў групавой бяседзе, ён павінен разгарнуць яе, выклікаць ажыўленую таварыскую дыскусію па ўсіх закранутых тэмай пытаннях.

Не трэба думаць, што можна абмежавацца толькі правядзеннем сходаў або групавых бясед з насельніцтвам. Трэба практыкаваць і такую форму масавай работы, як палітдні, праводзіць таксама і індывідуальную работу з калгаснікамі, рабочымі і служачымі. Сіл для гэтага ў нас дастаткова. Усю асноўную агітмасавую работу на летні перыяд трэба перанесці ў сады і паркі.

Неабходныя большэвіцкія вывады трэба зрабіць з указанняў таварыша Сталіна аб капіталістычным акружэнні. Нястомна авалодваць

большэвізмам, выхоўваць масы ў духу рэволюцыйнай, большэвіцкай стойкасці, адвагі і мужнасці, вырошчваць у іх пачуцце адказнасці за лёс соцыялістычнай дзяржавы, за выкананне совецкіх законаў, умацоўваць працоўную дысцыпліну, берагчы дзяржаўную маемасць, усямерна садзейнічаць умацаванню ваеннай магутнасці СССР—вось наша асноўная задача. Выхоўваць працоўных у духу інтэрнацыяналізма і любві да сваёй соцыялістычнай радзімы, у духу нянавісці да трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма.

Рост палітычнай актыўнасці працоўных, высокі інтарэс да пытанняў міжнароднага становішча і соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР ставіць перад партыйнымі арганізацыямі адказныя задачы. Трэба па-большэвіцку ўзяцца за перабудову палітычнай агітацыі. Агітацыя павінна быць жывой, захапляючай, канкрэтнай, палітычна вострай, адкрытай, праўдзівай. Толькі такая агітацыя будзе дзейснай. Ва многіх партыйных арганізацыях умацаваліся шкодныя, павярхоўныя адносіны да палітычнай агітацыі, як да справы другараднай, якая нібыта не патрабуе асобых ведаў і падрыхтоўкі. Нярэдка бывае, што не толькі бяседы, але нават лекцыі і даклады праводзяцца наспех.

Зусім ясна, што ўсё гэта з'яўляецца вынікам недаацэнкі агітацыйнай работы, слабага кіраўніцтва агітатарамі, адсутнасці клопатаў аб павышэнні іх палітычнага ўзроўню. Такія адносіны да агітацыйнай работы ў далейшым недапушчальны.

Партыйныя арганізацыі павінны пакончыць з саматужніцтвам і неарганізаванасцю ў справе кіраўніцтва кадрамі агітатараў. Агітатару трэба забяспечыць штодзенную дапамогу ў яго палітычным і культурным росце, стварыць яму неабходныя ўмовы для самастойнай работы па авалоданню марксісцка-ленінскай тэорыяй, майстэрствам агітацыі.

Заўсёды трэба памятаць, што поспех агітацыі можа быць забяспечан толькі пры ўмове, калі яна будзе мэтаімкнёнай, даходчывай і, галоўнае, пранізанай большэвіцкай партыйнасцю, праведзенай на высокім ідэйна-палітычным узроўні. А для гэтага неабходны кваліфікаваныя кадры—большэвіцкія агітатары.

Большэвіцкая агітацыя з'яўляецца той галіной партыйнай работы, якая выхоўвае шырокія масы нашай соцыялістычнай радзімы ў духу комунізма, дапамагае ім аўладаць вялікім вучэннем Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, узнімае і вядзе ўперад на новыя гераічныя справы ў барацьбе за комунізм, згуртоўвае масы на выкананне большэвіцкіх лозунгаў нашай партыі і вялікага правадыра народаў, геніяльнага настаўніка ўсяго працоўнага чалавецтва таварыша Сталіна.

Рашэнні XVIII з'езда ВКП(б) з'яўляюцца магутным сродкам мабілізацыі шырокіх мас працоўных—партыйных і непартыйных большэвікоў—на выкананне пастаўленай вялікім Сталіным задачы: дагнаць і перагнаць у эканамічных адносінах капіталістычныя краіны. Усямерна ўмацоўваючы большэвіцкую партыю—баявы авангард працоўных і нашу соцыялістычную дзяржаву—вялікую і магутную краіну Советаў, бязлітасна распраўляючыся з ворагамі народа, мы пойдзем пад кіраўніцтвам сталінскага ЦК ВКП(б), пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна уперад, да новых перамог!

І. Саладкоў

# Аб выкладанні асноў марксізма-ленінізма ў ВНУ БССР

Партыя Леніна—Сталіна заўсёды ўдзяляла выключную ўвагу пытанню бальшэвіцкага выхавання нашых кадраў, павышэнню іх ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню. Вышэйшая школа—гэта кузня кадраў соцыялістычнай інтэлігенцыі, і выкладанне ў ёй «асноў марксізма-ленінізма» з'яўляецца неад'емнаю часткай комуністычнага выхавання студэнтаў.

Вырошчванне і фарміраванне маладых кадраў, як указваў таварыш Сталін на XVIII з'ездзе ВКП(б), звычайна працякае па асобных галінах навукі і тэхнікі. Гэта правільна і мэтазгодна, і нам няма неабходнасці патрабаваць, каб спецыяліст-медык быў у той-жа час, скажам, спецыялістам па фізіцы, батаніцы, або іншай якой-небудзь галіне навукі.

> «Але ёсць адна галіна навукі, веданне якой павінна быць абавязковым для большэвікоў усіх галін навукі,—гэта марксісцка-ленінская навука аб грамадстве, аб законах развіцця грамадства, аб законах развіцця пролетарскай рэволюцыі, аб законах развіцця соцыялістычнага будаўніцтва, аб перамозе комунізма. Бо нельга лічыць сапраўдным ленінцам чалавека, які імянуе сябе ленінцам, але які замкнуўся ў сваю спецыяльнасць, замкнуўся, скажам, у матэматыку, батаніку або хімію і не бачыць нічога далей сваёй спецыяльнасці. Ленінец не можа быць толькі спецыялістам аблюбаванай ім галіны навукі,—ён павінен быць разам з тым палітыкам—грамадскім работнікам, які жыва цікавіцца лёсам сваёй краіны, знаём з законамі грамадскага развіцця, умее карыстацца гэтымі законамі і імкнецца быць актыўным удзельнікам палітычнага кіраўніцтва краінай. Гэта будзе, вядома, дадатковай нагрузкай для большэвікоў-спецыялістаў. Але гэта будзе такая нагрузка, рэзультаты якой акупяцца з ліхвой» *(Сталін)*.

Таварыш Сталін паставіў перад партыяй велізарнай важнасці задачу—узброіць соцыялістычную інтэлігенцыю тэорыяй марксізма-ленінізма. А для гэтага партыйныя арганізацыі і выкладчыцкі састаў абавязаны клапаціцца, каб інжынеры, урачы, педагогі і іншыя спецыялісты, якія выходзяць з нашых ВНУ, не толькі добра ведалі сваю справу, але і дасканала ўладалі рэволюцыйнай тэорыяй, былі людзьмі, да канца аддынымі нашай партыі, нашай соцыялістычнай радзіме. Няўхільнае правядзенне ў жыццё гэтага геніяльнага ўказання таварыша Сталіна дасць поўную магчымасць выкаваць з нашых

студэнтаў сапраўды большэвіцкія кадры, работнікаў ленінска-сталінскага тыпу.

Магутным сродкам павышэння тэарэтычнага і ідэйна-палітычнага ўзроўню нашых кадраў з'яўляецца «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», складзены пры непасрэдным удзеле таварыша Сталіна і разлічаны перш за ўсё на партыйныя і непартыйныя кадры—на нашу інтэлігенцыю.

У гэтым навучальным годзе выкладанне соцыяльна-эканамічных дысцыплін было карэнным чынам перабудавана. У адпаведнасці з пастановай ЦК ВКП(б) «Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» выкладанне марксісцка-ленінскай тэорыі ва ўсіх вышэйшых навучальных установах было пабудавана на аснове глыбокага вывучэння «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)». Замест курса дыялектычнага матэрыялізма, гістарычнага матэрыялізма і ленінізма, якія выкладаліся раней, уведзен адзіны курс «асноў марксізма-ленінізма». Замест існаваўшых асобна кафедр дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма, ленінізма і гісторыі ВКП(б), створаны адзіныя кафедры марксізма-ленінізма.

Задача перабудовы заключаецца ў тым, каб пакласці канец сваявольству і неразбярысе ў выкладанні пытанняў партыйнай тэорыі, ліквідаваць у выкладанні шкодны разрыў паміж марксізмам і ленінізмам, дыялектычным і гістарычным матэрыялізмам і гісторыяй партыі.

Для лепшай арганізацыі вучэбнай работы па курсу «асновы марксізма-ленінізма» аддзел Агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б 4 лютага г.г. правёў нараду дырэктароў ВНУ, сакратароў парткамітэтаў і выкладчыкаў. Даклад аб выкладанні «асноў марксізма-ленінізма» зрабіў прадстаўнік Усесаюзнага камітэта па справах вышэйшай школы пры СНК СССР тав. Гагарын.

З 7 лютага 14.626 студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў БССР прыступілі да глыбокага вывучэння «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)». Спачатку быў уведзен цыкл лекцый па раздзелах «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» ў аб'ёме 90 вучэбных гадзін пры адначасовым правядзенні кваліфікаваных кансультацый. 64 лепшыя выкладчыкі соцыяльна-эканамічных дысцыплін замацаваны за ВНУ для вядзення курса «асновы марксізма-ленінізма». Арганізаваны адзіныя кафедры марксізма-ленінізма і вылучаны часова выконваючыя абавязкі заг. кафедрамі.

Аддзел прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б арганізаваў наведванне лекцый, а таксама праверку работы асобных кафедр марксізма-ленінізма.

Праверка паказала, што яшчэ не ўсе кафедры ўкамплектаваны кваліфікаванымі выкладчыкамі, якія-б поўнасцю адпавядалі павышаным патрабаванням для выкладання курса «асноў марксізма-ленінізма». Недастатковая, а часам аднабаковая падрыхтоўка некаторых выкладчыкаў безумоўна адбіваецца на якасці лекцый, якія вельмі часта не адпавядаюць задачам ідэйнага ўзбраення большэвізмам нашых студэнтаў, не заўсёды знаходзяцца на патрэбнай тэарэтычнай вышыні, чытаюць суха, сумна і не выклікаюць у слухачоў інтарэсу і актыўнасці.

Большасць кафедр марксізма-ленінізма не кіруе выкладаннем і ў лепшым выпадку займаецца арганізацыйнымі пытаннямі: размяркоўвае нагрузку паміж выкладчыкамі, арганізуе чытанне лекцый па патоках і курсах. Навукова-даследчай работай, пытаннямі павышэння

тэарэтычнага ўзроўню выкладчыкаў кафедры да апошняга часу амаль не займаліся.

У Палітэхнічным інстытуце г. Менска кафедра не працавала цэлы семестр. Некаторыя яе члены замест таго, каб узорна рыхтавацца да лекцый, усебакова павышаць свой палітычны і агульна-адукацыйны ўзровень, заняліся дыскрэдытацыяй адзін другога.

Лекцыі выкладчыка тав. Астроўскага не задавальняюць студэнтаў Палітэхнічнага інстытута. Студэнт тав. Канаплін заявіў, што ўсе студэнты вельмі зацікаўлены ў тым, каб добра ведаць асновы марксізма-ленінізма, але выкладчык да лекцый не рыхтуецца, і студэнты слухаць яго не хочуць. Чытаюць на лекцыях газеты, мастацкія творы, гутараць адзін з другім. Студэнт тав. Шэйнкман дадаў да гэтага, што і сама мова Астроўскага некультурна: ён гаворыць, напрыклад, «матофізіка», «анцыклапедыя» і т. п. Адсюль відаць, што ёсць яшчэ выкладчыкі, якія надта адсталі ад узросшых патрабаванняў сваіх слухачоў.

1 сакавіка тав. Астроўскі чытаў для IV курса хіміка-тэхналагічнага факультэта другую лекцыю па IV раздзелу. Ні слова не сказаўшы аб пытаннях, якім была прысвечана папярэдняя лекцыя, не вытлумачыўшы асноўных рыс дыялектыкі і метафізікі, лектар адразу пачаў з Лейбніца, з адмаўлення метафізікамі скачкоў, і ўся лекцыя звялася да пытання аб скачках. Нявыясненымі асталіся астатнія рысы метафізікі, нічога не сказана аб характары руху і рухаючых сілах, аб метафізічным поглядзе на крыніцы руху. Лектар засыпаў слухачоў выпадковымі прыкладамі, пераскокваў з аднаго на другі і патапіў у іх тое, што трэба было даказаць. Для аудыторыі так і засталося няясным, што хацеў даказаць лектар сваімі прыкладамі. Нячоткія фармуліроўкі, непрадуманасць асноўных пытанняў тэмы, выпадковасць прыкладаў, няўвязка лекцыі з гісторыяй партыі, з дзеяннем законаў дыялектыкі—вось агульнае ўражанне аб гэтай лекцыі.

Аб лекцыях другога члена кафедры Палітэхнічнага інстытута тав. Саламаха студэнты адзываюцца ўвогуле нядрэнна. Аднак кафедра прадаставіла тав. Саламаха самому сабе, і ён нярэдка прыходзіць на лекцыю слаба падрыхтаваны, праводзіць яе на нізкім тэарэтычным узроўні. Напрыклад, на тэму «Барацьба Леніна супроць народнікаў і «легальных марксістаў» лектар гаварыў аб усім патроху, але ні аб чым грунтоўна. Гаварыў аб «героях і натоўпе», аб матэрыялістычным разуменні гісторыі, аб дзяржаве, і ўсё-ж для студэнтаў засталося незразумелым, што хацеў даказаць лектар. Нічога не сказана было аб тым, як Ленін ускрыў бездапаможнасць суб'ектывісцкай ідэалогіі для вытлумачэння грамадскіх з'яў, як ён паказаў, што суб'ектывісцкая ідэалогія народнікаў зводзіцца да буржуазнай апалагетыкі, як адкідаў шарлатанскія, паклёпніцкія сцвярджэнні Міхайлоўскага аб марксізме, як бліскуча вытлумачыў сутнасць вялікага вучэння Маркса, які ператварыў гісторыю ў навуку, якое значэнне мае вучэнне Маркса аб грамадска-эканамічнай фармацыі для свядомай рэвалюцыйнай дзейнасці асобы, партыі і класа. Замест усяго гэтага студэнты чулі ад лектара нешта нячленараздзельнае. Галоўныя палажэнні падручніка аб народніках засталіся не разабранымі. Мімаходам было сказана, што народнікі змазвалі класавыя супярэчнасці ў вёсцы, услаўлялі кулакоў і кулацкую гаспадарку, але і гэта не было абгрунтавана. Не ўпомнена было і аб тым, як Ленін паказаў, што народнікі, выдумаўшы формулу «народная вытворчасць» у процілегласць капіталістычнай, імкнуліся

скрыць за «сярэднімі лічбамі» кулацкую эксплаатацыю на вёсцы, як яны пад выглядам абароны інтарэсаў народа прыпадносілі праграму развіцця кулацкай гаспадаркі. У лекцыі не было паказана, як Ленін сарваў з народнікаў маску «прыяцеляў народа» і паказаў, што на самай справе яны з'яўляюцца прадстаўнікамі міраедаў, якія разараюць народ. Па пытанню аб «легальным марксізме» быў абыйдзен такі важны момант, як барацьба Струве з народніцтвам з буржуазных пазіцый і як Ленін паказаў гэтага буржуазнага ідэолага ва ўсёй яго нагаце.

Ад «легальных марксістаў», пераскочыўшы цераз I з'езд, лектар перакінуўся да пытанняў узнікнення эканамізма. Многа гаварылася аб «Крэдо», але без усякага растлумачэння яго варожасці марксізму, у прыватнасці такіх яго палажэнняў як «марксізм ёсць абагульненне пануючай практыкі» або «марксізм перажывае крызіс». Лектар не павінен быў спадзявацца на тое, што ўсе слухачы і без растлумачэння разумеюць варожасць гэтых палажэнняў для марксізма.

Як відаць з прыведзеных фактаў, дырэкцыя і партарганізацыя інстытута па-сапраўднаму не кіравала справай марксісцка-ленінскага выхавання студэнцтва. Кафедра таксама стаяла ў баку, хоць яе загадчык добра ведаў, што тыповы статут вышэйшай навучальнай установы ўскладае на яго рад адказных абавязкаў: чытанне лекцый, кіраўніцтва і сістэматычны кантроль за якасцю лекцый, практычных заняткаў, кансультацый і іншых відаў вучэбнай работы, якая праводзіцца супрацоўнікамі кафедры.

Трэці выкладчык Палітэхнічнага інстытута—тав. Варановіч працягвае чытаць лекцыі так, як чытаў іх да выхаду ў свет «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» і пастановы ЦК ВКП(б) ад 14 лістапада 1938 г. Яго лекцыя па трэцяму раздзелу была прачытана так, як ён звычайна чытаў лекцыю па ленінізму на тэму «Ленінскае вучэнне аб перарастанні буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў соцыялістычную». У яго атрымалася абстрактнае выкладанне фактаў і падзей рэвалюцыі 1905 года без марксісцкага іх аналізу. Пытанне аб ролі і значэнні Саветаў у 1905 годзе тав. Варановіч не звязаў з уздымам рэвалюцыйнага руху ўвосень 1905 года і словам не абмовіўся наконт таго, што Саветы—гэта творчасць рэвалюцыйных мас, што яны ўзніклі па ініцыятыве рабочых у дні ўсеагульнай Кастрычніцкай стачкі.

Асобныя палажэнні марксізма-ленінізма тав. Варановіч проста канстатуе, не паказваючы, чаму іменна так наша партыя ставіць пытанні. Напрыклад, тав. Варановіч сказаў: «Ленін і Сталін, партыя большэвікоў зыходзілі з таго, што ў рэвалюцыі 1905 года, накіраванай супроць царызма, супроць астаткаў прыгонніцтва ў Расіі, гегемонам павінен быць пралетарыят, а яго саюзнікам сялянства». Прывёўшы гэта важнейшае палажэнне ленінізма, тав. Варановіч не ўказаў, чаму пралетарыят павінен і можа быць гегемонам буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, што ён выйгрывае ад яе, чаму толькі пралетарыят можа давесці да канца буржуазна-дэмакратычную рэвалюцыю ў эпоху імперыялізма і чаму пралетарыят больш буржуазіі зацікаўлен у поўным знішчэнні астаткаў прыгонніцтва.

У Лесатэхнічным інстытуце імені С. М. Кірава таксама не наладжана яшчэ работа кафедры марксізма-ленінізма. За ўвесь час праведзены толькі чатыры метадычныя нарады. Над павышэннем кваліфі-

фікацыі навуковых работнікаў кафедра не працуе, члены кафедры не ўзялі тэм для напісання дысертацый, не наладжана навукова-даследчая работа.

Лекцыі загадчыка кафедры тав. Ахрэмчыка звычайна змястоўны, але недастаткова яркі і цікавы. Манатоннае чытанне стамляе студэнтаў і зніжае дысцыпліну. Чытаючы лекцыю, тав. Ахрэмчык чамусьці ўвесь час глядзіць уніз ці ў бок—няма ў яго кантакта з аудыторыяй. Большасць студэнтаў займаецца размовамі, чытаннем газет або праглядам канспектаў па іншых прадметах.

8 мая студэнт Соскін са сваім суседам цэлую лекцыю абмяркоўваў дыпломную работу студэнта Шаблоўскага, а студэнт Вернікоўскі ўвесь час вазіўся з вылічальнай лінейкай.

У час лекцыі 10 мая група студэнтаў на задняй парце ўвесь час размаўляла ўслух, а выкладчык не звяртаў на гэта ніякай увагі.

Многія студэнты заходзяць у клас пасля пачатку лекцыі. Так, 8 мая спазнілася 13 чалавек, з іх трое—на 20 мінут. А на лекцыю 10 мая студэнты Іофе і Гімельштэйн спазніліся на 25 мінут. З 86 студэнтаў на лекцыі прысутнічала толькі 42.

Лектар дапускае неахайныя, няправільныя фармуліроўкі. На лекцыі 10 мая ён сказаў: «У нас рабочыя цягнуцца да інтэлігенцыі, яны хочуць быць інжынерамі, а не інтэлігенты да рабочых, некультурных мас». Такім чынам у лектара атрымалася, што рабочыя—«некультурная маса».

Кафедра марксізма-ленінізма Лесатэхнічнага інстытута не здолела арганізаваць самастойную работу студэнтаў над вывучэннем «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» і твораў класікаў марксізма-ленінізма. Кансультацыі студэнты наведваюць слаба. Большая частка студэнтаў самастойную работу над вывучэннем асноў марксізма-ленінізма адкладае да экзаменаў.

У гутарцы з групай студэнтаў 5 курса Лесатэхнічнага факультэта выявілася, што большасць іх не працавала самастойна не толькі над першакрыніцамі твораў класікаў марксізма-ленінізма, але нават над вывучэннем «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)». Студэнты Паташнікава і Стош не маглі толкам адказаць на пытанне, чаму царскі ўрад вымушан быў адмяніць у 1861 г. прыгоннае права. Студэнтка Мацюліна не здолела ўскрыць сутнасць рознагалоссяў на II з'ездзе РСДРП па поваду фармуліроўкі 1 параграфа статута—аб членстве ў партыі. Студэнт Каваленка нічога не мог сказаць аб красавіцкіх тэзісах Леніна, а студэнтка Дземідава сцвярджала, што Ленін у сваіх красавіцкіх тэзісах прапанаваў падтрымліваць часовы ўрад і ўвайсці ў яго.

Навучальная частка інстытута дрэнна спланавала работу студэнтаў-выпускнікоў. Чытанне скарочанага курса лекцый было закончана ў другой палове мая, адначасова студэнтам прапанавалася напісаць і здаць дыпломныя работы к 1 чэрвеня і разам з тым падрыхтавацца і здаць залік па асновах марксізма-ленінізма. Студэнт-выпускнік тав. Шапіра гаворыць: «Мы хочам добра падрыхтавацца за залікаў па асновах марксізма-ленінізма, але дырэкцыя прапанавала нам здаць і абараніць дыпломную работу, а часу для падрыхтоўкі асноў марксізма-ленінізма не адвяла».

Самастойную работу студэнтаў над вывучэннем асноў марксізма-ленінізма стымулююць добра падрыхтаваныя тэарэтычныя канферэнцыі. Кафедра за ўвесь час арганізавала тры такія канферэнцыі

для студэнтаў і навуковых работнікаў інстытута па творах Леніна «Што рабіць?», «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі», «Пралетарская рэвалюцыя і рэнегат Каўцкі». Канферэнцыі не далі чаканых вынікаў, бо не былі як след падрыхтаваны.

Загадчык кафедры марксізма-ленінізма тав. Ахрэмчык заяўляе, што на тэарэтычнай канферэнцыі студэнтаў факультэта механічнай апрацоўкі драўніны ўдзельнічала мала студэнтаў з малодшых курсаў. Канферэнцыя студэнтаў лесагаспадарчага факультэта заслухала толькі даклады, тварыскай дыскусіі не было. Канферэнцыя студэнтаў лесамеханізацыі транспарта таксама прайшла без асобай актыўнасці.

Не зусім сур'ёзна аднеслася кафедра і да падрыхтоўкі тэарэтычнай канферэнцыі для навуковых работнікаў інстытута аб вучэнні Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна аб дзяржаве. Канферэнцыя намечана была на 9 мая. Калі навуковыя работнікі сабраліся, то выявілася, што большасць дакладчыкаў, нават спецыяльна вылучаных, не падрыхтавалася і не рашылася выступіць. Больш гадзіны абмяркоўвалі пытанне: пачынаць ці не пачынаць канферэнцыю. Нарэшце, дагаварыліся адкласці.

Кафедры неабходна ўпарта працаваць, каб палепшыць выкладанне асноў марксізма-ленінізма ў інстытуце.

Некалькі лепш арганізавана работа ў Гомельскім педагагічным інстытуце імені В. П. Чкалава. Кафедра абмеркавала рад пытанняў, звязаных з выкладаннем асноў марксізма-ленінізма, аб метадзе падрыхтоўкі да лекцый, быў праведзен разбор лекцыі, напісанай выкладчыкам асноў марксізма-ленінізма тав. Летнікавым.

Члены кафедры правялі 7 групавых і 18 індывідуальных кансультацый па гісторыі ВКП(б) і матэрыялах XVIII з'езда партыі. Групавымі і індывідуальнымі кансультацыямі абслужана 180 чалавек.

Тэарэтычныя канферэнцыі, прысвечаныя вывучэнню «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» і твораў Леніна, прайшлі на высокім ідэйным узроўні. Акрамя таго, прачытана 6 тэарэтычных лекцый, на якіх прысутнічала 1.400 студэнтаў.

Кафедра арганізавала кабінет марксізма-ленінізма з выстаўкай літаратуры па асобных тэмах гісторыі ВКП(б) і матэрыялах XVIII з'езда партыі. Пры кабінеце працуе гурток з 50 студэнтаў, якія вывучаюць зараз ленінскую работу «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?»

Выкладчыкі асноў марксізма-ленінізма тт. Эльман, Лебедзеў, Летнікаў і інш. уважліва рыхтуюцца да лекцый і ў асноўным не дрэнна спраўляюцца з работай. Але выкладчыкам трэба яшчэ многа папрацаваць над зместам і палітычнай завостранасцю сваіх лекцый, навучыцца ставіць асноўныя пытанні рэвалюцыйнай барацьбы ў цяснейшую сувязь з тактыкай, з палітыкай, з практыкай, прымяняць тэорыю марксізма-ленінізма да выяснення складанейшых з'яў грамадскага жыцця, выхоўваць, заклікаць, натхняць нашу моладзь на новыя слаўныя справы.

Малады выкладчык інстытута тав. Летнікаў многа і ўпарта працуе над сабой, але нявопытнасць у выкладчыцкай рабоце і недастатковая падрыхтаванасць сказваюцца на якасці яго лекцый.

9 мая тав. Летнікаў чытаў лекцыю на тэму «Асноўныя рысы марксісцкага дыялектычнага метада». Уся першая гадзіна прайшла на разбор пытання: у чым адрозненне дыялектыкі ад метафізікі. Гэтае

пытанне ён абавязан быў разгледзець у папярэдняй лекцыі, але не здолеў улажыцца ў адведзены час. Тав. Летнікаў прыводзіць безліч цытат, якія іншы раз лагічна не выцякаюць з закранутага пытання. Зусім недарэчы былі прыведзены разважанні французскіх матэрыялістаў аб тым, што нібыта «пясчынка, трапіўшы ў мозг французскага караля, магла вызначыць лёс гісторыі краіны». Калі і можна было прывесці гэты прыклад, то толькі ў выглядзе крытыкі абстрактнага разумення французскімі матэрыялістамі ўсеагульнай сувязі з'яў, але лектар гэтага не зрабіў. Лектар гаварыў аб усеагульнай сувязі з'яў, прыводзіў прыклады з сонечнай сістэмы, з грамадскага жыцця, але не зрабіў абагульненняў. Лектар не паказаў, што ўсеагульная сувязь з'яў патрабуе да сябе гістарычнага падыходу, не вытлумачыў усёй шкоднасці ізаляванага разгляду іх. Ён упамінаў многа імён філосафаў і прыродазнаўцаў—Робінэ, Спінозы, Ньютона, Дарвіна, Мейера, Лайяля, Швайдэна і т. д., не гаворачы аб тым, што гэта за людзі, калі і дзе яны жылі, чым вядомы.

Амаль усе выкладчыкі не пакідаюць часу для адказаў на пытанні студэнтаў, прывучаючы іх зусім не задаваць пытанняў.

Вялікай папулярнасцю сярод студэнтаў карыстаюцца лекцыі тав. Эльмана. Для выпускнікоў Пед'інстытута тав. Эльману прыйшлося прачытаць толькі скарочаны курс лекцый па асновах марксізма-ленінізма, але студэнты ў сваёй масе нядрэнна засвоілі гэты прадмет. На чацвертым, выпускным, курсе Пед'інстытута са 168 студэнтаў здалі экзамен на выдатна 54 (32 проц.), на добра—57 (34 проц.), на пасрэдна—53 чал. (31½ проц.) і не здалі 4 чал. (2½ проц.).

Найбольш глыбокія і вычарпальныя адказы далі студэнты тт. Бухман—(фізмат), Брэгер і Цаленчук (літфак).

Тав. Бухман грунтоўна асвятліў дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі, расказаў, як яны прымяняліся на вопыце рэвалюцыі 1905 года (адносіны да дзяржаўнай думы, да ўзброенага паўстання, да Советаў і т. д.), ускрыў сутнасць марксісцкага дыялектычнага метада і паказаў яго абсалютную правільнасць і дакладнасць у прымяненні да з'яў прыроды і грамадства. Тав. Цаленчук добра асвятліў становішча на ідэалагічным фронце ў гады рэакцыі, паказаў сутнасць махізма, здолеў каротка і разам з тым дакладна перадаць змест ленінскай работы «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм» і абарону ў ёй тэарэтычных асноў марксісцкай партыі.

Нядрэнна пастаўлена выкладанне «асноў марксізма-ленінізма» ў Мед'інстытуце. Выкладчыкі т.т. Драгілёў, Топаз, Рубінчык і іншыя ў дадатак да вывадаў і палажэнняў «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» прыцягваюць дадатковыя матэрыялы. Так, у лекцыях па першаму раздзелу курса скарыстаны творы Леніна «Развіццё капіталізма ў Расіі», «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?», па другому раздзелу—«Што рабіць?» і т. д. Тэарэтычны і палітычны ўзровень студэнтаў узрастае. З 467 студэнтаў выпускнога курса экзамен па «асновах марксізма-ленінізма» здалі на выдатна—151 (34,5 проц.), на добра—185 (39,6 проц.) і на пасрэдна—121 (25,9 проц.), нездавальняючых ацэнак не было. Узоры авалодвання марксісцка-ленінскай тэорыяй паказалі выдатнікі вучобы тт. Дусевіч, Слесараў, Клебанава, Дубровенская, Тумарынсон, Розенгауз і іншыя студэнты.

З 7 па 16 чэрвеня на ўсіх курсах Мед'інстытута праведзены былі калоквіумы па прачытаных раздзелах «Кароткага курса гісторыі

ВКП(б)». Для падрыхтоўкі было адведзена 16 дзён. Калоквіумы паказалі, што многія студэнты, не абмяжоўваючыся самастойным вывучэннем «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)», працуюць над першакрыніцамі, чытаюць кансультацыі ў газетах і журналах. Студэнт 12 групы II курса тав. Скір даў вычарпальны адказ на пытанне: чаму царскі ўрад аказаўся вымушаным адмяніць у 1861 годзе прыгоннае права. Ён прывёў і дадатковы матэрыял з ленінскіх артыкулаў «Рабочая партыя і сялянства», «Пяцідзесяцігоддзе падзення прыгоннага права», а па пытанню аб Крымскай кампаніі выкарыстаў кансультацыі, змешчаныя ў журналах.

Выдатныя адказы аб ленінскай барацьбе супроць народнікаў і аб значэнні ленінскай работы «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?» далі студэнты II курса тт. Мікуліч, Мурашка, Футэр і інш.

Добра растлумачыла пытанне аб тактычнай лініі III з'езда партыі і тактычнай лініі канферэнцыі меншавікоў студэнтка II курса Самохіна. Яна здолела ўскрыць сутнасць рознагалоссяў паміж большэвікамі і меншавікамі па тактычных пытаннях і ў той-жа час паказала неацанімае значэнне ленінскай працы «Дзве тактыкі соцыялдэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі», выпушчанай у свет у ліпені 1905 года.

Студэнтка 10 групы III курса тав. Кадышсон падрабязна асвяціла пытанне аб барацьбе Плеханава з народніцтвам і значэнні яго групы «Вызваленне працы» у справе распаўсюджання марксізма ў Расіі. Яна здолела таксама ўскрыць сутнасць сур'ёзных памылак, дапушчаных гэтай групай.

Студэнтка 14 групы III курса тав. Шаховіч дала грунтоўны адказ на пытанне аб пачатку рэволюцыйнай дзейнасці Леніна, а таксама аб пецербургскім «Саюзе барацьбы за вызваленне рабочага класа». Тав. Кандраценя в 10 групы і тав. Машніцкая з 14 групы нядрэнна растлумачылі прычыны паражэння рэволюцыі 1905 года.

Некаторыя студэнты яшчэ слаба працуюць над матэрыялам. Яны разважаюць так: экзамен будзе ў наступным годзе, і вывучэнне «асноў марксізма-ленінізма» можна адкласці да пары да часу. Наколькі памыліліся гэтыя таварышы, красамоўна сведчаць вынікі калоквіума. Студэнтка Ватнік-Пікус Ф. П. (11 трупы III курса) не здолела паказаць сутнасці рознагалоссяў на II з'ездзе РСДРП па арганізацыйных пытаннях. Тав. Ліўшыц (9 група III курс) не магла адказаць на пытанне, у чым заключаецца значэнне ленінскага плана пабудовы марксісцкай партыі. Студэнтка гэтай-жа групы Карнеева Т. Л. нічога не ведала аб барацьбе Леніна супроць «легальных марксістаў», а студэнтка Каганава Л. М. не падрыхтавалася да калоквіума, як быццам у яе «не было часу». Не даў вычарпальнага адказу на пытанне аб наступленні сталыпінскай рэакцыі студэнт 16 групы II курса тав. Бобавоз.

Вопыт паказаў, што калоквіумы неабходна практыкаваць і ў далейшым, асобна па кожнаму пройдзенаму раздзелу «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)», а не пасля кожных 3—4 раздзелаў. Такая форма работы будзе стымуляваць самастойнае вывучэнне матэрыяла студэнтам і дасць магчымасць лепш замацаваць тыя дадатковыя веды, якія дае выкладчык у час лекцыі.

За апошнія чатыры месяцы ў Мед'інстытуце сіламі кафедры прачытан рад лекцый па пытаннях тэорыі марксізма-ленінізма для

навуковых работнікаў і студэнтаў: «Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю», аб рабоце Леніна «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм», «Аб ролі асобы ў гісторыі» і т. д. Акрамя таго, праведзен рад тэарэтычных канферэнцый сярод студэнтаў, аспірантаў і навуковых работнікаў.

* * *

Вопыт работы вышэйшых навучальных устаноў Беларускай ССР паказвае, што большасць кафедр марксізма-ленінізма ўсё яшчэ не стала цэнтрам калектыўнай работы выкладчыкаў над палепшаннем якасці лекцый. Навукова-даследчая работа, пытанні павышэння тэарэтычнага ўзроўню выкладчыкаў, кантроль за якасцю лекцый і кансультацый усё яшчэ не на належнай вышыні. У гэтым, безумоўна, адна з прычын зачастую нізкай якасці лекцый.

Партыйныя, комсамольскія, грамадскія арганізацыі ВНУ і дырэктары павінны палепшыць кіраўніцтва справай марксісцка-ленінскага выхавання студэнтаў, заняцца канкрэтнымі пытаннямі выкладання асноў марксізма-ленінізма, мабілізацыі студэнцтва на самастойную глыбокую работу над «Кароткім курсам гісторыі ВКП(б)», стварыць усе ўмовы для тэарэтычнага росту і навуковай работы выкладчыкаў «асноў марксізма-ленінізма», забяспечыць сістэматычную дапамогу і кантроль за іх работай.

Адною з форм павышэння тэарэтычнага ўзроўню выкладчыкаў з'яўляюцца добра падрыхтаваныя семінары. У першай палове мая месяца Аддзел агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б арганізаваў для выкладчыкаў «асноў марксізма-ленінізма» першы занятак семінара, прысвечаны чацвертаму раздзелу «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)». У аснову была пакладзена работа Леніна «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм». Асноўныя рэфераты: «Барацьба з махізмам», «Аб развіцці марксісцкай тэорыі пазнання», «Крызіс сучаснай фізікі» і «Марксісцка-ленінскае вучэнне аб прадукцыйных сілах і вытворчых адносінах»—даручана было распрацаваць і напісаць чатыром таварышам на працягу двух месяцаў. Семінар поўнасцю сябе апраўдаў. Усе абласныя і гарадскія цэнтры з поспехам могуць і павінны прымяніць у сябе гэту форму работы, што будзе садзейнічаць тэарэтычнаму росту выкладчыкаў, дапаможа ім весці сваю работу на высокім узроўні большэвіцкай партыйнасці, аўладаць майстэрствам большэвіцкай прапаганды.

Выкладанне марксісцка-ленінскай тэорыі неабходна ўзняць на належную вышыню, каб узброіць рыхтуемыя кадры савецкай інтэлігенцыі самай перадавой навукай аб законах развіцця грамадства. І з гэтай задачай мы безумоўна справімся, бо маем для таго ўсе сродкі і магчымасці.

---

Б. Шпітальнік і М. Белкін

# Актыўны памочнік партыі

## (Вопыт перабудовы работы ў пярвічнай комсамольскай арганізацыі калгаса)

Гістарычны XVIII з'езд ВКП(б) удзяліў вялікую ўвагу ленінска-сталінскаму комсамолу. Клопаты большэвіцкай партыі аб комсамоле знайшлі сваё яркае адлюстраванне ў пастановах з'езда. У статут нашай партыі ўключан спецыяльны раздзел аб комсамоле, дзе з вычарпальнай паўнатой вызначаны яго задачы ў перыяд, калі партыя большэвікоў разгортвае сусветна-гістарычнага значэння работу па завяршэнню будаўніцтва соцыялізма і паступоваму пераходу ад соцыялізма да комунізма.

Комсамольскім арганізацыям прадастаўлена шырокае поле дзяржаўнай і гаспадарчай дзейнасці, развіцця творчай ініцыятывы.

Актыўны ўдзел комсамола ва ўсім жыцці краіны павінен умела спалучацца з агульным уздымам усёй яго работы, з ідэйным выхаваннем комсамольскіх мас, з уцягненнем у рады комсамола лепшай часткі моладзі, з авалодваннем марксісцка-ленінскай тэорыяй.

У гэтым артыкуле мы хочам расказаць аб вопыце перабудовы работы калгаснай комсамольскай арганізацыі пры калгасе імені Фрунзе (Нова-Барсуцкі сельсовет, Рэчыцкага раёна), якая налічвае зараз 39 членаў. Партыйнай арганізацыі ў калгасе няма, і комсамольская арганізацыя зрабіла зусім правільныя вывады з указання таварыша Жданава аб тым, што там «дзе няма пярвічнай партарганізацыі, але ёсць пярвічная комсамольская арганізацыя, яна павінна ўзяць на сябе ролю актыўнага правадніка партыйных дырэктыў».

Рыхтуючыся да вясенняй пасеўнай кампаніі, комсамольская арганізацыя паставіла перад сабою задачу—стварыць узорныя комсамольска-маладзёжныя звенні, каб яны прыкладам сваёй працы натхнялі астатніх калгаснікаў на лепшую вытворчую работу.

Рэчыцкі райком і Гомельскі абком комсамола адобрылі гэту ініцыятыву. Аднак, пры выдзяленні ўчасткаў некаторыя брыгадзіры калгаса аказалі вялікае супраціўленне арганізацыі комсамольска-маладзёжных звенняў, хоць гэта пытанне было адобрана праўленнем калгаса і агульным сходам калгаснікаў. Толькі ўпартая і настойлівая барацьба пры дапамозе райкома партыі і райвыканкома дала комсамольскай арганізацыі магчымасць ажыццявіць пастаўленую задачу.

На чале чатырох комсамольска - маладзёжных звенняў былі пастаўлены комсамолкі Хамякова Саша, якую Прэзідыум Вярхоў-

нага Совета СССР узнагародзіў медаллю «За трудовую доблесть», Кавалёва Грыпіна, Жураўлёва Маша і комсамолец Тарашчанка Сцяпан.

У пачатку красавіка на адкрытым комсамольскім сходзе, прысвечаным уключэнню ў соцыялістычнае спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі, тав. Хамякова заявіла: «Наша звяно бярэцца ў 1939 годзе дабіцца ўраджаю з участкаў ў два гектары зямлі 18 цэнтнераў ільновалакна і 30 цэнтнераў ільнонасення і другога ўчастка ў 2 га—па 170 цэнтнераў бульбы і 15 цэнтнераў ячменю з гектара». Такія-ж абавязкі ўзялі на сябе ўсе комсамольска-маладзёжныя звенні і робяць усё для таго, каб поўнасцю іх выканаць.

Тав. Хамякова працуе па строгаму графіку, у спецыяльным сшытку вядзе ўчот работы за дзень. Вось некаторыя яе запісы:

«11 красавіка. Пабаранавалі ўчастак. Унеслі 6 цэнтнераў суперфасфата.
17 красавіка. Унеслі 8 цэнтнераў попелу.
20 красавіка. Участак забаранавалі ў другі раз.
26 красавіка. Унеслі 2 цэнтнеры аміячнай селітры.
29 красавіка. Участак засеян.
10 мая. Пачалі матыжанне ільну».

У калгасе выяўлены былі сур'ёзныя недахопы ў правядзенні сяўбы. 4-я брыгада пасеяла бульбу ў аднавор, пры ворыве і сяўбе дапускаліся агрэхі і т. д. Інспектары па якасці не сачылі за работай брыгады. Комсамольская арганізацыя вылучыла групу «лёгкай кавалерыі», якая праверыла ўсе гэтыя факты і далажыла аб іх на адкрытым комсамольскім сходзе.

Таксама заўважана было, што многія калгаснікі сістэматычна не выходзяць на работу, што прысядзібныя ўчасткі не заўсёды адпавядаюць нормам, устаноўленым статутам сельгасарцелі. Пры гэтым было выяўлена 27 выпадкаў парушэння статута.

Усе гэтыя пытанні абмяркоўваліся на комсамольскім і на агульным сходзе калгаснікаў.

Комсамольскі сход, які адбыўся 2-га мая, адзначыўшы ў сваёй пастанове па дакладу старшыні праўлення калгаса кандыдата партыі т. Еўдачэнка дапушчаныя ў час сяўбы недахопы (сяўба бульбы ў аднавор, агрэхі, зацяжка сяўбы, адсутнасць працоўнай дысцыпліны, выпадкі парушэння статута сельскагаспадарчай арцелі і г. д.), намеціў рад мерапрыемстваў па выпраўленню гэтых памылак. У прыватнасці ўжо выпраўлены парушэнні статута ў галіне прысядзібных участкаў.

Сельскі совет вельмі адставаў з выкананнем плана па мясу і і малаку. Комсамольская арганізацыя заслухала даклад свайго агента па загатоўках. Указаўшы на недахопы яго работы, яна вылучыла ў дапамогу яму групу комсамольцаў.

Комсамольская арганізацыя займалася і пытаннем паляпшэння работы пажарнай дружыны; па яе настаянню кіраўнік дружыны быў заменен больш працаздольным таварышом. Яна паклапацілася таксама аб тым, каб у калгасе бесперабойна працаваў нізавы друк, развівалася калгасная самадзейнасць.

Такую разнастайную работу праводзіла пярвічная комсамольская арганізацыя калгаса імені Фрунзе.

Таварыш Жданаў у сваім дакладзе на XVIII з'ездзе партыі гаварыў:

«...Скажам, няма парадку ў праўленні калгаса, дрэнна з

> сяўбой, дрэнна з працоўнай дысцыплінай,—чаму гэтыя пытанні не можа абмяркоўваць комсамольская арганізацыя? Чаму комсамольская арганізацыя не можа абмяркоўваць пытанне аб дрэннай рабоце праўлення калгаса і арганізаваць справу так, каб замяніць дрэннае праўленне добрым? Чаму комсамольская арганізацыя не можа абмяркоўваць пытанне аб дрэнных парадках у сельсовеце? Чаму яна не можа ўзяць на сябе, па даручэнню райкома партыі, правядзенне партыйных даручэнняў, дырэктыў, якія зараз няма каму выконваць, толькі таму, што няма пярвічнай партарганізацыі? Я думаю, што комсамольская арганізацыя можа і павінна гэта рабіць».

Першыя крокі па рэалізацыі пастаноў XVIII з'езда ВКП(б) гавораць аб тым, што комсамольская арганізацыя калгаса імені Фрунзе правільна зразумела свае задачы.

VIII пленум ЦК ВЛКСМ у сваёй пастанове «Аб рабоце арганізацый ВЛКСМ у сувязі з рашэннямі XVIII з'езда ВКП(б)» указаў:

> «Звярнуць асаблівую ўвагу ўсіх арганізацый комсамола на неабходнасць рашуча палепшыць работу па выхаванню ўсёй совецкай моладзі ў духу марксізма-ленінізма, у духу большэвізма. Рашэнне гэтай важнейшай задачы патрабуе ад усіх комсамольскіх арганізацый спалучэння практычнай работы па будаўніцтву комунізма з работай па ідэйнаму ўзбраенню совецкай моладзі. Усёй сваёй работай комсамольскія арганізацыі абавязаны выхоўваць у моладзі высокае пачуцце совецкага патрыятызма, мабілізацыйнай гатоўнасці. Кожны комсамолец павінен быць гатоў у любую мінуту са зброяй у руках устаць на абарону сваёй радзімы».

Як комсамольская арганізацыя калгаса імені Фрунзе выконвае гэту задачу, як яна спалучае практычную работу з уздымам ідэйнага ўзроўню членаў сваёй арганізацыі і калгаснай моладзі?

Пры комсамольскай арганізацыі рэгулярна, тры разы ў месяц, працуе палітгурток, які вывучае матэрыялы XVIII з'езда ВКП(б). 19 комсамольцаў і некомсамольцаў (сярод іх і настаўнікі школы, абслугоўваемай комсамольскай арганізацыяй) самастойна вывучаюць гісторыю партыі.

3-га чэрвеня была праведзена тэарэтычная канферэнцыя па першаму раздзелу «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)».

Комсамольская арганізацыя вылучыла 18 агітатараў. Некаторыя з іх (комсамолка-настаўніца тав. Грыханава, тав. Дорах П. В.) закончылі вывучэнне даклада таварыша Сталіна і прыступілі да вывучэння даклада таварыша Молатава.

Спалучэнне практычнай і гаспадарчай работы з павышэннем ідэйнага ўзроўню моладзі камсамольская арганізацыя праводзіць па дэтальна распрацаванаму плану. У чэрвені намечана правесці 4 агульныя сходы і 3 пасяджэнні камітэта комсамола. Намечана: абмеркаваць пастанову ЦК ВКП(б) і СНК СССР «Аб падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю і загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў у 1939 годзе», заслухаць справаздачы групы «лёгкай кавалерыі» і загадчыка клубам, абмеркаваць выпадкі парушэння статута сельскагаспадарчай арцелі, даклад старшыні праўлення калгаса аб падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю, аб масавай рабоце ў калгасе, аб рабоце школы, аб культмасавай рабоце ў брыгадзе № 8, заслухаць даклад аб міжнародным становішчы і задачах прызыўнікоў, справаздачу

комсамольска-маладзёжных звенняў, аб выкананні фінплана па калгасу, аб становішчы абаронна-фізкультурнай работы ў калгасе, вывучэнне матэрыялаў чарговага II пленума ЦК ЛКСМБ. Акрамя таго, арганізаваць літаратурны вечар, прысвечаны А. М. Горкаму, паставіць лекцыю на антырэлігійную тэму, правесці вечар самадзейнасці, аформіць арганізацыю СВБ і гурткоў ППХА і ГСА.

Правільная арганізацыя работы ў адпаведнасці з пастановамі XVIII з'езда ВКП(б), сістэматычная масава-палітычная работа сярод моладзі, узорная работа комсамольцаў на калгасных палях і іншых участках узнялі аўтарытэт комсамольскай арганізацыі і павялічылі цягу калгаснай моладзі ў комсамол. На працягу мая месяца комсамольская арганізацыя прыняла 10 новых членаў. Зараз паступіла 8 новых заяў аб прыёме ў рады комсамола.

Комсамольская арганізацыя рэкамендавала ў кандыдаты партыі 5 комсамольцаў. Райком партыі ўжо зацвердзіў 4 з іх, у тым ліку і сакратара пярвічнай комсамольскай арганізацыі тав. Мядзведзева Фёдара.

Калгас імені Фрунзе зацверджан кандыдатам на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку. Поспехам калгаса не мала спрыяла дружная работа комсамольскай арганізацыі, якая ўпарта змагаецца за няўхільнае выкананне вялікіх задач партыі.

---

І. Хоцька

# Размяшчэнне соцыялістычнай прамысловасці Беларускай ССР у трэцяй пяцігодцы

XVIII з'езд вялікай большэвіцкай партыі аднадушна прыняў трэці пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі СССР. З сталінскім размахам намечана грандыёзная праграма далейшага будаўніцтва комуністычнага грамадства.

Трэцяя сталінская пяцігодка—пяцігодка новага гіганцкага ўздыму ўсёй народнай гаспадаркі, культуры і добрабыту працоўных мас нашай вялікай радзімы, у тым ліку і яе неад'емнай часткі—фарпоста краіны соцыялізма на заходніх рубяжах з капіталістычным светам—ордэнаноснай Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

У святле сапраўды грандыёзных задач трэцяй пяцігодкі перад намі ва ўвесь рост паўстае пытанне аб правільным, роўнамерным размяшчэнні соцыялістычнай прамысловасці па ўсёй рэспубліцы, аб набліжэнні яе да крыніц сыравіны і раёнаў спажывання.

Правільнае соцыялістычнае размяшчэнне прамысловасці мае велізарнае значэнне ў справе ліквідацыі атрыманай у спадчыну ад капіталізма процілегласці паміж горадам і вёскай.

Энгельс у сваёй класічнай рабоце «Анты-Дзюрынг» падверг знішчальнай крытыцы вульгарны «спецыфічны прускі соцыялізм п. Дзюрынга», які меркаваў, што процілегласць паміж горадам і вёскай няўхільна па самой прыродзе рэчаў.

Асновапаложнікі марксізма-ленінізма яшчэ на зары развіцця электратэхнікі прадбачылі тыя грандыёзныя перспектывы, якія дасць прымяненне электрычнасці ў вытворчых працэсах.

У 1850 годзе Маркс з геніяльнай празарлівасцю прадказаў далейшы лёс мадэлі электрычнай машыны:

> «Царстваванне яе вялікасці пары, якая перавярнула свет у мінулым стагоддзі, скончылася; на яе месца стане нязмерна больш рэволюцыйная сіла—электрычная іскра»*).

Маркс і Энгельс падкрэслівалі велізарнае значэнне электрычнасці і лічылі, што іменна яна стане адным з магутнейшых рычагоў знішчэння процілегласці паміж горадам і вёскай.

Перадавая тэхніка, match рознастайнасць відаў сыравінных рэсурсаў, высокі ўзровень развіцця прадукцыйных сіл створыць магчымасць роўнамернага размяшчэння прамысловасці. Але капіталізм не можа выкарыстаць гэту магчымасць.

> «Толькі грамадства,—гаворыць Энгельс,—здольнае гарманічна прыводзіць у рух свае прадукцыйныя сілы, згодна адзі-

*) Маркс, Выбраныя творы, т. I, стар. 76, выд. 1933 г.

наму агульнаму плану, у стане арганізаваць іх так, што будзе магчыма роўнамерна размеркаваць буйную вытворчасць па ўсёй краіне, у поўнай адпаведнасці з яго ўласным развіццём і захаваннем і развіццём іншых элементаў вытворчасці» *).

Вучэнне асновапаложнікаў навуковага комунізма аб размяшчэнні прадукцыйных сіл пры соцыялізме атрымала сваё далейшае развіццё ў работах Леніна і Сталіна. Правадыры нашай партыі ўжо ў 1920 годзе, ва ўмовах бяспрыкладнага заняпаду сельскай гаспадаркі і прамысловасці, у перыяд разрухі і цяжкіх затрудненняў на харчовым, паліўным і транспартным фронтах, у кальцы імперыялістычнай блакады абвясцілі, упершыню ў свеце, дзяржаўны план соцыялістычнай перабудовы ў мінулым адсталай краіны на базе навейшай тэхнікі электрычнасці.

План ГОЭЛРО ўвайшоў у гісторыю як адно з самых смелых і гераічных дзеянняў пролетарыята, як грандыёзны вызаў капіталістычным краінам.

У гэтым выдатным дакуменце ясна сказана, што мы жадаем выраўняць фронт нашай эканомікі ва ўзровень з дасягненнямі капіталістычнага ўкладу, эканамічна дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны, роўнамерна размясціць прамысловасць, наблізіўшы яе непасрэдна да крыніц сыравіны і раёнаў спажывання.

У выніку няўхільнага правядзення ў жыццё ленінска-сталінскай палітыкі індустрыялізацыі план ГОЭЛРО не толькі поўнасцю выканан, але і перавыканан амаль у два з паловай раза. Царская Расія займала пятнаццатае месца ў свеце па вытворчасці электраэнергіі. СССР выйшаў на другое месца ў Еўропе і трэцяе ў свеце. У 1910 годзе было выпрацавана 1,9 млрд. кіловат-гадзін электраэнергіі. У 1938 годзе электрастанцыі СССР далі 41,2 млрд. кіловат-гадзін. Адна толькі Днепроўская гідрастанцыя імя Леніна ўжо ў 1936 годзе дала электраэнергіі больш, чым усе электрастанцыі былой царскай Расіі.

Сталін—вялікі пераўтваральнік, геніяльны правадыр, настаўнік і друг працоўных—мудра і пабеданосна вёў і вядзе ў бой армію будаўнікоў соцыялізма. Таварыш Сталін з'яўляецца аўтарам планаў, якія назаўсёды ўвайшлі ў сусветную гісторыю пад іменем сталінскіх.

За годы двух сталінскіх пяцігодак раней адсталая ў тэхнічных адносінах краіна ператворана цяпер у перадавую індустрыяльную дзяржаву з самым буйным у свеце машынізаваным калектыўным земляробствам. На месцы былой турмы народаў вырас на аснове ўзаемадапамогі і супрацоўніцтва несакрушальны брацкі саюз многіх народаў.

За годы першай і другой пяцігодак створана новая, удасканаленая тэхніка, асваенне якой дало штуршок развіццю магутнага стаханаўскага руху за высокую прадукцыйнасць працы, за перагляд старых тэхнічных норм і праектных магутнасцей.

Поспехі тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі, няўхільны рост кадраў, аўладаўшых тэхнікай сваёй справы, даюць магчымасць паскорыць вырашэнне нашай асноўнай задачы—дагнаць і перагнаць у эканамічных адносінах найбольш перадавыя капіталістычныя краіны.

Сталінскі план індустрыялізацыі СССР забяспечыў найбольш

*) Маркс і Энгельс, т. XIV, стар. 301.

рацыянальнае размяшчэнне прадукцыйных сіл, стварэнне другой вугальна-металургічнай базы, сотні прамысловых прадпрыемстваў у нацыянальных рэспубліках, на Далёкім Усходзе, у Сярэдняй Азіі, на Поўначы, на самых далёкіх ускраінах нашай краіны.

Трэці пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі дасць магчымасць яшчэ больш наблізіць прамысловасць да крыніц сыравіны і раёнаў спажывання, а таксама дабіцца далейшага ўздыму эканомікі ў мінулым адсталых раёнаў СССР.

У рэзалюцыі XVIII з'езда ВКП(б) указана:

> «З'езд лічыць, што ў размяшчэнні новага будаўніцтва ў трэцяй пяцігодцы па раёнах СССР неабходна зыходзіць з набліжэння прамысловасці да крыніц сыравіны і раёнаў спажывання ў мэтах ліквідацыі нерацыянальных і празмерна дальніх перавозак, а таксама—далейшага ўздыму ў мінулым эканамічна-адсталых раёнаў СССР».

Набліжэнне прамысловасці да крыніц сыравіны і энергіі і роўнамернае яе размяшчэнне азначае ў нашых умовах, ва ўмовах няўхільнага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, гаспадарчы і культурны ўздым раней адсталых раёнаў—былых ускраін царскай Расіі.

* * *

Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка, дзякуючы няўхільнаму правядзенню ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі і брацкай дапамозе рускага рабочага класа, з краіны адсталай, жабрацкай да рэвалюцыі, ператварылася, асабліва за годы двух сталінскіх пяцігодак, у квітнеючую індустрыяльна-калгасную краіну.

Атрымліваючы ад саюзнага ўрада сістэматычную дапамогу матэрыяльнымі рэсурсамі і кадрамі, БССР развівала сваю прамысловасць значна больш хуткімі тэмпамі, чым СССР у цэлым. Асноўныя фонды прамысловасці СССР за першую пяцігодку выраслі ў 2,2 раза, а БССР—у 3,9 раза. У 1937 г. валавая прадукцыя прамысловасці БССР дасягнула 2,1 млрд. рублёў, перавысіўшы даваенны ўзровень у 21 раз, тады як прадукцыя прамысловасці СССР у цэлым перавысіла яго ў 9,5 раза.

Напярэдадні першай пяцігодкі прамысловасць БССР давала прадукцыі ў 3 разы менш, чым сельская гаспадарка, а ўжо ў 1932 г. перавысіла яе ўзросшую прадукцыю. У 1937 г. удзельная вага прамысловасці ва ўсёй прадукцыі народнай гаспадаркі дасягнула 77,5 проц.

За годы двух сталінскіх пяцігодак у буйную прамысловасць БССР укладзена каля 860 млн. рублёў. К 1937 году асноўныя фонды буйнай прамысловасці дасягнулі 638 млн. рублёў, г. зн. у параўнанні з 1928 г. выраслі ў 7,7 раза. Цяжкая прамысловасць развівалася яшчэ больш высокімі тэмпамі: яе асноўныя фонды к 1937 г. павялічыліся ў параўнанні з 1928 г. у 10,3 раза.

У БССР за годы савецкай улады створан рад новых галін прамысловасці (тарфяная, машынабудаўнічая, хімічная, цэментная, тлушчавая і інш.). К 1936 году асноўныя фонды новых і рэканструяваных прадпрыемстваў займалі ва ўсёй цэнзавай прамысловасці БССР 83 проц., а ў вядучых галінах удзельная вага іх была яшчэ большай: у электрастанцыях 93,8 проц., у тарфяной прамысловасці 94,6 проц., у скурана-абутковай 98,8 проц. і т. д.

За годы сталінскіх пяцігодак у БССР пабудаваны: Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат (адзін з буйнейшых у Еўропе), Магілеўская фабрыка штучнага валакна, віцебская швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», віцебская трыкатажная фабрыка «КІМ», Белгрэс імя Сталіна, Гомсельмаш, барысаўская запалкавая фабрыка «Пролетарская перамога», Крычаўскі цэментны завод, Магілеўскі трубаліцейны завод, Гомельскі механізаваны шклозавод імені Сталіна і т. д. Зусім занова створана мясная і кандзіцерская прамысловасць, а таксама галіны, якія выпускаюць прадметы шырокага спажывання: швейныя, трыкатажныя і іншыя вырабы.

На базе багацейшых сыравінных рэсурсаў пабудаваны дзесяткі буйнейшых тарфяных заводаў. Ужо к канцу першай пяцігодкі асноўныя фонды тарфянай прамысловасці ўзраслі ў 12,7 раза супроць 1928 г. Уведзеныя новыя ўдасканаленыя спосабы здабычы торфу: фрэзерны, багерны, скрэперны, вялікі гідраторф.

У 1938 г. прадукцыя тарфянай прамысловасці дасягнула звыш 2.500 тыс. тон супроць 14 тыс. у 1913 г.

Буйнейшыя, аснашчоныя перадавой тэхнікай машынабудаўнічыя заводы (завод імя Кірава, імя Варашылава ў Менску, завод імя Кірава ў Віцебску і завод «Пролетарый» у Гомелі) выпрацоўваюць стругальныя, такарныя, свідравальныя станкі, машыны для дарожнага будаўніцтва, для тарфянай прамысловасці, розныя сельскагаспадарчыя машыны, запасныя часткі для трактараў і т. д.

Менск, Гомель, Магілеў, Віцебск, Мазыр, Бабруйск, Орша, Полацк і іншыя гарады ператвораны ў буйнейшыя рабочыя цэнтры. Валавая прадукцыя прамысловасці ўжо ў 1936 г. перавысіла прадукцыю 1913 г. па Менску ў 20 раз, па Віцебску ў 39,4 раза, па Гомелю ў 55,6 раза, па Магілеву ў 86,9 раза, па Бабруйску ў 26,6 раза. Узніклі новыя прамысловыя цэнтры: Крычаў, Быхаў і інш.

Дасягнуты рашаючыя поспехі ў тэхнічнай рэканструкцыі прамысловасці Беларусі. Энергаўзброенасць прадпрыемстваў узрасла на 40 проц. у параўнанні з 1928 г. Удзельная вага спажываемай электраэнергіі ўзнялася з 26,4 проц. у 1928 г. да 78,6 проц. у 1937 г. Па асобных галінах гэты рост яшчэ больш значны: у хімічнай — з 18,0 да 98,4 проц., у металаапрацоўчай — з 58,6 да 99,5 проц. і т. д.

Звыш 175 тысяч рабочых працуе зараз на прадпрыемствах рэспублікі. Створаны кадры рабочых і інжынераў з беларускага насельніцтва.

К канцу другой пяцігодкі на калгасных палях БССР працавала звыш 8 тыс. трактараў, 629 камбайнаў, 1.094 шыроказахватныя ільноцерабілкі, 2.047 складаных і поўскладаных малатарань, 1.697 трактарных сеялак і тысячы іншых сельскагаспадарчых машын.

З кожным годам павялічваюцца ўраджаі тэхнічных культур, узмоцнена развіваецца соцыялістычная жывёлагадоўля. За чатыры годы (з 1/I—34 г. па 1/I—38 г.) пагалоўе буйнай рагатай жывёлы павялічылася на 40,7 проц., свіней—на 85,7 проц., авечак і коз— на 20,2 проц.

К пачатку 1939 г. на Беларусі налічвалася звыш 10.000 калгасаў, у якіх аб'ядналася 90 проц. усіх сялянскіх двароў з 96—97 проц. пасеўнай плошчы.

З краіны сахі і касулі Беларусь ператварылася ў краіну трактара і камбайна.

Такія, у кароткіх рысах, поспехі, дасягнутыя Беларускай ССР у выніку правядзення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Яны былі-б яшчэ больш грандыёзнымі, калі-б не контррэволюцыйная дзейнасць трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных шпіёнаў, якія прабавалі сарваць пераможны ход соцыялістычнага будаўніцтва, дэзарганізаваць новае размяшчэнне прадпрыемстваў рэспублікі, заблытаць пытанні спецыялізацыі яе раёнаў і прадпрыемстваў.

Не малую шкоду ворагі народа нанеслі ў паліўнай прамысловасці. Яны знарок зніжалі планы здабычы мясцовага паліва, зрывалі механізацыю торфараспрацовак, закрывалі торфарцелі і т. д. Яны ўсяляк тармазілі будаўніцтва энергетычнай базы Беларусі, асабліва другой чаргі Белгрэс, якая мае велізарнае значэнне для развіцця прамысловасці ў Віцебску, Магілеве, Оршы і ў радзе іншых гарадоў і раёнаў рэспублікі.

Але стаўка ворагаў аказалася бітай. Слаўная совецкая разведка выкрыла гэтых мярзотнікаў. Партыя Леніна—Сталіна паспяхова ліквідуе вынікі варожай работы і намячае яшчэ больш грандыёзныя планы соцыялістычнага размяшчэння прадукцыйных сіл.

* * *

Поспехі, дасягнутыя ў соцыялістычным будаўніцтве Беларускай ССР, дазваляюць на аснове прынятага XVIII з'ездам ВКП(б) трэцяга пяцігадовага плана вызначыць маштаб і формы спецыялізацыі нашай гаспадаркі і намеціць размяшчэнне найбольш важных прамысловых аб'ектаў, галоўным чынам на базе мясцовай сыравіны.

Развіццё нашай рэспублікі ў трэцім пяцігоддзі пойдзе па лініі далейшай індустрыялізацыі, няўхільнага росту тэхнічнага ўзбраення, дасягнення больш высокага ўзроўню ў асваенні навейшай тэхнікі, ўсямернага развіцця ўсенароднага стаханаўскага руху.

Высокага развіцця павінны дасягнуць галіны прамысловасці, якія працуюць на мясцовай сыравіне: тарфяная, лясная, дрэваапрацоўчая, будаўнічых матэрыялаў, харчовая, ільноапрацоўчая і іншыя.

**Тарфяная прамысловасць** сярод іншых галін народнай гаспадаркі Беларусі займае буйнейшае месца.

Паводле даных Інстытута торфа, на тэрыторыі БССР зарэгістравана больш 2 000 тарфянікаў з агульнай плошчай каля мільёна га (973. 960 га). Прамысловыя залежы торфу займаюць 840 тыс. га з запасам звыш 16 мільярдаў кубаметраў сырой масы. Аднак і гэтыя велізарныя лічбы не ахопліваюць поўнасцю тарфяны фонд рэспублікі, бо ў іх, па-першае, не ўвайшлі даныя 1937—1938 г., а, па-другое, яшчэ далёка не ўсе раёны БССР даследаваны з дастатковай паўнатою.

Тарфяныя месцанараджэнні даволі роўнамерна размеркаваны па ўсіх кутках нашай краіны. Аднак на агульным фоне выдзяляюцца раёны павышанай канцэнтрацыі і раёны, менш багатыя торфам. Да першых галоўным чынам адносіцца частка басейна Заходняй Дзвіны, заходняя палова сярэдняй часткі Беларусі, басейн Прыпяці, усходняя-ж частка, асабліва ў сярэдняй паласе, менш затарфавана.

Беларускія тарфянікі па якасці сваёй не ўступаюць і нават ва многім перавышаюць якасць тарфянай сыравіны суседніх і цэнтральных абласцей СССР. Па сваіх тэхнічных уласцівасцях беларускія тарфянікі прыгодны для самых рознастайных народнагаспадарчых

мэт. За нямногім выключэннем усе заляганні могуць эксплаатавацца для паліва і газіфікацыі з выкарыстаннем тарфяных смол для хімічнай прамысловасці.

Паўсямесная наяўнасць торфу ў рэспубліцы дазваляе ў трэцім пяцігоддзі ўсямерна развіць тарфяную прамысловасць, пашыраючы існуючыя і ўводзячы ў эксплатацыю новыя торфагаспадаркі з комплекснай механізацыяй працэсаў вытворчасці, ствараючы паліўныя базы на месцы спажывання торфу, што дасць магчымасць скараціць аб'ём і радыус перавозак і ў значнай меры палегчыць работу транспарта. У далейшым не могуць быць цярпімы перавозкі торфу па чыгунцы на 230—240 кіламетраў, часта нерацыянальныя сустрэчныя, залішне-дальнія. Так, напрыклад, торф вывозіцца з Смалявіч Менскай вобласці ў Віцебск, з торфзавода «Татарка» Асіповіцкага раёна ў Гомель.

У трэцяй пяцігодцы на развіццё тарфянай прамысловасці адпускаецца 200 млн. рублёў супроць 67 млн. у другой пяцігодцы. Гэтыя велізарныя сродкі дазваляюць фарсіраваць асваенне новых торфмасіваў.

Ужо ў 1939 г. неабходна пачаць асваенне буйнейшага торфмасіва «Дабееўскі мох» (Сіроцінскі раён Віцебскай вобласці) з плошчай звыш 3. 080 га і запасам торфу ў 64 млн. кубаметраў. У гэтым-жа раёне ёсць яшчэ два вялікія месцанараджэнні торфу—Каравайніцкае і Бавалінскае, распрацоўка якіх з 1935 года шкодніцкі закансервавана.

У Віцебскай вобласці намячаецца прыступіць да асваення такіх буйнейшых торфмасіваў, як «Крапівенскі мох» Лёзненскага раёна, «Смятанка» Шклоўскага раёна, «Гурынскае» Чашніцкага раёна. «Шчэрбінскі мох» Аршанскага раёна. З уводам у эксплаатацыю гэтых і раду дробных торфмасіваў Віцебская вобласць зойме пасля Менскай адно з вядучых месц у тарфянай прамысловасці рэспублікі і амаль поўнасцю задаволіць патрэбы сваёй комунальнай гаспадаркі, прамысловасці, школ, больніц, устаноў і насельніцтва.

Тарфяныя багацці Магілеўскай вобласці да апошняга часу ляжаць някранутымі. Тысячы га тарфяных балот Бялыніцкага, Прапойскага, Хоцімскага, Клічаўскага і іншых раёнаў вобласці амаль не распрацоўваюцца. Кіраўнікі гэтых раёнаў баяцца, што з павелічэннем здабычы торфу на яго не знойдзецца спажыўцоў, тым часам як торф мала выкарыстоўваецца ў комунальнай гаспадарцы і яшчэ менш для апальвання школ, больніц і ўстаноў.

У непасрэднай блізасці ад Магілева ёсць сотні га тарфяных балот з глыбінёй залягання торфу ад 3 да 5 метраў. Гэтыя масівы таксама амаль не выкарыстоўваюцца, хоць горад адчувае вялікую патрэбу ў паліве.

Асабліва востра стаіць пытанне аб стварэнні паліўных баз на мясцовым торфе ў найбольш бязлесістых раёнах: Мсціслаўскім, Лоеўскім, Горацкім і іншых. Развіццё мясцовай паліўнай тарфянай базы паміма задавалення мясцовых патрэб дасць яшчэ і тую выгаду, што большая частка спажываемай на паліва драўніны можа быць скарыстана на пашырэнне выпуску мэблі і іншых вырабаў шырокага спажывання.

У Бабруйскім раёне ў трэцім пяцігоддзі намячаецца пабудова торфзаводаў «Туголіца» і «Рэдкі рог».

У Гомельскай вобласці намячаецца ўвод у эксплаатацыю торфараспрацовак «Голае» Добрушскага раёна, «Беліцкае» Рагачоўскага раёна, «Жарэбна-Конскае» Гомельскага раёна. Магутнасць торфза-

вода «Большэвік» неабходна давесці з 225 тыс. тон у 1938 г. да 325 тыс. тон у 1942 г. Аднак і гэтыя торфмасівы поўнасцю не забяспечаць горад Гомель і яго вобласць мясцовым палівам, і торф часткова прыдзецца ўвозіць з іншых абласцей рэспублікі.

На тэрыторыі Палескай вобласці знаходзіцца звыш 28 проц. усіх тарфяных рэсурсаў Беларусі. Але ў здабычы торфу вобласць займае ўсяго толькі 2,5 проц. Прыродныя багацці вобласці зусім слаба вывучаны. У 1939 г. намечана падцягнуць торфаздабычу па вобласці да 3,8 проц., а ў 1940 г. пачаць асваенне велізарнага тарфянага масіва «Васілевічы».

Побач з усямерным развіццём здабычы торфу ў трэцім пяцігоддзі трэба вырашыць задачу яго тэрмахімічнай перапрацоўкі. Першыя вопыты газіфікацыі торфу, праведзеныя Акадэміяй Навук БССР, далі станоўчыя вынікі. Зараз вядуцца вопыты па пераводу транспартнага парка з бензіна і карасіна на тарфянае паліва. Велізарнае народна-гаспадарчае значэнне маюць таксама вопыты па здабычы спірту з тарфянага ачосу.

У Сіроцінскім раёне неабходна прадугледзець будаўніцтва завода па штучнаму абязводжванню торфа, а ў Менскай вобласці—будаўніцтва аднаго-двух коксахімічных заводаў. Тарфяны кокс можа цалкам замяніць прывозны мінеральны з Данбаса і дарагі драўняны вугаль. Трэба таксама прадумаць пытанне аб будаўніцтве ў Магілеве камбінаванага завода па вытворчасці кокса і бытавога газа.

**Электрыфікацыя.** За годы двух сталінскіх пяцігодак энергагаспадарка Беларусі вырасла як колькасна, так і якасна. Але ўсё-ж яна з'яўляецца яшчэ найбольш вузкім месцам у нашай народнай гаспадарцы. Усе без выключэння прамысловыя цэнтры рэспублікі адчуваюць востры недахоп электраэнергіі: па раёну Белгрэс звыш 10 тыс. кіловат, па Менску 8 тыс., па Гомелю 4—5 тыс. і т. д. Асабліва слаба электрыфікавана паўднёвая частка Беларусі, што сказалася на яе эканоміцы. Палеская вобласць у прамысловым развіцці моцна адстала ад астатніх частак Беларусі.

Абсталяванне большасці электрастанцый (ГЭС № 1 у Менску, Бабруйская, Полацкая і інш.) вельмі зношана, з нізкім каэфіцыентам карыснага дзеяння.

На Белгрэс—буйнейшай электрастанцыі Беларусі—каэфіцыент карыснага дзеяння паліва складае ўсяго 15—20 проц. Інакш кажучы, мы атрымліваем у выглядзе электрычнасці толькі адну пятую частку паліўнай энергіі, або з кожнай тысячы тон торфу 800 спальваецца ў кацельнай Белгрэса марна.

У трэцім пяцігоддзі на электрыфікацыю БССР адпускаецца 185 мільёнаў рублёў, супроць 23 млн. у другой пяцігодцы. Гэтыя капіталаўкладанні даюць магчымасць давесці магутнасць электрастанцый з 87,4 тыс. кіловат-гадзін у 1937 г. да 189,4 тыс. кіловат у 1942 г.

Велізарныя тарфяныя рэсурсы рэспублікі дазваляюць карэнным чынам рэканструяваць існуючыя і стварыць новыя электрастанцыі. У Палескай вобласці на базе буйнейшага торфмасіва «Васілевічы» намячаецца будаўніцтва раённай станцыі магутнасцю ў 12 тыс. кіловат з уводам яе ў эксплаатацыю ў 1942 г. У раёне Барысава на базе Смалявіцкага торфмасіва намячаецца будаўніцтва электрастанцыі магутнасцю ў 12 тыс. кіловат.

Расшыраецца Менская ГЭС № 2 на 12 тыс. кіловат, Бабруйская—

на 3 тысячы, Слуцкая—на 2 тысячы, Гомельская—на 1,5 тысячы. У 1939 г. заканчваецца будаўніцтва Мазырскай электрастанцыі на 2,1 тыс. кіловат, коштам у 8 млн. рублёў.

У радзе гарадоў Беларусі будзе праведзена вялікая работа па цеплафікацыі прамысловасці і комунальнай гаспадаркі, што значна палепшыць электраснабжэнне, намнога знізіць сабекошт кіловат-гадзіны, палепшыць комунальнае абслугоўванне працоўных. У Менску пры расшырэнні электрастанцыі №2 будзе ўстаноўлен новы цеплафікацыйны турбагенератар на 6 тыс. кіловат, што дазволіць цеплафікаваць прылягаючыя да станцыі прамысловыя прадпрыемствы, установы, школы, дзетсады.

У Віцебску, у раёне Маркаўшчыны, намячаецца будаўніцтва ТЭЦ на 6 тыс. кіловат, што значна палепшыць электраснабжэнне горада і дасць магчымасць цеплафікаваць фабрыку «КІМ», фанерны завод і іншыя прадпрыемствы.

У Магілеве намячаецца пабудова ТЭЦ на 12 тыс. кіловат з затратамі ў 21 млн. рублёў. Расшыраецца ТЭЦ Магілеўскай фабрыкі штучнага шоўку. Цеплафікацыя Менска, Віцебска і Магілева за адзін толькі год дасць эканоміі 125—150 тыс. тон торфу або 6—7 млн. рублёў.

У рашэннях XVIII з'езда ВКП(б) вялікая ўвага ўдзелена будаўніцтву невялікіх мясцовых гідрастанцый.

Беларуская рэспубліка мае ўсе магчымасці для стварэння сеткі гідрастанцый невялікіх і сярэдніх магутнасцей. Даволі ўказаць, што ў нас звыш 500 вадзяных млыноў агульнай магутнасцю ў 10,5 тыс. конскіх сіл. Пры большасці гэтых млыноў можна з невялікімі затратамі пабудаваць гідрастанцыі ад 15 да 45 кіловат. На тэрыторыі БССР звыш 300 невялікіх рэк, не лічачы вялікіх. Пры рацыянальным выкарыстанні яны могуць даць не менш 600 тыс. кіловат энергіі для электрыфікацыі прамысловасці, сельскай гаспадаркі і раённых цэнтраў.

Будаўніцтва дробных і сярэдніх гідрастанцый у параўнанні з цеплавым дасць вялікі эканамічны эфект, бо захаваецца тысячы тон паліва.

Паралельна з дробнымі гідрастанцыямі неабходна прадугледзець будаўніцтва міжкалгасных гідраэлектрастанцый магутнасцю ў 100—500 квт., разлічаных на абслугоўванне 10—30 калгасаў.

**Прамысловасць будматэрыялаў.** На тэрыторыі нашай рэспублікі знаходзяцца багацейшыя запасы рознастайных глін, крэйды, даламітаў і іншых выкапняў. Аднак прамысловасць мясцовых будматэрыялаў ні па свайму геаграфічнаму размяшчэнню, ні па размерах здабывання сыравіны не здавальняе пастаўленых перад ёю задач.

Амаль тры чверці (74,4 проц.) усёй вытворчасці вапны ў рэспубліцы прыпадае на Віцебскую вобласць, у асноўным на Віцебскі і Аршанскі раёны, што выклікае значныя затраты на перавозкі і істотна адбіваецца на кошце вапны. Неабходна пабудаваць рад невялікіх механізаваных заводаў усюды, дзе ёсць рыхлыя крэйды, рэканструяваць вапенныя заводы ў Веткаўскім раёне, у Дзержынску, Быхаве, Касцюковічах, Вярхоўі і Левай Рубе. Тады выпуск вапны ў 1942 г. дойдзе да 141,8 тыс. тон.

Важнай праблемай з'яўляецца змякчэнне дэфіцытнасці цэменту. Замяніць цэмент у складаных растворах, у цагляных і бутавых

кладках пад вадой, пры штукатурцы і т. д. можа гідраўлічная вапна. У якасці сыравіннай базы для гэтай вытворчасці можна выкарыстаць крэйдавыя месцанараджэнні ў Клімавічах, што пацверджана даследаваннямі і поўзаводскімі іспытамі, праведзенымі Інстытутам прамысловасці.

Каб забяспечыць далейшае разгортванне будаўніцтва ў рэспубліцы, вытворчасць цэмента павялічваецца да 140 тыс. тон у 1942 г. замест 106 тыс. тон у 1937 г., чарапіцы—да 24 млн. штук супроць 6,8 млн. штук у 1938 годзе.

Неабходна наладзіць вытворчасць адмучанай крэйды, якая шырока прымяняецца ў шклянай, шпалернай, лінолеумнай, кабельнай, малочна-кіслотнай, патачнай прамысловасці, у вытворчасці газіраваных вод, у будаўнічай справе і т. д. Па падліках Белхімкіраўніцтва адна толькі шкляная прамысловасць спажывае 10—12 тыс. тон крэйды, шпалерная—2—2,5 тыс. тон, а ўсяго для БССР патрабуецца 30—40 тыс. тон крэйды. Тым часам Крычаўскі крэйдавы завод, які дае 5,2 тыс. тон, не можа задаволіць патрэбы нашай прамысловасці, і крэйду прыходзіцца ўвозіць з Украіны і Курскай вобласці. У БССР гэта вытворчасць можа быць шырока разгорнута. У першую чаргу трэба пабудаваць новы крэйдавы завод магутнасцю ў 10—15 тысяч тон на базе разведанага месцанараджэння Глушнёва, у 2—3 кіламетрах ад станцыі Крычаў.

Не лепш справа і з чарапіцай, 60 проц. вытворчасці якой сканцэнтравана ў Віцебскай вобласці. У 1939 г. Віцебская вобласць дасць 7 млн. чарапіцы, з якой 2—3,5 млн. штук пойдзе на мясцовыя патрэбы, а астатняя на вываз, што з'яўляецца зусім недапушчальным, улічваючы вялікую нерэнтабельнасць перавозак чарапіцы.

Белдзяржразведкай выяўлена, што гліна для вытворчасці чарапіцы ёсць у радзе месц рэспублікі: у Лупалаве ля Магілева, у Чырвоным Беразе Жлобінскага раёна, у Людзянівіцкім сельсовеце Жыткавіцкага раёна, у Белічах Парыцкага раёна, у Лясках Тураўскага раёна і т. д.

У 1939 г. саюзны ўрад адпусціў сродкі на пабудову 15 новых невялікіх чарапічных заводаў магутнасцю ў 150—300 тыс. штук. У далейшым будаўніцтва чарапічных заводаў пойдзе больш інтэнсіўна, каб у 1942 г. вытворчасць чарапіцы давесці да 25—30 млн. штук.

У трэцім пяцігоддзі неабходна прыступіць да комплекснага выкарыстання багацейшых месцанараджэнняў рознай мінеральнай сыравіны ў Лоеўскім раёне. У Гарадку, каля Лоева, адкрыты залежы ганчарнай гліны, якая можа быць з поспехам выкарыстана для вытворчасці каналізацыйных труб, метлахскіх плітак і агнятрывалай цэглы. Побач, каля пасёлка Салаўёва, залягаюць добраякасныя кварцавыя пяскі для вытворчасці шкла. На процілеглым беразе ракі Дняпра ёсць жалезістыя руды, з якіх можна здабыць мінеральныя фарбы: охру, сурык, мумію і інш.

Не менш актуальнай з'яўляецца вытворчасць абліцовачнай цэглы, якая замяняе дарагую знадворную штукатурку і надае будынку прыгожы выгляд. Неабходна палепшыць якасць і расшырыць вытворчасць керамікі на Менскім і Копыскім заводах, на базе копыскіх глін арганізаваць вытворчасць ліцавога матэрыяла тыпу тэракоты і маёлікі. Нарэшце, неабходна арганізаваць вытворчасць фібраліта, як добрага будаўнічага і ізаляцыйнага матэрыяла, і савеліта—для тэрмаізаляцыі.

**Металаапрацоўчая прамысловасць.** Машынабудаўнічая прадукцыя заводаў сістэмы Наркаммясцпрома БССР павінна значна вырасці як

за кошт выкарыстання ўнутрызаводскіх рэзерваў, так і за кошт дабсталявання і дабудовы прадпрыемстваў.

Бабруйскі машынабудаўнічы завод імені Сталіна павінен спецыялізавацца ў выпуску машын для тарфянай і цаглянай прамысловасці, а таксама гідраўлічных турбін сярэдняй і малой магутнасці. Ён ужо асвоіў 20 тыпаразмераў гідраўлічных турбін і па выпуску іх займае віднае месца ў Саюзе.

Магілеўскі трубаліцейны завод павінен наладзіць вытворчасць труб больш дробнага асартымента, расшырыць выпуск кровельнага жалеза, пабудаваць цэх эмаліраванай і чыгуннай пасуды і прадметаў комунальнай гаспадаркі з вытворчай праграмай у 2,5 тыс. тон у год.

Адным з важнейшых мерапрыемстваў павінна быць будаўніцтва пры заводзе імені Сталіна або «Чырвоны барэц» (Орша) цэха коўкага чыгуну. Гэтыя заводы вырабляюць запасныя часткі машын з шэрага чыгуну, больш цяжкага ў параўнанні з коўкім, што вядзе да вялікіх перавыдаткаў метала. Акрамя таго комунальная гаспадарка патрабуе для ўсё ўзрастаючага комунальнага і жыллёвага будаўніцтва злучальных фітынгаў, якія не могуць быць адліты з шэрага чыгуну. Вось чаму цэх для адліўкі і апрацоўкі фітынгаў трэба пабудаваць ва што-б там ні стала.

**Хімічная прамысловасць** Беларусі вельмі адстала ад іншых галін народнай гаспадаркі.

У трэцім пяцігоддзі значна павінен павысіцца выпуск фасфарытнай мукі: з 31,2 тыс. у 1937 г. да 60 тыс. тон у 1942 г.

Наяўнасць у БССР значнай колькасці смол дазваляе запраектаваць будаўніцтва завода па пераапрацоўцы смалы для атрымання больш каштоўных хімічных прадуктаў: парафіну, воску, фенолу, пеку і інш.

Для вытворчасці безалкагольных напіткаў намячаецца будаўніцтва цэха вадкай вуглекіслаты. Для атрымання натуральнага каучука прадугледжана будаўніцтва завода па пераапрацоўцы кок-сагыза.

Пры галантарэйнай фабрыцы імя Фрунзе ў Менску будзе арганізавана вытворчасць галаліта—400 тон у год. Асноўнай сыравінай для гэтай вытворчасці з'явіцца казеін.

Сярод іншых прадпрыемстваў, якія неабходна пабудаваць на Беларусі, назавем шарыкападшыпнікавы завод у Гомелі, завод буддэталяў, цэхі сухога прэсавання цэглы, цэх эмаліраванай пасуды, заканчэнне будаўніцтва Барысаўскай фабрыкі музыкальна-клавішных інструментаў, рэканструкцыя шклозавода імя Дзержынскага і абутковай фабрыкі імя Кагановіча.

Значна павінна ўзрасці ўдзельная вага кваліфікаваных галін дрэваапрацоўчай прамысловасці: папяровай, фанернай, запалкавай. У 1942 годзе вытворчасць паперы павялічыцца да 64,5 тысячы тон супроць 51,7 тысячы тон у 1937 г., фанеры—да 220 тысяч кубаметраў супроць 193,3 тысячы і запалак—да 3.157 тыс. скрынак супроць 1.889 тысяч.

Асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць асваенню багаццяў Палескай вобласці, якая, не гледзячы на значны гаспадарчы і культурны рост за годы двух сталінскіх пяцігодак, усё-ж моцна адстала ад прамысловага развіцця іншых абласцей рэспублікі. У валавой прадукцыі прамысловасці БССР удзельная вага Палескай вобласці складае толькі 4,1 проц., у той час як па тэрыторыі яна займае 20,2 проц. і па насельніцтву—звыш 12 проц. Пры сярэднім росце валавой прадук-

цыі буйнай прамысловасці БССР у 18 з лішнім раз супроць 1913 года буйная прамысловасць Палескай вобласці вырасла толькі ў 5,6 раза.

Ступень прамысловага выкарыстання сыравінных і энергетычных рэсурсаў вобласці недапушчальна нізкая. Палеская вобласць мае багацейшую сыравінную базу для дрэваапрацоўчай прамысловасці. Яе лясы займаюць каля 27,4 проц. усёй лясной плошчы БССР і 40,6 проц. усёй зямельнай плошчы вобласці. Тым часам дрэваапрацоўчая прамысловасць вобласці дае толькі 10,6 проц. валавой прадукцыі.

У вобласці зусім няма вытворчасці чарапіцы і вапны, хоць мясцовай сыравіны багата. Мясцовая прамысловасць наогул развіта слаба, асабліва прамысловасць кааперацыі. Удзельная вага іх, прыкладна,—6—7 проц. рэспубліканскай.

* * *

Клопаты аб народзе, аб задаволенні патрэбнасцей насельніцтва ляжаць у прыродзе соцыялістычнай дзяржавы. Партыя, яе сталінскі ЦК, савецкі ўрад усе свае сілы аддаюць на тое, каб нашаму рабочаму класу, нашаму сялянству, нашай інтэлігенцыі жылося з кожным днём усё лепш і весялей. І зусім не выпадкова тое, што з высокай трыбуны XVIII з'езда партыі віднейшыя палітычныя дзеячы нашай краіны, кіраўнікі партыі і ўрада побач з самымі важнымі праблемамі міжнароднага і ўнутранага становішча праніклівa гаварылі аб патрэбах совецкіх грамадзян, аб вялікім развіцці тавараў шырокага спажывання. У святле гэтых задач трэба каротка спыніцца на галінах прамысловасці, закліканых непасрэдна задавальняць насушчныя патрэбы працоўных, а іменна: лёгкай, харчовай і прамысловай кааперацыі.

**Лёгкая прамысловасць** Совецкай Беларусі за годы двух сталінскіх пяцігодак стала магутнай галіной народнай гаспадаркі. У трэцім пяцігоддзі яе праграма значна расшыраецца. Валавая прадукцыя прамысловасці Наркамлегпрома БССР у 1942 годзе складзе ( у нязменных цэнах 1926—27 гг.) звыш 448,9 млн. рублёў супроць 326,4 млн. у 1937 годзе—рост на 37,5 проц.

Прадукцыя **ільноапрацоўчай прамысловасці** з уводам у эксплаатацыю Аршанскага ільнокамбіната вырасце да 16 млн. метраў у 1942 г. супроць 1,8 млн. у 1937 г. Удзельная вага БССР па выпрацоўцы ільняных тканін павысіцца з 0,65 да 4,65 проц.

**Абутковая прамысловасць,** максімальна выкарыстоўваючы ўнутраныя вытворчыя рэзервы, павінна даць у 1942 г. 8.300.000 пар абутку супроць 5.800.000 пар у 1937 годзе. Абутковыя фабрыкі павінны паклапаціцца аб разнастайнасці асартыменту сваіх вырабаў, выпускаць зграбныя жаночыя і мужчынскія туфлі, бацінкі, спартыўны абутак, спецыяльныя фасоны дзіцячага і сезоннага абутку—сандаляў і сандалет.

Наша **Швейная прамысловасць** павінна рэзка палепшыць фасоннасць і якасць пашыву. Далейшая механізацыя і канвеерызацыя вытворчых працэсаў, паступовая замена ціхаходных швейных машын машынамі больш высокіх класаў створыць велізарныя магчымасці для росту прадукцыйнасці працы.

**Шкляная прамысловасць** рэспублікі мае багатую мясцовую базу для свайго далейшага развіцця. Неабходна палепшыць асартымент гатунковай пасуды, электраарматуры і каляровых вырабаў, максі-

мальна механізаваць працэсы вытворчасці, уводзячы машыны Лінча, поўаўтаматы Шылера і т. д.

**Харчовая прамысловасць** БССР у трэцяй пяцігодцы павялічыць валавую прадукцыю ў 1,5 раза. Значна павялічыцца выпуск булачных і кандзіцерскіх, мясных і каўбасных вырабаў. Забяспечваецца далейшы рост хлебапячэння, масладзельна-малочнай прадукцыі, улову рыбы. У Лепелі, Магілеве і Слуцку будуюцца хлебазаводы, у Магілеве—мясакамбінат.

Перад **саматужна-прамысловай кааперацыяй** Беларусі стаіць адказная задача—павялічыць вытворчасць прадметаў шырокага спажывання, палепшыць і расшырыць іх асартымент, усямерна выкарыстоўваючы мясцовыя віды сыравіны; шырока разгарнуць сетку рамонтных майстэрань, пунктаў індывідуальнага пашыву, пральняў, фарбоўняў і т. д.

Выступаючы на XVIII з'ездзе ВКП(б), тав. Мікаян сказаў:

> «Можна зрабіць так, каб людзі маглі працаваць на службе і маглі-б дома абыходзіцца без вялікіх клапот па прыгатаванню ежы і па хатняй гаспадарцы... Што для гэтага патрабуецца нам зрабіць?..
>
> Трэба разгарнуць сетку грамадскіх пральняў і хімічнай чысткі адзежы, рамонтныя майстэрні для абутку, майстэрні для прасавання адзежы і т. д.
>
> Прамысловая каперацыя Беларусі мае вялікія магчымасці і ўсе ўмовы для таго, каб па-сапраўднаму, па-большэвіцку справіцца з задачамі ўсямернага задавалення патрэб савецкіх шчаслівых грамадзян».

Сельская гаспадарка БССР яшчэ з большай інтэнсіўнасцю будзе развіваць тэхнічныя культуры (лён, кок-сагыз, каноплі і інш.), высокапрадукцыйную жывёлагадоўлю, гародніна-бульбяную гаспадарку. Яна даб'ецца велізарных зрухаў у барацьбе за падваенне ўраджайнасці, за высокаякасную навуковую стаханаўскую агратэхніку, за асваенне новых зямель, за высокую прадукцыйнасць працы.

* * *

Развіццё прадукцыйных сіл у нашай краіне адбываецца ва ўмовах капіталістычнага акружэння і растучай небяспекі нападу на Савецкі Саюз. Адсюль выцякае настойлівая неабходнасць стварыць буйныя дзяржаўныя рэзервы паліва, электраэнергіі, некаторыя абаронныя галіны вытворчасці, каб у любых умовах забяспечыць бесперабойны ўздым гаспадаркі.

Тав. Молатаў у сваім дакладзе падкрэсліў, што рэзервы трэба не толькі стварыць, але і правільна размясціць іх па нашай велізарнай тэрыторыі, каб пазбегнуць непрадукцыйных і дальных перавозак і забяспечыць асноўныя эканамічныя ачагі краіны максімальнай колькасцю рэсурсаў на месцы.

Пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, вялікага правадыра, настаўніка і друга—таварыша Сталіна—беларускі народ разам з усімі народамі краіны Саветаў будзе змагацца ў трэцяй пяцігодцы за далейшы росквіт соцыялістычнай прамысловасці сельскай гаспадаркі і культуры, за ўмацаванне абараназдольнасці краіны, за поўнае завяршэнне будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Беларускі народ выканае і перавыканае гістарычныя задачы Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі.

---

П. Ладыжын

# Друк—рашаючая зброя прапаганды

Друк—самая вострая, самая магутная зброя ў руках большэвіцкай партыі.

> «Друк,—па класічнаму вызначэнню таварыша Сталіна,—адзіная зброя, пры дапамозе якой партыя штодзенна, штогадзінна гаворыць з рабочым класам на сваёй, патрэбнай ёй мове. Другіх сродкаў працягнуць духоўныя ніці паміж партыяй і класам, другога такога гібкага апарата ў прыродзе няма».

У годы цяжкага падполля большэвіцкія газеты і лістоўкі вялі жорсткую барацьбу з азвярэлым самадзяржаўем. У час грамадзянскай вайны большэвіцкі друк натхняў байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі на гераічныя ўчынкі. Як толькі былі разгромлены і выгнаны з совецкай зямлі полчышчы белагвардзейцаў і інтэрвентаў, наша краіна прыступіла да мірнага будаўніцтва. Агністыя словы большэвіцкай друкаванай прапаганды запальвалі шматмільённы совецкі народ энтузіязмам будаўніцтва, выклікалі цуды працоўнага гераізма на рыштаваннях фабрык і заводаў, у шахтах, на соцыялістычных палях.

У годы двух сталінскіх пяцігодак друк пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў на чале з вялікім Сталіным бязлітасна выкрываў і граміў асіныя гнёзды ворагаў народа: трацкісцка-бухарынскіх, нацыянал-фашысцкіх шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў, якія прадаліся япона-германа-польскім фашысцкім разведкам.

Вялікая сіла большэвіцкага друку асабліва праявілася ў перыяд выбараў у Вярхоўны Совет СССР і ў Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных рэспублік. У дні перавыбарчай кампаніі наш друк выступаў, як магутны калектыўны агітатар, прапагандыст і арганізатар найшырэйшых мас насельніцтва, актыўна спрыяючы бліскучай перамозе сталінскага блока комуністаў і беспартыйных.

Роля большэвіцкага друкаванага слова нязмерна ўзрастае пры вырашэнні задач, пастаўленых у дакладзе таварыша Сталіна і ў рашэннях XVIII з'езда ВКП(б).

З трыбуны гістарычнага XVIII з'езда партыі вялікі Сталін разгарнуў яркую карціну поўнага трыумфа генеральнай лініі нашай партыі, намеціў новы этап у развіцці нашай краіны—этап паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма.

І няма цяпер у нашай партыі больш важнай задачы, як арганізацыя ўсенароднага вывучэння матэрыялаў і рэшэнняў XVIII з'езда ВКП(б), як шырокая агітацыйна-прапагандысцкая работа па мабілі-

зацыі шырокіх мас працоўных на няўхільнае і цвёрдае правядзенне ў жыццё гэтых гістарычных рашэнняў.

Асвятленне вынікаў другой і задач трэцяй пяцігодкі, вырошчванне вытворчых кадраў, вылучэнне новых работнікаў—партыйных і непартыйных большэвікоў, далейшае разгортванне стаханаўскага руху, умацаванне працоўнай дысцыпліны, прапаганда рэволюцыйнай тэорыі марксізма-ленінізма, комуністычнае выхаванне працоўных, бязлітаснае выкрыццё ворагаў народа—вось той далёка не поўны круг пытанняў, над якімі павінен працаваць наш большэвіцкі друк у імя практычнага ажыццяўлення гістарычных рашэнняў XVIII партыйнага з'езда.

Комуністычнае выхаванне працоўных, перамаганне перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей—будаўнікоў комунізма—у сучасных умовах з'яўляецца важнейшай палітычнай задачай.

XVIII з'езд ВКП(б) падкрэсліў, што цяпер, калі СССР уступіў у новую паласу развіцця—у паласу завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма, «рашаючае значэнне набывае справа комуністычнага выхавання працоўных, перамаганне перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей—будаўнікоў комунізма».

Трэба памятаць, што поўны трыумф комунізма ў нашай краіне залежыць іменна ад паспяховага вырашэння гэтай задачы.

У рашэнні ЦК ВКП(б) «Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» гаворыцца:

> «У прапагандзе марксізма-ленінізма галоўнай, рашаючай зброяй павінен з'яўляцца друк—журналы, газеты, брашуры, а вусная прапаганда павінна займаць падсобнае, дапаможнае месца. Друк дае магчымасць тую ці іншую ісціну адразу зрабіць здабыткам усіх, ён таму мацней вуснай прапаганды».

Таварыш Сталін у сваім дакладзе на XVIII з'ездзе ВКП(б) яшчэ раз падкрэсліў усю важнасць выхавання членаў партыі ў духу марксізма-ленінізма, павышэння іх палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню.

> «Задача партыйнай прапаганды,—указваў тав. Сталін,—задача марксісцка-ленінскага выхавання кадраў заключаецца ў тым, каб дапамагчы нашым кадрам усіх галін работы авалодаць марксісцка-ленінскай навукай аб законах развіцця грамадства».

Партыя Леніна—Сталіна ўзняла ролю большэвіцкага друку на небывалую вышыню. Указанні таварыша Сталіна аб велізарным значэнні нашага друку ў справе марксісцка-ленінскага выхавання кадраў, у фарміраванні соцыялістычнай свядомасці людзей—баявая праграма разгорнутай дзейнасці ўсяго большэвіцкага друку. Страсная і ўдумчывая, умелая і глыбокая прапаганда вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна—асноўны змест яго работы.

Друк у нашай краіне вырас у магутную, непераможную сілу.

У былой царскай Расіі ў 1913 годзе выдавалася ўсяго 850 газет з разавым тыражом у 2.729 тыс. экземпляраў. У СССР у 1938 годзе выходзіла 8.550 газет з разавым тыражом у 37,5 мільёна экземпляраў. Такім чынам, колькасць газет вырасла ў 10, а тыраж у 14 раз.

За годы савецкай улады выдана каля 400 мільёнаў экземпляраў твораў Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна. Твораў Леніна за гэты

перыяд вышла 117,3 мільёна экземпляраў, твораў Сталіна—240,6 мільёна экземпляраў. «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» вышаў тыражом каля 14 мільёнаў экземпляраў. У мільённых тыражах выданы і выдаюцца даклады на XVIII з'ездзе ВКП(б). Даклад таварыша Сталіна выпушчан тыражом у 15 мільёнаў, даклад тав. Мануільскага—у 5 млн. экз. Вялікімі тыражамі вышлі прамовы членаў Палітбюро ЦК ВКП(б) тт. Андрэева, Варашылава, Кагановіча, Мікаяна, Калініна, Хрушчова.

Безупынна расце і развіваецца наш рэспубліканскі друк. У 1913 годзе на Беларусі выдавалася ўсяго 19 газет. У 1939 годзе ў БССР выдаецца 180 друкаваных газет, у тым ліку: 9 рэспубліканскіх, 4 абласныя, 90 гарадскіх і раённых, 77 фабрычна-заводскіх шматтыражных газет.

Гадавы тыраж друкаваных газет БССР складае 159,2 мільёна экземпляраў.

Выдаюцца 7 журналаў, 2 комсамольскія рэспубліканскія газеты тыражом у 9 млн. экз., піонерская газета, дзіцячы ілюстраваны журнал, шматлікая маладзёжная і дзіцячая літаратура.

На заводах і фабрыках, у совецкіх дзяржаўных і навучальных установах, у соўгасах, калгасах і МТС Беларусі выходзіць каля 15 тысяч насценных газет.

У СССР шырока распаўсюджваюцца творы класікаў сусветнай літаратуры. З 1917 па 1938 год творы В. Гюго выданы тыражом у 3,5 млн. экз., Мопасана—больш 3 млн. экз., Р. Ролана—каля 2 млн. экз., Бальзака—каля 15 млн. экз., Шэкспіра—звыш 1 млн. экз., Гейне—каля 1 млн. экз. Мільённымі тыражамі выданы творы Пушкіна, Талстога, Лермантава, Гогаля, Салтыкова-Шчэдрына і іншых вялікіх рускіх пісьменнікаў. Кнігі, газеты і журналы ў СССР выдаюцца на 111 мовах, а да Кастрычніцкай рэволюцыі яны выходзілі толькі на 24 мовах.

Кніжная прадукцыя займае пачэснае месца і ў БССР. У 1938 г. выпушчана 12,3 млн. кніг. У 1939 годзе будзе выпушчана звыш тысячы назваў агульным тыражом у 14 млн. экз. З года ў год расце выданне класікаў марксізма-ленінізма. Толькі за годы 1934—37 на беларускай мове выдана 158 назваў твораў Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна.

У СССР з года ў год расце колькасць бібліятэк, якія сталі сапраўднымі ачагамі культуры. З кожным днём узрастае падпіска на кнігі, газеты, журналы. У Совецкім Саюзе няма такога кутка, куды-б не даходзіла бальшэвіцкая прэса. Друк у нашай краіне стаў сапраўдным здабыткам народа. Са зброі класавага і нацыянальнага прыгнечання, якім ён быў пры царскім ладзе, друк у СССРператвараецца ў сродак комуністычнага выхавання і арганізацыі мас на барацьбу за канчатковую пабудову комуністычнага грамадства.

Задача нашага друку—стаць вастрэйшаю зброяй марксізма-ленінізма, усесаюзнай трыбунай прапаганды.

Рад раённых газет добра спраўляецца са сваімі задачамі. Наша рэспубліка дабілася значных поспехаў у развіцці сельскай гаспадаркі. Саюзны ўрад узнагародзіў ордэнамі і медалямі 303 перадавікоў соцыялістычнай сельскай гаспадаркі Беларусі. У дасягненні гэтых поспехаў вялікую ролю адыграў наш бальшэвіцкі друк, які сістэматычна асвятляў ход соцспаборніцтва ў барацьбе за высокі ўраджай, перадаваў вопыт перадавых, падцягваў адстаючых. 17 раённых га-

зет нашай рэспублікі зацверджаны кандыдатамі на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку. Сярод іх: Заслаўская, Лепельская, Любаньская, Полацкая, Прапойская, Талачынская, Тураўская, Слуцкая, Смалявіцкая, Старадарожская, Шклоўская і інш. Акрамя таго, на выстаўцы будуць экспаніравацца 24 соўгасна-калгасныя насцен-газеты.

Амаль усе газеты нашай рэспублікі спаборнічаюць паміж сабою на лепшую пастаноўку работы, каб заваяваць права ўдзелу ва Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы ў будучым годзе.

Аднак, мы не можам зараз сказаць, што ўсе газеты нашай рэспублікі з гонарам апраўдваюць сваё высокае прызначэнне.

Некаторыя газеты не ўмеюць папулярызаваць лепшы вопыт работы перадавых людзей нашай краіны. Напрыклад, газета «Комунар Магілеўшчыны». Калі саюзны ўрад узнагародзіў ордэнамі і медалямі 58 перадавікоў сельскай гаспадаркі Магілеўскай вобласці, газета не паклапацілася аб тым, каб шырока асвятліць іх вопыт. Яна абмежавалася толькі кароценькай заметкай інфармацыйнага характару.

Газета «Віцебскі рабочы» часта друкуе аб'явы і інфармацыі аб лекцыях, кансультацыях, тэарэтычных канферэнцыях, але чытачы не знаходзяць на яе старонках грунтоўнага тэарэтычнага артыкула ў сувязі з самастойным вывучэннем «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)», амаль нічога не гаворыцца аб якасці лекцый і кансультацый, аб іх змесце і ідэйна-палітычным узроўні. І зусім не дзіўна, што ў некаторых клубах горада ў якасці лектароў выступалі халтуршчыкі.

На старонках рэспубліканскіх, раённых і шматтыражных газет асаблівае месца павінны займаць пытанні жыцця і работы нашай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота, пытанні абаронна-масавай работы.

Паасобныя газеты пачалі сістэматычна асвятляць жыццё Чырвонай Арміі. Так газета Чырвонаслабодскага раёна «Калгаснік на рубяжы» адвяла спецыяльны куток, прысвечаны пытанням абароннай работы, яна мае вялікі актыў асоавіяхімаўцаў. Але не мала газет, асабліва абласных, пытаннямі абаронна-масавай работы займаюцца бессістэмна, выпадкова. У газеце «Большэвік Палесся» большасць матэрыялаў на абаронныя тэмы належыць адным і тым-жа аўтарам, слаба асвятляецца жыццё армейскіх партыйных і камсамольскіх арганізацый. Гэты прабел трэба безадкладна запоўніць, памятаючы, што выхаванне мас у духу мабілізацыйнай гатоўнасці да абароны соцыялістычнай радзімы—важнейшы абавязак большэвіцкага друку.

Правадыры нашай партыі—Ленін і Сталін выключную ўвагу ўдзялялі кіраўніцтву друкам, выхаванню большэвіцкіх кадраў.

Але ці можна сказаць, што ўсе нашы газеты па-ленінску ўзорна ўмеюць будаваць аддзелы партыйнага жыцця? Орган праўлення Саюза Совецкіх Пісьменнікаў—газета «Літаратура і Мастацтва» за ўвесь мінулы год і 5 месяцаў гэтага года змясціла толькі 4 заметкі на партыйныя тэмы. Вельмі слаба асвятляюць пытанні партыйнага жыцця многія нашы раённыя газеты, як напрыклад капаткевіцкая «Большэвік», васілевіцкая «Соцыялістычная праца», брагінская «Трыбуна калгасніка». Тлумачыцца гэта не толькі дрэннай работай рэдакцый, але таксама і слабым кіраўніцтвам раённых камітэтаў партыі. Лельчыцкі райком партыі не толькі не дапамагае газеце працаваць, але адцягвае работнікаў рэдакцыі ад іх непасрэднай ра-

боты, рассылаючы па раёну для правядзення розных гаспадарчых кампаній. Такое-ж «аператыўнае» кіраўніцтва і клопаты аб сваіх газетах праяўляюць Заслаўскі і іншыя райкомы партыі.

Пастанова ЦК ВКП(б) «Аб асвятленні ў газетах пытанняў партыйнага жыцця» абавязвае ЦК кампартый саюзных рэспублік, крайкомы і абкомы забяспечыць сістэматычны ўдзел абласнога, раённага нізавога партыйнага актыва ў газетах у якасці аўтароў заметак і артыкулаў па пытаннях жыцця партыйных арганізацый.

Неабходна дабіцца, каб усе нашы газеты няўхільна выконвалі гэту пастанову. Аддзел «Партыйнае жыццё» павінен заняць вядучае месца, узнімаць актуальнейшыя пытанні партыйнага жыцця, глыбей і ярчэй асвятляць іх. Для работы ў ім трэба падабраць самых лепшых, адданых партыйцаў, якія маглі-б згуртаваць вакол газеты моцны аўтарскі актыў з ліку таварышоў, вылучаных на кіруючыя пасты ў дзяржаўны і партыйны апараты.

Баявой праграмай усёй далейшай работы нашага большэвіцкага друку з'яўляецца даклад таварыша Сталіна і гістарычныя рашэнні XVIII з'езда ВКП(б).

Выключна адказны і пачэсны задачы, якія стаяць перад усімі нашымі газетамі і журналамі ў справе мабілізацыі калгасных мас на дакладнае і няўхільнае выкананне пастаноў майскага (1939 г.) пленума ЦК ВКП(б).

Асноўная маса калгаснікаў з велізарным уздымам і натхненнем сустрэла пастанову ЦК ВКП(б) і Соўнаркома СССР «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгаснікаў ад разбазарвання». Масы перадавых калгаснікаў апалчыліся супроць носьбітаў рвацкіх тэндэнцый і прыступілі ўжо да навядзення парадку ў калгасах.

Рашэнні пленума ЦК ВКП(б) з'яўляюцца баявой праграмай партыі ў калгасным будаўніцтве. Яны накіраваны на ўмацаванне сельскагаспадарчай арцелі, як асноўнай формы калгаснага руху на даным этапе. Гэтыя рашэнні высоўваюць новыя задачы ў галіне прапаганды і агітацыі. Наш друк павінен разгарнуць шырокую прапаганду сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі, узмацніць масава-палітычную і агітацыйную работу сярод насельніцтва, расказаць калгаснікам аб тых клопатах і ўвазе, якія праяўляе наша партыя і асабіста таварыш Сталін да калгаснікаў, мабілізаваць масы на рашэнне адказнейшай задачы па ссяленню двароў калгаснікаў, пражываючых на былых участках хутарскіх зямель, у калгасныя сяленні, мабілізаваць масы на ўзорную падрыхтоўку і правядзенне ўборачнай кампаніі.

Работнікам совецкага друку даверана магутная зброя, з дапамогаю якой партыя кіруе масамі. Таму ад кожнага газетнага работніка патрабуецца глыбокае веданне тэорыі марксізма-ленінізма, каб пабольшэвіцку змагацца за ператварэнне ў жыццё рашэнняў гістарычнага XVIII з'езда партыі, за поўны трыумф комунізма.

# КАНСУЛЬТАЦЫЯ

І. Лочмель

## Вызваленне Беларусі ад белапольскіх акупантаў

Беларускі народ у мінулым перанёс многа гора і пакут ад іншаземных і «сваіх» прыгнятальнікаў. У перыяд XVI—XVIII вв. беларускі народ знаходзіўся пад цяжкім ярмом польскіх паноў. Польскае ўладарніцтва было найбольш цяжкім у гісторыі Беларусі. Панская Польшча прыгнятала таксама Украіну, а ў XVI—XVII стагоддзі імкнулася заняволіць і рускі народ. Беларускі народ у цеснай сувязі з брацкімі рускім і украінскім народамі вёў гераічную барацьбу супроць сваіх заклятых ворагаў—польскіх паноў.

Польшча ў канцы XVIII века была знішчана як дзяржава. Беларускі народ з'яднаўся з родственным па мове, культуры і гістарычнаму мінуламу рускім народам, але трапіў пад гнёт рускага царызма, які прыгнятаў яго больш сотні год. Рабочыя і сяляне Беларусі разам з рабочымі і сялянамі ўсёй Расіі вялі барацьбу супроць самадзяржаўя, супроць памешчыкаў і капіталістаў. Рускі рабочы клас, як найбольш перадавы і арганізаваны адыгрываў кіруючую ролю ў гэтай барацьбе.

Рабочыя і сяляне Беларусі, сумесна з рабочымі і сялянамі ўсёй Расіі, пад кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна ў кастрычніку 1917 года зверглі ўладу буржуазіі і памешчыкаў і ўстанавілі сваю савецкую ўладу.

Беларускі народ пры брацкай дапамозе рускага і украінскага народаў, пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў разграміў у 1918 годзе нямецкіх інтэрвентаў.

30—31 снежня 1918 года VI Паўночна-Заходняя канферэнцыя РКП(б), якая па прапанове тав. Сталіна аб'явіла сябе I з'ездам КП(б)Б, ажыццяўляючы ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, выказалася за стварэнне Беларускай Савецкай Социялістычнай Рэспублікі.

Маніфестам 1 студзеня 1919 г., адрэдагаваным тав. Сталіным, агалошана была БССР. ЦВК РСФСР спецыяльнай пастановай прызнаў незалежнасць Беларускай Савецкай Социялістычнай Рэспублікі. Першы Усебеларускі З'езд Советаў у пачатку лютага 1919 г., свабодна выражаючы волю беларускага народа, выказаўся за ўстанаўленне федэратыўнай сувязі з брацкай рэспублікай—РСФСР.

Такім чынам, толькі ў выніку перамогі вялікай Кастрычніцкай социялістычнай рэволюцыі беларускі народ, упершыню ў гісторыі, атрымаў сваю дзяржаўнасць. Творцамі дзяржаўнасці беларускага народа з'яўляюцца вялікія правадыры працоўных усяго свету—Ленін і Сталін.

Маладая Беларуская Савецкая Социялістычная Рэспубліка з па-

чатку 1919 г. прыступіла да арганізацыі гаспадарчага будаўніцтва, да замацавання совецкай улады і арганізацыі ваенных сіл для абароны ад насядаўшых з усіх бакоў ворагаў. Працоўныя Беларусі прымалі актыўны ўдзел у разгроме першага і другога паходаў Антанты.

У пачатку 1919 г. на Совецкую Беларусь пачала наступаць панская Польшча.

Польскія паны і імперыялістычная буржуазія строілі шырокія заваёўчыя планы: аўладаць Літвой, Беларуссю, Украінай, а ў выпадку ўдачы захваціць і рускія землі, задушыць совецкую ўладу і надзець панска-капіталістычнае ярмо на шыю беларускага і украінскага народа. Выгнаныя з Беларусі вялікай Кастрычніцкай рэволюцыяй польскія паны марылі аб звароце страчаных маёнткаў і ўлады над беларускімі і украінскімі сялянамі. Паводле вылічэння польскіх буржуазных эканамістаў, польскія памешчыкі і буржуазія да рэволюцыі мелі зямельнай уласнасці: у Ковенскай і Віленскай губернях 57 проц., у Менскай і Віцебскай—50, у Магілеўскай—35, у Падольскай, Валынскай і Кіеўскай—каля 50 проц.

В. І. Ленін, выкрываючы планы польскіх імперыялістаў пісаў, што «імкненні польскай буржуазнай рэспублікі накіроўваліся не толькі на Літву і Беларусь, але і на Украіну. Акрамя таго, яе штурхае ў гэтым-жа напрамку старая спрадвечная барацьба Польшчы, якая ў свой час была вялікай дзяржавай і якая зараз процістаўляецца вялікай дзяржаве—Расіі. Гэту старую спрадвечную барацьбу Польшча не можа пакінуць і ў цяперашні час» *). Значыць, польскія захватчыкі рыхтаваліся паўтарыць паход 1610—1612 гг. на Маскву.

Зразумела, сама па сабе Польшча не прадстаўляла сур'ёзнай сілы. Але справа ў тым, што Польшча выступала супроць совецкай Расіі па заданню Антанты і перш за ўсё Францыі. В. І. Ленін указвае, што Польшча, у адрозненне ад іншых заходніх суседзяў совецкай рэспублікі (Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі) мела ўласныя імперыялістычныя мэты, а таму «калі на якую-небудзь з дзяржаў, якія захоўваюць буржуазны лад, мяжуюць з Расіяй, можа разлічваць Антанта ў працягла складзеным плане ваеннага ўмяшання, то толькі на Польшчу» **). Антанта выстаўляла Польшчу ў якасці жандарма супроць Совецкай Расіі, і наступленне Польшчы з'яўлялася складанай часткай яшчэ першага і другога паходаў Антанты. Польшчу багата забяспечвалі грашыма, зброяй і ваеннымі прыпасамі яе імперыялістычныя гаспадары. За час з лістапада 1918 і да пачатку 1920 года Польшча атрымала ад Антанты 185 тыс. вінтовак, 5 тыс. станкавых і ручных кулямётаў, 120 танкаў, 300 гармат, 135 самалётаў і інш. З красавіка 1920 года і да канца вайны Антанта дала Польшчы дадаткова 2.800 кулямётаў, 1.500 гармат, 520 млн. патронаў і інш.

Галоўныя ваенныя сілы Совецкай Расіі былі накіраваны на асноўныя фронты рэспублікі: на ўсходні, а потым на паўднёвы. На заходнім фронце чырвоных войск было мала. Добра забяспечаныя і ўзброеныя белапольскія войскі, карыстаючыся велізарнай колькаснай перавагай, прасоўваліся ўперад, не гледзячы на гераічнае супраціўленне совецкіх войск. У сакавіку 1919 г. белапалякі акупіравалі значную частку Гродненскай губерні, а ў пачатку красавіка ўступілі ў Віленскую губерню. 21 красавіка аўладалі Вільнай.

Захапіўшы Вільна, белапалякі наступалі далей: на Свенцяны, Мала-

*) Ленін, т. XXV, стар. 482.

**) Там-жа.

дзечна і Баранавічы. 10 мая яны занялі Смаргонь, 16 мая—Нова-Свенцяны. Совецкі ўрад Літоўска-Беларускай рэспублікі ў красавіку месяцы ўвёў ваеннае становішча.

Гераічнымі намаганнямі Чырвоная Армія і батальёны добраахвотнікаў стрымлівалі націск пераважаючага па сіле праціўніка. У красавіку 1919 г. белапалякі павялі ўзмоцненае наступленне на Баранавічы і стварылі пагрозу Менску. Але Чырвоная Армія моцным контрударам адбіла праціўніка. У сярэдзіне мая зноў насталі трывожныя дні: непрыяцель прарваў фронт каля Пастаў і Варапаева, стварыўшы пагрозу чыгуначнай лініі Полацк—Маладзечна. Гераічная Чырвоная Армія выратавала становішча і на гэты раз. У безупынным напружанні і трывозе праходзілі дні, тыдні, месяцы, але Менск мужна і стойка трымаўся.

Ленінскі Цэнтральны Камітэт партыі большэвікоў і ўрад Совецкай Расіі аказвалі вялікую ваенную і арганізацыйна-палітычную дапамогу працоўным Беларусі ў іх мужнай барацьбе супроць польска-панскай навалы і кіравалі абаронай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі Беларусі і Літвы. Правадыры рэволюцыі Ленін і Сталін з вялікімі клопатамі і ўвагай адносіліся да мужнага беларускага народа і заўсёды ў цяжкія моманты аказвалі вялікую дапамогу Беларускай Совецкай Рэспубліцы.

У 1919 г. на Беларусі стварылася цяжкае харчовае становішча. Рабочыя Менска і іншых гарадоў галадалі. Для Чырвонай Арміі таксама не хапала хлеба і харчавання.

В. І. Ленін 3 чэрвеня 1919 г. паслаў тэлеграму ў Кіеў Наркомпроду Украіны:

> «Нарады для беллітарміі*) і наогул Наркомпрод літбел..**) Менск вельмі прашу не затрымліваць і накіроўваць па прызначэнню ў Менск, усяляк паскараць. Затым трэба ўзмацніць дапамогу Петраграду. Вельмі прашу два разы ў тыдзень тэлеграфіраваць мне аб фактычным выкананні абодвух заданняў.
>
> Старшыня Соўнаркома Ленін***).

Дзякуючы брацкай дапамозе Украіны, харчовае становішча Беларусі к ліпеню некалькі палепшылася. Прэзідыум Совета профсаюзаў паведаміў 18 ліпеня 1919 г. аб павелічэнні хлебнага пайка для рабочых гор. Менска да поўфунта ў дзень. Да гэтага часу рабочыя атрымлівалі $^1/_4$ фунта, ды і то не заўсёды.

У ліпені 1919 г., пасля разгрому банд Юдзеніча пад Петраградам, на Беларусь прыбыў таварыш Сталін—член Рэвваенсовета Заходняга фронта—для арганізацыі барацьбы. Тав. Сталін наведаў Менск. Дэтальна азнаёміўшыся са становішчам на фронце, ён даў кіруючыя ўказанні адносна абароны чырвонай сталіцы Беларусі.

У чэрвені 1919 г. старшыня ВЦВК РСФСР М. І. Калінін выехаў на Заходні фронт з агітпоездам «Октябрьская революция». Галоўнай задачай гэтай паездкі было аказанне дапамогі ў абароне БССР і практычным ажыццяўленні дэкрэта аб аб'яднанні совецкіх рэспублік. Паездка працягвалася 22 дні. Тав. Калінін пабываў у Віцебскай, Менскай, Магілеўскай і Гомельскай губернях. Найбольш працяглыя астаноўкі былі ў Віцебску, Оршы, Магілёве, Жлобіне, Гомелі, Бабруйску

*) Літоўска-беларускай арміі.
**) Літоўска-Беларуская Совецкая рэспубліка.
***) Ленінскі зборнік XXIV.

і Менску. Тут арганізоўваліся аб'яднаныя пасяджэнні ўсіх совецкіх партыйных і профсаюзных арганізацый, масавыя мітынгі, на якіх з гарачымі словамі выступаў тав. Калінін. У поездзе былі прадстаўнікі ўсіх народных камісарыятаў, якія знаёміліся на месцы з пастаноўкай справы кіраўніцтва і гаспадарчага будаўніцтва.

М. І. Калінін правёў велізарную арганізацыйную, палітычную і культурную работу на Беларусі. За час паездкі распаўсюджана было літаратуры на сотні тысяч рублёў, агітпоездам выпушчана 10 нумароў газеты тыражом каля 100 тыс. экземпляраў. Праведзена 78 мітынгаў, на якіх М. І. Калінін выступіў 68 раз.

У Бабруйску тав. Калінін выступіў на 8 мітынгах, у якіх прынялі ўдзел дзесяткі тысяч чалавек. На агульна-гарадскім мітынгу ў Бабруйску тав. Калінін закончыў прамову словамі:

> «Велізарныя запасы творчай сілы, якія тояць у сабе рабоча-сялянскія масы, усяляюць упэўненасць, што царства соцыялізма бясспрэчна будзе ўмацавана і нашы пакаленні ўжо будуць адчуваць усе прэлесці соцыялізма» *).

20 чэрвеня агітпоезд прыбыў у Менск. Велізарныя масы працоўных віталі тав. Калініна на вакзале. На плошчы Свабоды тав. Калінін сказаў прамову перад 15.000 дзяцей—вучняў школ. У гонар тав. Калініна адбыўся парад рабочага палка і усеабуча. Вечарам тав. Калінін выступіў з прамовай на аб'яднаным пасяджэнні ЦВК ССР Л. і Б. Менскага совета, праўленняў профсаюзаў і фабрычна-заводскіх камітэтаў па пытанню аб аб'яднанні Совецкіх рэспублік.

> «Я не сумняваюся,—заявіў тав. Калінін,—што ва ўсе цяжкія моманты на Заходнім фронце Расія будзе вас абараняць».

Рабочыя і сяляне Беларусі на ўсім шляху следвання агітпоезда сустракалі тав. Калініна велізарным уздымам рэволюцыйнага энтузіязма. Палітком агітпоезда ў тэлеграме В. І. Леніну паведамляў:

> «Праезд поезда «Октябрьская революция» на чале з тав. Калініным па губернскіх гарадах і паветах Заходняга края выклікае ўздым рэволюцыйнай энергіі, гатоўнасць усіх слаёў насельніцтва абараняць совецкую ўладу; месцамі поезд сваёй арганізацыйнай работай, абследаваннем усіх устаноў і агітацыяй, забяспечваючы на сотні тысяч літаратурай, упершыню закладываў фундамент совецкай ўлады, практычна ўкараняючы ў свядомасць гарадскога і сялянскага насельніцтва прынцыпы Кастрычніцкай рэволюцыі».

Тым часам вораг наступаў. Полчышчы Дзенікіна чорнаю хмарай насоўваліся з поўдня на сэрца Совецкай рэспублікі—Маскву. Паўднёвы фронт прыцягнуў галоўную ўвагу совецкай краіны. Польскія інтэрвенты, карыстаючыся гэтым, з пачатку ліпеня ўзмацнілі націск на Заходнім фронце. Пала Маладзечна, а затым Радашковічы. У горадзе чутна стала артылерыйская кананада. На подступах к Менску ішлі ўпартыя баі. На працяжэнні ад Маладзечна да Менска (80 клм) безупынныя баі працягваліся 39 дзён (з 1/VII па 8/VIII). 28 ліпеня шляхам новага прарыву непрыяцелю ўдалося захапіць Ізяслаўль, Сёмкаў-Гарадок і іншыя пункты.

Вораг падышоў на 12 кілометраў к Менску. Апошнія 12 дзён

*) „Красный архив", 1938 г. № 1 (86), стар. 120.

(з 28/VII па 8/VIII) баі адбываліся пад самым Менскам. Артылерыйскі і кулямётны агонь за гэтыя дні амаль не спыняўся. Праціўнік засыпаў горад градам снарадаў. Дрэнна апранутыя, недастаткова накормленыя чырвоныя байцы гераічна адбівалі націск пераважаўшых колькасцю, добра ўзброеных і абутых, выкармленых і апранутых Антантай польскіх легіянераў. Бліжэйшыя к Менску вёскі—Пыльніца, Паперня і інш. некалькі раз пераходзілі з рук у рукі. Ворагу ўдалося было падыйсці ўжо на 8 кілометраў к Менску, як на наступны дзень магутным контрударам чырвоныя байцы адкінулі яго за 30 з лішнім кілометраў.

У пачатку жніўня да палякаў прыбыла значнае падмацаванне—легіянеры корпуса Даўбор-Мусніцкага. Паколькі ўзяць Менск у адкрытым баі легіянеры не здолелі, яны скрыта, абходнымі шляхамі падышлі да горада. Зранку 8 жніўня баі адбываліся ўжо ў прадмесцях. Чырвоная армія прыкладала ўсе сілы, каб абараніць прадмесці, даць магчымасць закончыць эвакуацыю ўстаноў і маемасці. З вялікімі стратамі праціўнік прасоўваўся ад квартала да кварталу і толькі к 6 гадзінам вечара аўладаў горадам.

Праціўнік працягваў ярасна наступаць. Чырвоныя войскі, абараняючы кожную пядзю зямлі, адступалі на лінію Бярэзіны. Белапалякі 10 жніўня захвацілі Слуцк, 12 жніўня—Ігумен, у 20 лічбах жніўня падышлі да Бярэзіны і занялі Нова-Барысаў. 22 жніўня яны падышлі да Бабруйска, дзе сустрэлі ўпартае супраціўленне і толькі 29 жніўня аўладалі горадам.

Белапольскія паны ўжо марылі аб паходзе на Смаленск і Маскву. Польскае камандаванне намеціла план прарыву чырвонага фронта каля Бабруйска, каб захапіць важнейшыя стратэгічныя пункты—чыгуначныя вузлы Калінкавічы і Гомель. Сцягнуўшы буйныя сілы, праціўніку ўдалося пераправіцца праз Бярэзіну і крыху прасунуцца ўперад.

Але планы польскага камандавання праваліліся.

Пад кіраўніцтвам тав. Сталіна Чырвоная Армія і беларускі народ далі зарваўшамуся ворагу адпор.

У ліпені 1919 г. партыя паслала на Заходні фронт бліжэйшага саратніка Леніна і Сталіна—Серго Орджанікідзе—члена Рэўваенсовета 16 арміі. Таварыш Сталін і Орджанікідзе распрацавалі стратэгічны план разгрому белапольскіх часцей.

У падпісаным тав. Сталіным загадзе гаварылася:

> «Праціўнік, пераправіўшыся праз Бярэзіну ў раёне Бабруйска, адкінуў нашы часці, якія прыкрывалі гэты ўчастак ракі на ўсход і паўднёвы ўсход, і працягвае развіваць свой поспех як у напрамку на Рагачоў і Жлобін, так і на Рэчыцу, у абход Мазырскага ўмацаванага раёна. З прычыны стварыўшайся пагрозы для Гомельскага чыгуначнага вузла, які мае вялікае стратэгічнае значэнне я рашыў сканцэнтраваць магчыма большыя сілы ў раёне Магілева, разбіць бабруйскую групу праціўніка, нанёсшы ёй удар ва фланг і ў тыл» *).

Гэта аперацыя была ажыццёўлена пад непасрэдным кіраўніцтвам тав. Орджанікідзе. Небяспека захвату непрыяцелем важнейшых стратэгічных пунктаў была ліквідавана.

У адпаведнасці з указаннямі тав. Сталіна Серго Орджанікідзе рас-

*) Партархіў пры ЦК КП(б)Б, ф. № 60, с. 220.

працаваў дэтальны план абароны ўсёй лініі фронта па р. Бярэзіне, якую займала 16 армія. Згодна аператыўнаму загаду за № 155, падпісанаму тав. Орджанікідзе, лінія фронта размяркоўвалася на баявыя ўчасткі, дакладна вызначаны былі галоўныя пункты абароны, кожнаму падраздзяленню даны ясна ачэрчаныя заданні.

Пасля няўдалай спробы прарвацца ля Бабруйска, польскае камандаванне к канцу жніўня сцягнула буйныя сілы ў раёне Барысава. Канцэнтраваным ударам белапалякам спачатку ўдалося пераправіцца праз Бярэзіну і захапіць Стара-Барысаў. На гэтым участку стварылася для нас сур'ёзная небяспека. Тав. Орджанікідзе рашыў ва што-б там ні стала звярнуць Барысаў і адкінуць палякаў за Бярэзіну. Палявы штаб 16 арміі знаходзіўся ў 20 кілометрах ад Барысава—на станцыі Прыяміна. Перш за ўсё патрэбны былі дакладныя весткі аб распалажэнні і сілах праціўніка. Серго Орджанікідзе рашыў сам пайсці ў разведку. У цёмную ноч разам з членамі барысаўскага рэўкома і некалькімі чырвонаармейцамі ён з вінтоўкай у руках накіраваўся ў тыл белапалякаў. Разведчыкі дайшлі да прадмесця Барысава і дакладна ўстанавілі сілы праціўніка і іх распалажэнне. Праз два дні Серго Орджанікідзе павёў часці Чырвонай Арміі ў наступленне, узяў Барысаў і адкінуў праціўніка за Бярэзіну.

Дзякуючы арганізатарскім і ваенным талентам таварышоў Сталіна і Орджанікідзе, гераічная 16 армія, пры шырокай падтрымцы працоўных мас насельніцтва, спыніла далейшае наступленне белапалякаў. Фронт стабілізаваўся уздоўж лініі ракі Бярэзіны аж да вясны 1920 года, калі пачаўся трэці паход Антанты.

Пасля разгрому першага і другога паходаў Антанта арганізавала трэці паход на Совецкую Расію. На гэты раз яна рашыла выкарыстаць панскую Польшчу і генерала Врангеля, які з разбітых дзенікінскіх войск стварыў у Крыму армію, пагражаючы Данбасу і Украіне.

Атрымаўшы невялікую перадышку к пачатку 1920 г., Совецкая Рэспубліка імкнулася хутчэй прыступіць да мірнага гаспадарчага будаўніцтва. Совецкі ўрад неаднакроць прапанаваў Польшчы пачаць мірныя перагаворы, згаджаючыся прызнаць граніцай лінію фронта, якая ўстанавілася к гэтаму часу.

Але Польшча абвергла ўсе мірныя прапановы Совецкага ўрада. Пілсудскі, фактычна глава польскага ўрада, разлічваў, што змораныя ў баях з Калчаком, Дзенікіным і іншымі белагвардзейскімі полчышчамі чырвоныя войскі не вытрымаюць наступлення польскай арміі, добра ўзброенай Антантай.

> «У палякаў быў план: захваціць правабярэжную частку Совецкай Украіны, захваціць Совецкую Беларусь, аднавіць у гэтых раёнах уладу польскіх паноў, расшырыць межы польскай дзяржавы «ад мора да мора», ад Данцыга да Одэсы, і за дапамогу, аказваемую ім Врангелем,—дапамагчы Врангелю разбіць Чырвоную Армію і аднавіць у Совецкай Расіі ўладу памешчыкаў і капіталістаў.
>
> Гэты план быў адобран дзяржавамі Антанты» *).

26 красавіка 1920 года польскія войскі на чале з Пілсудскім уторгнуліся на тэрыторыю Украіны і накіравалі галоўны удар на Кіеў. На кіеўскім напрамку палякі мелі вялікую перавагу: 50 тысяч салдат

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 228.

супроць 15 тысяч чырвонаармейцаў. Таму ўпачатку ім удалося захваціць частку Украіны, а 6 мая—Кіеў.

Так пачаўся паход панскай Польшчы на Совецкую Расію.

Захватваючы гарады і вёскі Беларусі, польскія інтэрвенты чынілі крывавую расправу над комуністамі, рэволюцыйнымі рабочымі і сялянамі. У першы-ж дзень захвату Менска палякі правялі шматлікія арышты. Многіх, на каго ўказвалі як на адказных работнікаў або комуністаў, расстрэльвалі на месцы. За першыя пяць дзён арыштавана было каля тысячы, а расстрэляна каля 100 чалавек. Усе рабочыя арганізацыі былі разгромлены. Узброеныя банды легіянераў урываліся ў клубы, рабочыя кааператывы, праўленні профсаюзаў, збівалі і грабілі ўсіх, хто трапляў ім пад руку, многіх расстрэлівалі.

Тое-ж самае адбывалася ў Барысаве, Бабруйску і іншых гарадах.

З Бабруйска паведамлялі:

«Як толькі легіянеры занялі горад, пачаліся вобыскі і арышты, шукалі зброі і комуністаў... Некаторыя былі расстраляны на месцы салдатамі. У тую-ж ноч пачаўся грабёж: грабёж з перарывамі цягнуўся амаль тры дні... Калі спрабавалі звярнуць увагу каменданта на жахі, ён абмежаваўся толькі тлумачэннем, што ў Менску салдатам дазволілі грабіць тры дні, а тут толькі два» *).

Кашмарныя карціны крывавага разгулу азвярэлых польскіх бандытаў наглядаліся таксама ў мястэчках і вёсках Беларусі. У вёсцы Парэчча Рудабельскай воласці па даносу мясцовай шляхты былі арыштаваны тры члены сельскага совета. Іх раздзелі данага і пасадзілі на распаленыя да чырвані скавароды. У непрытомным стане яны былі там-жа расстраляны. Вёска Кчэрыца Бабруйскага павета была абкружана палякамі і падпалена з усіх бакоў. Уцякаўшых з вёскі расстрэлівалі. У агні і ад куль загінула 200 чалавек, мужчын, жанчын і дзяцей.

Крыважэрныя польскія паны, як і ў XVI—XVIII вяках, жорстка помсцілі свабодалюбіваму беларускаму народу.

Вялікі гуманіст А. М. Горкі ў гутарцы з супрацоўнікам Роста па поваду зверства палякаў сказаў: «Ёсць многа спосабаў аганьбіць сябе, палякі выбралі горшы» **).

Польскія інтэрвенты ў акупіраванай частцы Беларусі аднавілі буржуазна-памешчыцкі лад. 27 жніўня 1919 года выдана была абавязковая пастанова № 16, у якой гаварылася:

«Усе распараджэнні і дэкрэты большэвіцкіх улад аб прыватнай уласнасці адмяняюцца. Права прыватнай уласнасці лічыцца адноўленым...

Уся прыватная ўласнасць павінна быць звернута законным уласнікам.

Памешчыкі або іх прадстаўнікі абавязаны не пазней 10 верасня ўступіць ва ўладанне сваімі маёнткамі... ***).

Следам за акупантамі звярталіся ў свае былыя маёнткі выгнаныя рэволюцыяй польскія паны са шматлікай світай узброенай стражы, лакеяў, прыхлябацеляў і зноў усселіся на шыю сялян.

Польскія акупанты, як ненасытныя драпежнікі, грабілі і спусташалі ўсё, што толькі кідалася ў вочы. Забіралі жывёлу, хлеб, хатнія

*) Партархіў пры ЦК КП(б)Б, ф. № 60, в. 3, с. 68.
**) Партархіў пры ЦК КП(б)Б, ф. № 421, в. 1, с. 8.
***) „Звезда“ 1919 г. № 513.

рэчы, адзежу, грошы. Рабунак набыў такія размеры, што не паддаецца апісанню. Не было вёскі, якая-б не цярпела ад гвалту акупантаў.

Рэквізіцыі, паборы, падпалы, забойствы разарылі і спустошылі Беларусь. Па даных абследвання 10 валасцей Слуцкага павета, спалена 323 гаспадаркі, угнана 469 коней, 2.260 кароў, 2.199 авечак, 974 свіней, забрана 784 вазоў. Пацярпела 819 гаспадарак. Узята грашыма 71.000 рублёў, забітых—33, раненых—2 *).

Па Ігуменскаму павету спалена 2.180 дамоў, пацярпела ад пажару 13.655 чалавек **).

Даныя Цэнтральнай камісіі па падліку страт, нанесеных белапалякамі, гавораць аб тым, што польскія акупанты нанеслі страт дзяржаве, установам і прыватным асобам на тэрыторыі БССР на 52.028.281 руб. (у залатой даваеннай валюце).

Белапольская акупацыя прынесла працоўным горада вялікія бядоты. Польскія ўлады масамі звальнялі рабочых і служачых. Адразу-ж пасля захвату Менска белапалякі аб'явілі ўсім чыгуначным рабочым і служачым, што яны звальняюцца без выплаты ліквідацыйных. Тое-ж самае аб'яўлена было паштова-тэлеграфным служачым. Толькі ў адным Менску аказалася каля 8 тыс. беспрацоўных без усякіх сродкаў для жыцця. У Маладзечна з 260 чыгуначнікаў пакінута было на рабоце толькі 60 палякаў.

Беспрацоўе, галеча і голад набылі страшэнныя размеры ў гарадах і вёсках Беларусі. Аб гэтым не маглі змаўчаць нават польскія буржуазныя газеты. «Кур'ер Віленскі» ад 25 жніўня 1919 г. пісаў:

> «Амаль штодзённа ў Беларускую Цэнтральную Раду Віленшчыны і Гродненшчыны прыбываюць дэлегацыі з былой прыфрантавой паласы, а іменна з павета Свенцянскага, Ашмянскага, Новатрудскага, а ў апошні час таксама з раёна Маладзечна. Дэлегацыі прадстаўляюць звесткі аб жахлівым становішчы насельніцтва, якое літаральна вымірае ад голаду. Ужо некалькі месяцаў, як хлеба няма ў паміне, і цэлыя вёскі, пашлі жабрачыць... Як вынік голаду—жахлівая смяротнасць. Пануе чорная воспа, тыф, дэзінтэрыя—апошняя ў вельмі вострай форме... Медыцынскай дапамогі няма ніякай».

Акупанты Беларусі ўстанавілі нязносны нацыянальны гнёт. Беларускія і рускія школы былі зачынены, настаўнікі звольнены і многія арыштаваны. Дазвалялася адкрываць толькі польскія школы. Усе ўстановы пераведзены былі на польскую мову і ніякіх заяў на беларускай або рускай мове не прымалі. Вывескі дазваляліся толькі на польскай мове.

Асабліва зверскім гвалтам і здзекам падверглася яўрэйскае працоўнае насельніцтва. Пры заняцці Вільны палякі арганізавалі жудасны яўрэйскі пагром. Такі-ж удзел напаткаў і яўрэйскае насельніцтва Менска. У Віленскай яўрэйскай газеце «Тог» быў змешчан спіс 57 забітых. Польскія бандыты грамілі крамы, прыватныя кватэры, забівалі старыкоў і дзяцей, гвалтавалі жанчын і дзяўчат.

Бярэзінскі местачковы рэўком інфармаваў:

> «З самага прыходу польскіх войск у м. Бярэзіна настала цяжкае, нязноснае жыццё... для маламаемнага і сярэдняга на-

*) ЦАОР, ф. 113, св. 3, с. 56.
**) Менск, Облархіў, Фонд Ігум. павят. аддз. соц. забяспеч. інв. 154.

сельніцтва мястэчка... Забіралі ўсё, што знаходзілі каштоўнае, асабліва грошы... Таксама прымушалі 80-гадовых старыкоў станавіцца на ўзвышшы і спяваць іх нацыянальныя гімны, абрэзвалі тупымі нажамі бароды, вырываючы валасы з карэннямі, што прычыняла страшэнныя мукі» *).

Пад прыкрыццём белапольскіх штыкоў, выпаўзлі на свет подлыя здраднікі беларускага народа контррэволюцыйныя нацыяналісты—некрашэвічы, ластоўскія, скірмунты і іншыя гадзюкі. Як і ў часе нямецкай акупацыі, выстаўляючы сябе гаспадарамі, яны аддавалі Беларусь на поўнае разграбленне панскай Польшчы. У звярынай нянавісці да працоўных яны гатовы былі прадаць Беларусь каму ўгодна, абы захаваць сваё становішча эксплаататараў рабочых і сялян.

Калі ў Менск прыехаў Пілсудскі нацыяналісты віталі яго як «збавіцеля ад большэвікоў» і заклікалі хутчэй захваціць Усходнюю Беларусь. Каб дапамагчы польскім панам захапіць і заняволіць усю Беларусь беларускія нацыяналісты па заданню Пілсудскага прабавалі стварыць «беларускае войска», але ім удалося сабраць толькі нязначныя банды галаварэзаў-кулакоў на чале з бандытамі Булат-Балаховічам, Алексюком і іншымі прахадзімцамі. Беларускія сяляне пайшлі ў партызанскія атрады і ў Чырвоную Армію, каб вызваліць родную зямлю ад інтэрвентаў і іх наёмных псоў—контррэволюцыйных нацыяналістаў.

Беларускія нацыяналісты, бундаўцы, эсэры і іншыя контррэволюцыйныя партыі пастаўлялі для польскага генеральнага штаба і дэфензівы кадры правакатараў, шпіёнаў і дыверсантаў, якія аддавалі лепшых сыноў беларускага народа ў крывавыя лапы польскіх катаў.

Аднаўленне ненавіснага польска-панскага ярма і капіталістычнай кабалы, нацыянальна-каланіяльнае прыгнечанне, крывавы тэрор, яўрэйскія патромы і дзікія здзекі над рабочымі і сялянамі Беларусі—вось што прынеслі з сабой белапольскія акупанты і іх верныя лакеі, беларускія нацыяналісты. Працоўныя Беларусі ніколі не забудуць гэтыя 11 месяцаў крывавага панавання польскіх паноў і іх наёмных слуг на Беларусі.

Беларускі народ у наступаўшых белапаляках пазнаваў сваіх спрадвечных заклятых ворагаў—польскіх паноў.

«Высоўваючыся за межы Польшчы і паглыбляючыся ў прылягаючыя да Польшчы раёны,—пісаў таварыш Сталін,—польскія войскі ўдаляюцца ад свайго нацыянальнага тылу, аслабляюць сувязь з ім, пападаюць у чужое ім і, большай часткай, варожае нацыянальнае асяроддзе. Горш таго. Варожасць гэтая паглыбляецца той акалічнасцю, што вялікая большасць насельніцтва прылягаючых да Польшчы раёнаў (Беларусь, Літва, Расія, Украіна) складаецца з няпольскіх сялян, якія церпяць гнёт польскіх памешчыкаў, што сяляне гэтыя разглядаюць наступленне польскіх войск, як вайну за ўладу польскіх паноў, як вайну супроць прыгнечаных няпольскіх сялян. Гэтым уласна і тлумачыцца, што лозунг совецкіх войск: «Далоў польскіх паноў!» знаходзіць магутны водгук сярод большасці насельніцтва ўказаных раёнаў, што сяляне гэтых раёнаў сустракаюць совецкія войскі, як

*) ЦАОР, ф. № 165, св. 3, д. № 81, стар. 26.

вызваліцеляў ад памешчыцкага ярма, што яны ў чаканні совецкіх войск паўстаюць пры першым зручным выпадку, наносячы польскім войскам удар з тылу» *).

Нянавісць беларускага народа супроць белапольскіх акупантаў вылівалася ў форму актыўнай масавай партызанскай барацьбы. Партызанскі рух рабочых і сялян арганізоўвала і ўзначальвала партыя большэвікоў, якая працавала ў надта цяжкіх умовах глыбокага падполля. Падпольнай большэвіцкай арганізацыяй у акупіраванай Беларусі непасрэдна кіраваў ЦК КПЛ і Б, які пасля захвата палякамі Менска знаходзіўся ў Смаленску.

Большэвікі Беларусі, працуючы ў падполлі, арганізоўвалі, згуртоўвалі рабочых і сялян на барацьбу з акупантамі. У Менску на Мала-Татарскай вуліцы, у кватэры рабочага друкара Палееса знаходзілася падпольная друкарня. Лістоўкі і адозвы шырока распаўсюджваліся сярод насельніцтва і польскіх салдат. Польская дэфензіва, маючы ў сваім распараджэнні шырока разгалінаваную сетку шпіёнаў і правакатараў, нярэдка раскрывала падпольныя комуністычныя арганізацыі і расстрэльвала комуністаў.

Менская партыйная арганізацыя была выдана правакатарамі. У красавіку 1920 г. быў арыштаван штаб паўстанцаў, які складаўся з кіруючых работнікаў менскай арганізацыі і рыхтаваў паўстанне ў тылу белапалякаў. Затым праведзены былі шматлікія арышты ў аколіцах Менска.

Арыштаваных падвяргалі пры допыце лютым катаванням: білі шампаламі па пятках і спіне, ваганялі пад ногці булаўкі, пракалвалі пальцы булаўкамі і выдзіралі абцугамі за астрыё, прабівалі галаву каплямі халоднай вады, прапускалі праз цела электрычны ток і т. д. Але людзі, курчачыся ад болю, моцна сціскалі зубы і маўчалі.

6 мая 1920 года ваеннапалявы суд прыгаварыў 6 чалавек да расстрэлу за стварэнне «процідзяржаўнай арганізацыі і падрыхтоўку да ўзброеных выступленняў супроць узброенай сілы дзяржавы». На наступны дзень, 7 мая, у камароўскім лесе былі расстраляны Васілеўскі Вячэслаў, Кеппе Андрэй, Пагірэйчык Васіль, Путырскі Лявон, Процкі Меленцій, Плашчынскі Сяргей, Плашчынскі Сямён і Шумскі Уладзімір.

Але ні расстрэлы, ні шыбеніцы не дапамаглі польскай жандармерыі знішчыць большэвіцкае падполле, перашкодзіць рабоце партызанскіх атрадаў. На месца загінуўшых станавіліся новыя таварышы і працягвалі работу.

Верным памочнікам партыі быў ленінскі комсамол. Працуючы ў падполлі ён даў не мала выдатных герояў, перадавых барацьбітоў за вызваленне Беларусі ад белапольскага ярма.

Партызанскі рух з першых дзён белапольскай акупацыі набываў усё больш масавы характар. Ад вёскі да вёскі кацілася хваля народнага абурэння. Кіруемыя большэвікамі сяляне выкопвалі захаваную зброю або, узброіўшыся чым папала, ішлі ў глухія лясы. Партызанскі рух шырока ахапіў Менскі, Ігуменскі, Бабруйскі, Барысаўскі, Слуцкі, Мазырскі і іншыя паветы.

У Дукорскай валасці арганізаваўся партызанскі атрад у 40 чалавек пад кіраўніцтвам матроса Андрэя Блажко, у суседняй Пярэжыр-

*) Сталін, Артыкулы і прамовы аб Украіне, стар. 94.

скай воласці партызанскі атрад налічваў 80 чалавек. Гэта былі лепшыя прадстаўнікі бядняцка-серадняцкага сялянства, асноўны кадр байцоў, здольных пры патрэбе ўзняць новыя сотні і тысячы сялян. Дукорскія партызаны, чакаючы наступлення Чырвонай Арміі, рыхтавалі паўстанне ў тылу белапалякаў. Але ў штабе сядзеў польскі шпіён—правакатар Шаранговіч, які выдаў партызан.

У маі 1920 года карны атрад белапалякаў наляцеў на Дукоры і іншыя вёскі. Сотні сялян былі арыштаваны. Пры допытах прымяняліся ўсемагчымыя спосабы катавання. Двое сялян з вёскі Харовічы былі без усякага суда расстраляны. Нарэшце, 17 мая чырвоныя партызаны прадсталі перад ваеннапалявым судом, на якім трымаліся мужна і стойка. Суд прыгаварыў 11 партызан да расстрэлу. Праз дзве гадзіны 11 герояў расстрэлялі. Беларускі народ ніколі не забудзе імёны загінуўшых герояў: Блажко Андрэя, Камлюка Сцяпана, Крывашчока Андрэя, Рудовіча Міхаіла, Маліноўскага Максіма, Камлюка Ільі, Бурага Пятра, Камлюка Івана, Пазняка Паўла, Ахрамовіча Андрэя і Катляніка Рыгора.

Восенню 1919 г. у Рудабельскай воласці ўтварыўся партызанскі атрад, куды ўвайшло некалькі чырвонаармейцаў, якія засталіся ў белапольскім тылу. Заклік большэвікоў да барацьбы з акупантамі пашыраўся ў асяроддзі сялян, і партызанскі атрад хутка вырас да 200 чалавек.

У студзені 1920 г. польскае камандаванне накіравала супроць рудабельскіх партызан атрад войска ў 1500 штыкоў пры 30 кулямётах. Правакатары ўказалі месцазнаходжанне партызан. Раніцай 16 студзеня белапалякі нечакана акружылі Рудабелку—цэнтр партызанскага атрада—адкрылі па ёй ружэйны і кулямётны агонь, а потым падпалілі вёску. Дзесяткі два партызан геройскі адбіваліся сярод дыму полымя і амаль усе загінулі ў няроўным баі.

Тое-ж самае адбывалася ў суседніх вёсках. У полымі пажараў, у клубах дыму асаджаліся палякамі вёскі Кавалі, Лаватыкі, Карпілаўкі, Новая і Старая Дубровы, Рудня, Смыковічы, Ляскі, Шкова і інш. Палякі нікога не выпускалі з падпаленых хат. У баі з белапалякамі загінула некалькі дзесяткаў партызан. Але дорага паплаціліся і легіянеры: у адной толькі Дуброве яны згубілі каля 75 чалавек.

У Бабруйскім павеце і яго аколіцах партызанскі рух дасягнуў вышэйшага развіцця ў 1920 г. Амаль уся батрацка-бядняцкая і серадняцкая частка сялянства ў той ці іншай меры вяла барацьбу супроць акупантаў, садзейнічала Чырвонай Арміі; хто выступаў са зброяй у руках, хто ішоў у разведку. У Бабруйшчыне арганізацыйна афармленых партызанскіх атрадаў было каля 80, у якіх налічвалася да тысячы чалавек *).

На Мазыршчыне партызанскі рух выключна шырокі размах набыў у Каралінскім, Петрыкаўскім, Капаткевіцкім і Азарыцкім раёнах.

У м. Азарычы, у тылу польскай арміі, партызанскі атрад складаўся з 500 чалавек пры 300 вінтоўках. Партызаны, хоць і слаба ўзброеныя, каля трох тыдняў гераічна змагаліся з палякамі, абараняючы мястэчка да прыходу Чырвонай Арміі.

Партызанскі атрад каля м. Скрыгалава паміж рэкамі Маляроўкай і Пціч разабраў чыгуначны шлях і пусціў польскі бронепоезд пад адкос. 6 партызан былі пры гэтым захоплены. Белапалякі прымусілі

*) Партархіў, ф. № 60, св. 17, д. № 477.

іх выкапаць сабе яму і стаць каля яе ў рад. Пасля залпу з вінтовак некаторыя партызаны былі толькі паранены, але іх усёроўна закапалі ў магілу разам з мёртвымі.

Сярод арганізатараў партызанскага руху на Мазыршчыне віднае месца займае Васіль Ісакавіч Талаш, майстэрскі апісаны ў творы Якуба Коласа «Дрыгва». Дзед Талаш перабраўся праз белапольскі фронт і арганізаваў у тылу партызанскі атрад з 300 чалавек. Гэты атрад зрабіў налёт на Навасёлкі, каля Петрыкава. Палякі былі выбіты з вёскі, пакінуўшы многа забітых і раненых. Партызаны захапілі кулямёт і каля 20 вінтовак. Дзед Талаш за выдатныя заслугі перад радзімай узнагароджан быў ордэнам Чырвонага сцягу.

Амаль кожная вёска Мазыршчыны дала сваіх партызан, якія хаваліся ў лясных нетрах, у непраходных балотах, рабілі раптоўныя налёты на польскія абозы, знішчалі масты, рвалі тэлеграфныя правады і т. д.

З вясны 1920 года, у чаканні наступлення Чырвонай Арміі барацьба працоўных Беларусі набыла характар амаль паўсямеснага паўстання. Партызанская барацьба беларускага народа аблягчыла наступленне Чырвонай Арміі. Варожасць тылу і беспрыкладны ўздым духа народа і совецкіх войск у барацьбе супроць акупантаў, як указваў таварыш Сталін, «не можа не ствараць унутры польскіх войск атмасферу няўпэўненасці і незабяспечанасці, не можа не разбураць у іх стойкасць духа, веру ў правату сваёй справы, веру ў перамогу, не можа не ператварыць нацыянальную спайку польскіх войск з фактара станоўчага ў фактар адмоўны» *).

У 1920 годзе, у перыяд наступлення Польшчы, асноўным лозунгам партыі зноў стаў заклік: «Усе на фронт!». Цяпер ужо на заходнім фронце і на фронце супроць Врангеля вырашаўся лёс Совецкай рэспублікі. Партыя паслала тысячы лепшых комуністаў на польскі фронт. Комсамол абвясціў усерасійскую мабілізацыю моладзі. Рабочыя Петраграда, Масквы, Саратава, Орэнбурга і іншых гарадоў Совецкай Расіі прымалі рэзалюцыі аб дапамозе Беларусі і Украіне ў разгроме польскіх паноў і пасылалі на заходні фронт атрады добраахвотнікаў. Па ўсіх кутках Совецкай краіны арганізоўваліся комуністычныя суботнікі ў дапамогу заходняму фронту. Супроць наступаўшых польскіх паноў партыя і ўрад накіравалі лепшыя сілы.

Як і заўсёды, у найбольш адказныя моманты на польскі фронт прыбыў тав. Сталін у якасці члена рэўваенсовета паўднёва-заходняга фронта. Тав. Сталін распрацаваў стратэгічны план разгрому белапалякаў, намеціўшы асноўны напрамак канцэнтраванага ўдару на Бердзічаў—Жытомір. Гэты план быў ажыццёўлен.

Па рашэнню Леніна і Сталіна на заходні фронт перакінута была авеяная славай Першая конная армія на чале з тт.Варашылавым і Будзённым. Першая конная за 43 дні зрабіла беспрыкладны ў гісторыі тысячакілометравы пераход ад Майкопа (Паўночны Каўказ) да Умані (на Украіне). Прыбыўшы 23 мая на паўднёва-заходні фронт, чырвоная конніца зараз-жа прыступіла да ажыццяўлення сталінскага стратэгічнага плана і хутка забяспечыла пералом на фронце.

У маі 1920 г. белапольскія войскі, карыстаючыся колькаснай перавагай, дасягнулі значных поспехаў у наступленні. На правым флангу яны прасоўваліся па лініі Кіеў—Жмерынка, пагражаючы

*) І. Сталін. Артыкулы і прамовы аб Украіне, стар. 94.

Одэсе. На левым флангу польскія войскі стрымлівалі наступальныя дзеянні чырвоных войск у напрамку Маладзечна—Менск. У цэнтры палякі замацавалі Мозыр, занялі Рэчыцу і пагражалі Гомелю.

Але поспехі польскіх войск былі ліквідаваны. 5 чэрвеня Першая конная моцным ударам прарвала фронт у раёне Папельня—Казацін, прайшла рэйдам раён Бердзічава і 7 чэрвеня заняла Жытомір. Прарыў фронта ля Жытоміра паставіў пад непасрэдную пагрозу сувязь праціўніка з тылам. Баючыся акружэння трэцяя польская армія ў раёне Кіева кінулася ў панічнае бегства, палячы свае абозы, узрываючы склады, кідаючы зброю. Другая польская армія, атрымаўшы ў раёне Бердзічава ўдар Чырвонай Арміі пачала паспешна адступаць, 6 польская армія ў раёне Жмерынкі таксама пачала адступленне на захад. 12 чэрвеня Чырвоная Армія вызваліла ад белапалякаў Кіеў. Прарыў польскага фронта на паўднёва-заходнім участку забяспечыў перелом на ўсім фронце.

4 ліпеня 3-я, 4-я, 15-я і 16-я арміі перайшлі ў быстрае наступленне на заходнім фронце. Беларускія партызаны грамілі праціўніка з тылу. Не вытрымаўшы сакрушальнага ўдару з фронта і тылу, белапалякі кінуліся ў панічнае адступленне. Часці 16-й коннай арміі 8 ліпеня занялі Барысаў і хутка прасоўваліся наперад, праследуючы ашалелых ад страху польскіх паноў. 11 ліпеня Чырвоная Армія пры ўсеагульнай радасці і лікаванні працоўных уступіла ў Менск.

Наступленне Чырвонай Арміі выклікала новы магутны ўздым партызанскага паўстанцкага руху. Рабочыя і сяляне Беларусі пад кіраўніцтвам большэвікоў грамілі адступаўшага ворага, разбуралі масты і пераправы, перарэзвалі шлях адступлення, адбіралі награбленае дабро. Народны патрыятычны ўздым яшчэ больш узмацняў баявы энтузіязм Чырвонай Арміі, натхняў яе ўпэўненасцю ў перамозе. Стваралася непарыўнае адзінства і спаянасць фронта і тылу—неабходная ўмова перамогі над ворагам.

Таварыш Сталін, член рэўваенсовета, у гутарцы з карэспадэнтам газеты 16-й арміі «Красноармеец» расказаў аб вялікім уздыме беларускага народа, аб яго любві да Чырвонай Арміі.

> «Такіх адносін мне не даводзілася сустракаць ні на ўсходзе, ні на поўдні.
>
> Не гледзячы на беднасць сялянскіх мас на захадзе ў параўнанні з Паваложжам і поўднем, усё-ж сяляне дзяліліся апошнім з чырвонаармейцамі...
>
> Што датычыць настрою беларускіх сялян зафронтавай паласы, то, па нашых звестках, там адбываюцца суцэльныя паўстанні, працуюць партызанскія атрады, якія разбураюць тыл праціўніка, спальваючы склады і знішчаючы памешчыкаў.
>
> Можна смела сказаць, што паўтараецца тая-ж гісторыя, што ў Сібіры з Калчаком.
>
> Пры набліжэнні нашых часцей паўсюды тыл праціўніка пачынае ўзрывацца знутры.
>
> Мы прысутнічаем у цяперашні час пры сапраўднай сялянскай рэволюцыі на Беларусі».

Высокі баявы дух беларускага народа, яго бязмежная любоў да Чырвонай Арміі зусім зразумелы. У вялікай вызваленчай барацьбе працоўных супроць ненавіснага ярма польскіх паноў і іх пасобнікаў беларускі народ у асобе наступаўшай Чырвонай Арміі бачыў брацкую

дапамогу вялікага рускага народа, з якім ён быў звязан кроўнымі ўзамі брацтва і супрацоўніцтва на працягу ўсёй сваёй гісторыі. Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна брацкі рускі народ дапамог беларускаму народу прагнаць польскіх паноў, адстаяць совецкую ўладу, сваю нацыянальную свабоду і незалежнасць. Беларускі народ ніколі не забудзе гэтай брацкай дапамогі.

Вызваліўшы Украіну і Беларусь, чырвоныя войскі ў сваім наступальным парыве ў жніўні 1920 г. наблізіліся да Варшавы. Справа ішла к поўнаму паражэнню польскіх паноў.

> «Але падазроныя дзеянні Троцкага і яго староннікаў у галоўным штабе Чырвонай Арміі сарвалі поспехі Чырвонай Арміі. Наступленне Чырвоных войск на заходнім фронце, у бок Варшавы, праходзіла—па віне Троцкага і Тухачэўскага—зусім неарганізавана: войскам не давалі замацоўваць заваяваных пазіцый, перадавыя часці былі заведзены надта далёка ўперад, рэзервы і боепрыпасы былі пакінуты надта далёка ў тылу, перадавыя часці былі пакінуты, такім чынам, без боепрыпасаў, без рэзерваў, лінія фронта была прадоўжана да бясконцасці і, значыць, быў аблегчан прарыў фронта. З прычыны ўсяго гэтага, калі невялікая група польскіх войск прарвала наш заходні фронт у адным з яго пунктаў, нашыя войскі, якія асталіся без боепрыпасаў, вымушаны былі адступіць»*).

Шкодніцкім загадам Троцкі навязаў чырвоным войскам паўднёвага фронта адступленне з-пад Львова.

> «Праз некалькі дзён наступленне польскіх войск было спынена, і нашы войскі пачалі рыхтавацца да новага контрудару супроць палякаў. Але Польшча, не маючы сілы прадаўжаць вайну і з трывогай чакаючы контрудару чырвоных, аказалася вымушанай адмовіцца ад сваіх прэтэнзій наконт захвату правабярэжнай Украіны і Беларусі і палічыла за лепшае заключыць мір з Расіяй. 20 кастрычніка 1920 года быў заключан з Польшчай у Рыге мірны дагавор, па якому Польшча захавала за сабой Галіцыю і частку Беларусі» **).

Так пад кіраўніцтвам вялікай большэвіцкай партыі і асабіста таварыша Сталіна паход панскай Польшчы на Совецкую Украіну, Беларусь і Расію быў разгромлен.

Вызваліўшыся ад белапольскіх інтэрвентаў, Совецкая Беларусь у цесным саюзе з Совецкай Расіяй і іншымі совецкімі рэспублікамі прыступіла да аднаўлення разбуранай народнай гаспадаркі, да соцыялістычнага будаўніцтва.

У дружнай брацкай сям'і народаў пры велізарнай дапамозе вялікага рускага народа, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і асабіста таварыша Сталіна, БССР хутка залячыла свае раны, аднавіла разбураную народную гаспадарку, ліквідавала эксплаататарскія класы, забудавала пачатковую фазу комуністычнага грамадства—соцыялізм і пераможна ідзе да комунізма.

За 19 год з часу вызвалення ад белапольскіх акупантаў у корані змянілася аблічча Совецкай Беларусі. З адсталай, убогай і цёмнай

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б),“ стар. 228.
**) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)“, стар. 229.

ускраіны Расійскай імперыі яна ператварылася ў перадавую квітнеючую індустрыяльна-калгасную ордэнаносную рэспубліку, свабодную і роўнапраўную сярод 11 брацкіх совецкіх рэспублік.

На аснове соцыялістычнай эканомікі, павышэння прадукцыйнасці працы нязмерна вырас матэрыяльны дабрабыт працоўных БССР.

Нябачанага росквіту дасягнула культура беларускага народа,— нацыянальная па форме, соцыялістычная па зместу. Да рэволюцыі непісьменным было 75 проц. насельніцтва, а жанчын—90 проц. Пачатковыя і сярэднія школы рэдкі. Вышэйшых навучальных устаноў зусім не было. Зараз Совецкая Беларусь—рэспубліка суцэльнай пісьменнасці. У 7.084 школах навучаецца 1.184 тыс. дзяцей. Пры совецкай уладзе створана 22 ВНУ, у якіх навучаецца 15.540 студэнтаў, і 97 тэхнікумаў з 33.300 студэнтаў. Толькі за другую пяцігодку ВНУ выпусцілі 7.444 спецыялістаў і тэхнікумы—29.678. У рэспубліцы працуе цэлая армія совецкай соцыялістычнай інтэлігенцыі—актыўных будаўнікоў соцыялізма.

Таварыш Сталін на XVIII з'ездзе ВКП(б) паставіў задачу:

> «Не забываць аб капіталістычным акружэнні, памятаць, што замежная разведка будзе засылаць у нашу краіну шпіёнаў, забойцаў, шкоднікаў. Памятаць аб гэтым і ўмацоўваць нашу соцыялістычную разведку, сістэматычна дапамагаючы ёй граміць і карчаваць ворагаў народа».

Гэта ўказанне асабліва важна для нашай пагранічнай рэспублікі. Прэзрэнныя здраднікі радзімы—агенты фашысцкіх разведак, беларускія нацыяналісты разам з трацкісцка-бухарынскай бандай шпіёнаў, дыверсантаў і забойц вялі падрыўную шпіёнскую работу ў нашай рэспубліцы. Яны рыхтаваліся прадаць Беларусь у каланіяльнае рабства панскай Польшчы, вярнуць беларускаму народу памешчыцка-капіталістычную эксплаатацыю, галечу, голад, цемру, выміранне. Але гэтыя подлыя планы праваліліся. Наша слаўная совецкая разведка, пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна, пры поўнай падтрымцы ўсяго совецкага народа разграміла і выкарчавала змяіныя гнёзды ворагаў народа.

Аднак ні на мінуту мы не можам забываць сталінскага ўказання аб капіталістычным акружэнні, аб тым, што ў нашу рэспубліку замежныя разведкі асабліва настойліва засылалі і будуць засылаць сваіх агентаў.

Совецкая Беларусь—неад'емная частка вялікага Совецкага Саюза—ужо дваццаць адзін год стаіць непрыступнай крэпасцю заходніх рубяжоў краіны соцыялізма. Беларускі народ, які многа пацярпеў ад іншаземных захватчыкаў і інтэрвентаў у гераічнай барацьбе заваяваў свабоду і незалежнасць, шчаслівае, раднаснае жыццё, ніколі не дазволіць, каб варожая нага ступіла на яго родную зямлю. Разам з усімі народамі Совецкага Саюза пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна беларускі народ дасць сакрушальны адпор усім пасяганням фашысцкіх агрэсараў на соцыялістычную радзіму.

## *Ад аддзела кансультацый журн. „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“*

Пасля выхаду ў свет «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» прыток пісем у рэдакцыю журнала «Большэвік Беларусі» значна павялічыўся. Рад чытачоў просіць растлумачыць незразумелыя для іх пытанні, якія сустракаюцца пры вывучэнні «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)». З пытаннямі звараюцца агітатары, прапагандысты, рабочыя, калгаснікі, совецкая інтэлігенцыя.

Даць адказы на ўсе пытанні на старонках журнала немагчыма. На многія з іх рэдакцыя паслала сваім чытачам адказы ў пісьмовай форме, а частку асвятліла на старонках журнала ў форме кансультацый.

За перыяд з 1 студзеня было змешчана 10 кансультацый і адказаў на пытанні чытачоў.

У № 1 журнала змешчана кансультацыя **Н. Гракава**—«Рэволюцыйны рух на Беларусі ў студзеньскія дні 1905 года» і **С. Топаза**—«Аб ролі асобы ў гісторыі». Даны адказы тав. **Доўжыку І. Г.** (г. Рэчыца) на яго пытанне аб значэнні нарады 22-х большэвікоў у барацьбе за скліканне III з'езда і тав. **Ігнацені П. І.** (Старобінскі раён, Менская вобласць) на пытанне: «Што такое «Крымская кампанія».

У № 2 журнала змешчана кансультацыя **А. Свама**—«Аб двух родах войн» і **П. Рубенчыка**—«Аб значэнні кнігі Плеханава «Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю» ў прапагандзе ідэй марксізма ў Расіі». Дан адказ на пытанне тав. **Злынава** (г. Жлобін) аб народным паўстанні ў Кітаі ў 1900 годзе.

У № 5 журнала змешчана кансультацыя **Г. Якуба**—«Французскія матэрыялісты XVIII века» і дан адказ на пытанне тав. **Ероміхіна** (г. Менск): «Як была праведзена на Беларусі адмена прыгоннага права ў 1861 годзе».

Пісьмовыя адказы пасланы: тав. **Камінскаму І.** (калгас імені Крупскай, Плешчаніцкі раён, Менская вобласць) на пытанне, што такое утапічны социялізм; тав. **Кавалёву П. Е.** (Блізнецкая пачатковая школа, Рагачоўскі раён, Гомельская вобласць), на пытанне, як разумець тое месца ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)», дзе гаворыцца, што ў Заходняй Еўропе прамысловасць пачала развівацца раней чым у Расіі, раней пачалі арганізоўвацца марксісцкія гурткі, але пролетарская рэволюцыя перамагла перш у Расіі і інш.

Кансультацыі пасланы: прапагандысту комсамольскай школы тав. **Злынаву Г. В.** (г. Жлобін) аб тым, як гістарычна змянялася геа-

графічнае асяроддзе і ў якой ступені яно ўплывала на жыццё і гісторыю грамадства, ці адбываюцца зараз якія-небудзь геаграфічныя змяненні; тав. **Хараненка А. Д.** (Уздзенскі раён, Менская вобласць) аб тым, што такое метафізіка.

Многа сур'ёзных пытанняў ставяць перад намі чытачы ў сувязі з вывучэннем матэрыяла XVIII з'езда ВКП(б), якімі жыве зараз уся наша краіна.

Вялікі інтарэс выклікаюць пытанні міжнароднай палітыкі, якім далі глыбокі аналіз тав. Сталін на XVIII з'ездзе ВКП(б) і тав. Молатаў на III Сесіі Вярхоўнага Совета СССР.

Тав. **Ратнікаў І. А.** (калгас «Смелы», Лоеўскага раёна, Гомельскай вобласці) і іншыя чытачы просяць растлумачыць сутнасць Версальскага міру, што такое Карпацкая Украіна, што азначае блок трох агрэсіўных дзяржаў, аб дагаворы 9-ці дзяржаў, чым абдзялілі Італію пры дзеляжы здабычы пасля першай імперыялістычнай вайны, што такое дэмпінг, у чым сутнасць пацыфізма.

Многія таварышы звараочаюцца з просьбай указаць, дзе можна дастаць дадатковую літаратуру для вывучэння гісторыі нашай партыі.

Тав. **Багдановіч П.** (Барова-Будская НСШ, Кармянскага раёна, Гомельскай вобласці), пытае, як і дзе можна набыць кнігі: К. Маркса «Капітал»; Ф. Энгельса «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы»; творы Плеханава «Да пытання аб маністычным поглядзе на гісторыю», «Соцыялізм і палітычная барацьба», «Нашы рознагалоссі», і т. д.

Мы пералічылі толькі невялікую частку пытанняў, з якімі чытачы звараочаюцца да рэдакцыі ў сваіх пісьмах. Масавы паток пісем сведчыць аб узросшай палітычнай актыўнасці, аб вялікім імкненні шырокіх мас аўладаць тэорыяй марксізма-ленінізма.

Задача журнала—усямерна дапамагаць прапагандыстам, агітатарам і кожнаму чытачу, які самастойна вывучае «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» і матэрыялы XVIII з'езда партыі.

**РЭДКАЛЕГІЯ.**



Уп. Галоўліта БССР № 412
Тыраж 8200 экз.
352.000 друк. зн. (6½ арк.)
Здана ў набор 8/VI—39 г.
Падпісана да друку 1/VII—39 г.

Друкарня імя Сталіна, Менск, Дом Друку. Зак. № 681.

